ВЕРНІСАЖ

# МІНСКІ АР'ЕРГАРД

*НАТАТКІ БЫЛОГА АФАРМІЦЕЛЯ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛЕНІНІЯНУ*

І...

Аднаго разу выйшаў я на пляц, дзе збіраюцца мітынгі ды праходзяць парады, і сустрэў я ў натоўпе Сяргея. Той разважаў:

— А што, калі ўзяць жалезны трос, зрабіць пятлю і накінуць на шыю помніку? А чалавек гэтак з тысячу возьмуцца за той трос ды пацягнуць?.. Як мяркуеш, скінуць ці не скінуць?

Мне ўявілася намаляваная Сяргеем карцінка, і я ўбачыў, як адлятае помнікава галава...

— Не скінуць! Калі пятлю накласці толькі на шыю, дык галава адскочыць, а помнік застанецца. Трэба ўсю постаць абвязаць, а потым цягнуць, тады ўвесь і заваліцца. Толькі нашто помнік валіць?

— Э-э-э,— пачаў разважлівы Сяргей,— справа не ў помніку і нават не ў Леніне, а ў тым, што ён зараз апошні рэальны

Крыніца
РОДНИК

№ 2 1991

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на беларускай і рускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 12 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71,
36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР
па друку
Здадзена ў набор 23.11.90.
Падпісана да друку 21.01.91.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 9,4. Тыраж 42 621 экз.
Зак. 1067. Цана 65 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79.

Афармленне нумара
Канстанціна ВАШЧАНКІ
і Валерыя РУЛЬКОВА

# Быў у маці сын...

Людзі мілыя, людзі добрыя, землякі дарагія! Дапамажыце! Цяжка мне! Страшна мне!

1 верасня 1990 года пахавала сваё адзінае дзіця. 19 год было яму. Прывезлі ў цынкавай труне з далёкай Амурскай вобласці. Служыў ён там у чыгуначных войсках.

Забілі яго. А за што? І хто забіў? Ніхто не хоча адказаць. Ні маёр, ні падпалкоўнік, ні салдат, што прывезлі сыночка на могілкі. Гавораць, што выйшаў у 21 гадзіну 15 мінут з памяшкання роты на двор часці і больш не прыйшоў.

Я жыву за 11 тысяч км ад яго. Да мяне прыляцелі тэлеграмы, што ён, мабыць, дома. Міліцыянер прыязджаў, з ваенкамата афіцэры прыязджалі. І ўсе гаварылі, каб ён хутчэй выходзіў з дому і ехаў служыць. Увесь месяц быў страшны. Я ведала, што сын не пабяжыць дамоў: яму засталося служыць 3 месяцы. А 25 ліпеня на дзень нараджэння я сама ездзіла да яго. Пабачыла сыночка, пагутарыла з ім. Ён у мяне высокі, танклявы, прыгожы. А галоўнае, ён вельмі добры, ён нікога ў жыцці не пакрыўдзіў, нікога не ўдарыў. Ён вельмі любіў людзей.

Яму трэба было на настаўніка вучыцца, а ён паступіў у ваеннае вучылішча. Правучыўся год с паловай і рашыў, што яго месца дома, у роднай вёсцы, дзе жывуць яго маці і бабулька старэнькая.

Жорстка распраўляюцца афіцэры з тымі, хто не можа ці не хоча вучыцца ў ваенным вучылішчы. Іх ссылаюць, як у царскай Расіі. Саслалі і майго сына ў Амурскую вобласць, у страшны пасёлак Февральск. Ён быў у роце **адзін беларус**, а ўсяго ў батальёне чатыры беларусы. Як гэта так? Чаму нельга, каб беларусаў было па 3—4 у роце, каб яны маглі пагаварыць, пасябраваць. Усе салдаты з іх роты з паўднёвых рэспублік. Яны заўсёды размаўляюць на сваёй мове, дружаць між сабой.

Знік мой хлопчык, і ніхто не бачыў куды. А 25 жніўня знайшлі яго цела за тэрыторыяй часці, у кустах. Знайшлі адны косці, бо груганы зніявечылі твар яго, а звяры дзікія — цела. Толькі па ваенным білеце пазналі, што гэта мой хлопчык, дзіця маё жаданае, надзея ўсяго майго жыцця.

Я не ведаю, як расказаць вам, як я была рада, што ў мяне такі добры сыночак. На дзесяты год у сям'і з'явіўся ён, не было ў нас дзяцей раней.

Праз дзесяць месяцаў захварэў цяжка мой муж, бацька майго сыночка. Калі сыну было 2 гады, мужа не стала. Засталіся мы ўдваіх, прыехала да нас бабуля, маці мая. Сталі мы жыць утраіх. Бабуля — удава з 1941 года. Я вучыла дзяцей у школе, бабуля ўнучыка глядзела, вучыла, як жыць, як паводзіць сябе.

Дзіця расло ласкавае, спагадлівае. Бачыў хлопчык, як цяжка жыць удовам у вёсцы. Покуль бульбу пасадзім, ды вырасцім яе, слязьмі пальем, то і саліць не трэба. Дапамагаў чым мог, ды слабенькія былі плечы. Але стаў расці, расці, вырас высокі (1 м 86 см), захацелася стаць афіцэрам. Два гады рыхтаваўся: бегаў, выконваў розныя практыкаванні, многа чытаў.

За што яго трэба было так наказаць, саслаць так далёка ад Беларусі, ад беларусаў? Каб былі там земляткі, яны б ніколі не пакінулі яго ў бядзе!

Мой хлопчык не мог нікога абразіць. Гэта скажуць усе людзі ў вёсцы, у школе. Ён нікога не пакрыўдзіў і ў вучылішчы, хоць быў фізічна развіты. Ён і салдат нікога не чапаў.

За што ж яго забілі? Можа, што быў курсантам, ці меў у кішэні 10 рублёў, а можа, што ён беларус, ці можа за тое, што ў маці ён адзін на белым свеце. А мне ўжо 53 гады, а бабулі 77 гадоў. А ён жа наша надзея! Мы ж толькі яго чакалі! А хто ж нам дапаможа? Каму мы патрэбныя? Старыя, знямоглыя. Каму ж нам пісьмы пісаць?

Няўжо нашаму грамадству не патрэбныя людзі з добрай душой, людзі, а не звяры?

А я ж яго вучыла ўсё жыццё быць шчырым, справядлівым, дапамагаць людзям у бядзе. Я ж яго першая настаўніца.

А як жа маглі афіцэры і салдаты не шукаць свайго таварыша? Свайго салдаціка? А як ён паміраў? Ці яго рэзалі, ці білі, ці на кавалачкі ірвалі?! А каго ён клікаў у апошнюю хвіліну? Ніхто ж яму вочкі не закрыў!

Людзі, як мне жыць? У які час мы жывем? Як мне вочы закрыць, калі перада мной ляжыць мой сыночак безабаронны. Тры тыдні пад пякучым сонцам, а яго ніхто не шукае. Ці можа гэта быць у 1990 годзе? Чаму забіраюць ад маткі аднаго-адзінюткага сына і потым забіваюць яго?!

Страшна мне! Жудасна мне! Дапамажыце знайсці забойцу. Сюды да нас прысылалі нейкага прапаршчыка з Амура, дык ён ні разу не зайшоў да мяне, а слаў тэлеграмы сваім афіцэрам, што ён гутарыў са мной. Што гэта за армія? Адны ілгуны! Прыязджаў нейкі капітан з Амурскай вобласці і ўсё даводзіў мне, што сыну было цяжка і ён пайшоў сам паміраць у тайгу. З нейкім жахам я глядзела на капітана і думала, чаму ж ён такое глупства кажа. Сын любіў мяне, сваю маці, ён вельмі хацеў дамоў. Здарылася страшная трагедыя, а ніхто не хоча ўнікнуць, разабрацца. Усе афіцэры дрыжаць за свае зорачкі. Адным выстралам забіт сын мой, маці яго і бабуля.

Мы глядзім на фотакарткі: такі маладзенькі! Ён не паспеў яшчэ нічога зрабіць у жыцці. Не курыў, не піў, не было ў яго яшчэ дзяўчыны. Увесь час свабодны ўсё чытаў. Думаў пра адну дзяўчыну. Яна была, як хавалі сыночка ў магілу.

Ён марыў купіць магнітафон, а я ніяк не магла «дастаць» яго. І паміраць буду, буду помніць, што адзіную просьбу сына не выканала.



Дзіцятка маё мілае, залатое маё, не хочацца мне жыць, але я ведаю, што памру — і ніхто не будзе цябе так помніць, як я, твая маці. Няма ў мяне дзяцей, няма ўнукаў. Хто закрые мне вочы?

Нічога не паспеў зрабіць, не застанецца ніякага следу. Мой хлопчык быў апошнім з роду Федаровічаў. Калісьці ў блакадным Ленінградзе засталася адна Таня Савічава, а ў нас у вёсцы Міша Федаровіч. Яго, майго сыночка, назвалі Мішам, так звалі яго дзядзьку, які загінуў у 1945 годзе 4 мая ў Берліне. Снайперам быў. А дзядзька ягоны Сева Федаровіч загінуў у першыя дні вайны на граніцы. Бацька майго Мішы, Георгій, быў на фронце, быў ранены пад Кёнігсбергам. У 1973 годзе памёр бацька. Сказаў, што рады, што застанецца яго сын, што род Федаровічаў жыве. Але бандыты, выродкі забілі сына. Няма нашага роду! У мірны час, у страшны час!

У гэтыя страшныя чыгуначныя войскі бяруць толькі сірот, ці хлопцаў без бацькоў, каб не было каму пытаць аб іх. Нельга дабрацца да праўды.

Як гадуеш дзіця, як ночы не спіш, як расце яно, ніхто не бача, а як вырасціш тапалёчка, тады адразу ўбачаць, забяруць і ўкладуць, і маўчы!

Страшна вінаватая перад сынам, трэба было забраць яго, павезці з сабою. Няхай бы ў турму бралі дваіх!

Як гэта Армія сыноў нашых забірае, дык няхай і нас, матак іх, страляе! Будзь яна праклята!

Два гады я выпісвала для сына часопіс «Крыніца» і пасылала яму. А зараз няма каму пасылаць...

Пісьмо пісала маці, Ларыса Леанідаўна Федаровіч з вёскі Курганне Рагачоўскага раёна, Гомельскай вобласці, БССР.

Шэрлі ДЖЭКСАН

# МАЖЛІВАСЦЬ ЛІХА

## АПАВЯДАННЕ



Міс Адэла Стрэйнджварт павольна ішла па Мэйн Стрыт да крамы. Свяціла сонейка, паветра было свежае і чыстае пасля начнога дажджу, і ўсё ў маленькім гарадку міс Стрэйнджварт выглядала чыстым і яркім. Міс Стрэйнджварт глыбока дыхала і думала, што няма нічога лепшага за свежае паветра летняга дня.

Яна ведала ўсіх гараджан і любіла расказваць турыстам — час ад часу турысты праязджалі праз горад і заўсёды любаваліся ружамі міс Стрэйнджварт,— што яна ніколі не пакідала горад болей чым на дзень за ўсё яе доўгае жыццё. Ёй быў ужо семдзесят адзін год, і час ад часу яна думала, што горад належыць ёй.

— Мой дзядуля пабудаваў першы дом на Плезант Стрыт,— гаварыла яна, шырока расплюшчваючы свае блакітныя вочы.— Вось гэты самы дом. Мая сям'я жыла тут болей за сто год. Мая бабуля пасадзіла гэтыя ружы, маці даглядала іх, а цяпер гэта раблю я. Я глядзела, як рос мой горад: я памятаю, як містэр Льюіс адчыніў гэтую краму і як рака затапіла бедныя дамы, там унізе, і як некалі хацелі разбіць парк там, дзе зараз пошта. Яны хацелі ўзняць там помнік Этану Алену,— тут міс Стрэйнджварт рабілася жорсткай,— але гэта мусіў бы быць помнік майму дзядулі. Калі б не ён і не ягоная пілярама, гэтага горада не было б.

Міс Стрэйнджварт ніколі і нікому не давала свае ружы, хаця турысты заўсёды прасілі. Ружы належалі Плезант Стрыт, і міс Стрэйнджварт не хацела, каб людзі везлі іх у іншыя, незнаёмыя гарады. Калі прыслалі новага святара і жанчыны збіралі кветкі, каб упрыгожыць царкву, міс Стрэйнджварт даслала вялізны кошык гладыёлусаў; калі ж яна зрэзвала ружы, яна ставіла іх у вазы па ўсім доме, які пабудаваў яе дзядуля.

Ідучы па Мэйн Стрыт, міс Стрэйнджварт амаль кожную хвіліну спынялася, каб павітацца, спытацца пра здароўе. Калі яна ўвайшла ў краму, з паўтузіна прадаўцоў павярнуліся да яе, каб пажадаць добрай раніцы.

— І вам добрай раніцы, містэр Льюіс,— сказала міс Стрэйнджварт.

Льюісы жылі ў горадзе амаль столькі ж, колькі Стрэйнджварты, але калі малады Льюіс скончыў школу і пайшоў працаваць у краму, міс Стрэйнджварт пакінула называць яго Томі і звала толькі містэр Льюіс, а ён больш не называў яе Эдзі, а толькі міс Стрэйнджварт. Яны разам вучыліся ў школе, разам ездзілі на пікнікі, хадзілі на танцы, але цяпер містэр Льюіс стаяў за прылаўкам крамы, а міс Стрэйнджварт жыла адна ў доме Стрэйнджвартаў на Плезант Стрыт.

— Добрай раніцы,— сказаў містэр Льюіс і ветліва дадаў:— Цудоўны дзень.

— Дзень сапраўды цудоўны,— сказала міс Стрэйнджварт так, быццам толькі цяпер вырашыла гэта для сябе.— Я вазьму адбіўную, містэр Льюіс, маленькую, не тлустую адбіўную. Гэтыя трускалкі з сада Артура Паркера? Рана ў гэтым годзе.

— Ён прывёз іх сёння раніцай,— сказаў містэр Льюіс.

— Я вазьму маленькую скрыначку.

Містэр Льюіс здаваўся заклапочаным, і яна трошкі павагалася, але потым вырашыла, што заклапочаны ён быў не трускалкамі. Ён сапраўды выглядаў вельмі стомленым. Звычайна ён быў такі жыццярадасны, але міс Стрэйнджварт вырашыла не гаварыць пра гэта містэру Льюісу і сказала:

— І бляшанку ежы для кацяняці, і, я думаю, памідор.

Містэр Льюіс падлічыў яе заказ і чакаў. Міс Стрэйнджварт здзіўлена глянула на яго і сказала:

— Сёння аўторак, містэр Льюіс. Вы забыліся.

— Няўжо? Даруйце.

— Толькі падумаць, што вы забыліся, што я заўсёды куплю па аўторках гарбату,— мякка сказала міс Стрэйнджварт.— Чвэрць фунта гарбаты, калі ласка.

— Гэта ўсё, міс Стрэйнджварт?

— Так. Дзякуй, містэр Льюіс. Цудоўны дзень, праўда?

— Цудоўны,— сказаў містэр Льюіс.

Міс Стрэйнджварт трошкі пасунулася, каб да прылаўка магла падысці місіс Харпер.

— Добрай раніцы, Адэла,— сказала місіс Харпер.

— Добрай раніцы, Марта.

— Цудоўны дзень,— сказала місіс Харпер.

— Цудоўны,— адказала міс Стрэйнджварт.

Містэр Льюіс глянуў на місіс Харпер.

— У мяне скончыўся цукар,— сказала тая. Калі яна вымала вацок, рукі яе дрыжалі. Міс Стрэйнджварт глянула на яе і пацікавілася, ці добра місіс Харпер пачувае сябе. Марта Харпер ужо не маладая, падумала міс Стрэйнджварт. Можа, ёй трэба прапісаць добры тонік.

— Марта,— сказала яна,— ты дрэнна выглядаеш.

— Я цудоўна пачуваюся,— коратка адказала місіс Харпер. Яна дала грошы містэру Льюісу, узяла рэшту, цукар і моўчкі выйшла. Міс Стрэйнджварт пахітала галавой. Марта выглядала вельмі дрэнна.

З пакетам у руцэ міс Стрэйнджварт выйшла з крамы на сонечнае святло і спынілася, каб паўсміхацца дзіцяці Крэйнаў. Дон і Хэлен Крэйн сапраўды найадданейшыя бацькі ў горадзе, падумала яна і паглядзела на вышываны каптурок дзяўчынкі і покрыва каляскі.

— Калі дзяўчынка вырасце, яна будзе прагнуць раскошы,— сказала міс Стрэйнджварт Хэлен Крэйн.

Хэлен засмяялася.

— Мы і хочам, каб яна заўсёды так адчувала сябе. Як прынцэса.

— І ў прынцэс можа быць шмат непрыемнасцей,— суха адказала міс Стрэйнджварт.— І колькі ўжо ёе высокасці?

— Праз тыдзень шэсць месяцаў,— сказала Хэлен Крэйн, з пяшчотай гледзячы на дзіця.— Але я турбуюся. Вам не здаецца, што яна павінна больш рухацца? Напрыклад, паспрабаваць сесці?

— Кожная маці,— сказала міс Стрэйнджварт,— непакоіцца пра сваё дзіця больш, чым трэба.

— Але яна здаецца... павольнай,— сказала Хэлен Крэйн.

— Дарма. Дзеці бываюць розныя. Некаторыя развіваюцца хутчэй за астатніх.

— Мая маці кажа тое самае,— засмяялася Хэлен Крэйн.

— Я лічу, што ты ўжо перапалохала Дона тым, што яго дачцэ ўжо шэсць месяцаў, а яна яшчэ не можа танцаваць.

— Я яму не гаварыла. Я лічу, што яна проста бясцэнная для нас, таму і хвалююся ўвесь час.

— Тады трэба папрасіць у яе прабачэння,— сказала міс Стрэйнджварт.— Яна, мусіць, страшэнна непакоіцца за цябе, калі ты ўвесь час літаральна скачаш вакол яе.

Яна пайшла далей па залітай сонечным святлом вуліцы, хітаючы галавой. Спынілася, каб спытацца Біла Мура, чаму ён не ездзіць на новай бацькавай машыне, і пагаманіла хвілін пяць з міс Чэндлер, бібліятэкаркай, пра новыя раманы, заплаціла гадавы ўзнос за карыстанне бібліятэкай. Міс Чэндлер здавалася няўважлівай і выглядала так, быццам была нечым заклапочана. Міс Стрэйнджварт заўважыла, што міс Чэндлер сёння раніцай не звярнула ўвагі на прычоску. Яна ўздыхнула. Яна ненавідзела нядбайнасць у людзях.

Шмат людзей апошнім часам здаюцца вельмі заклапочанымі, падумала міс Стрэйнджварт. Вось учора пятнаццацігадовая Лінда Сцюарт плакала ўсю дарогу да школы. Гараджане палічылі, што яна пасварылася са сваім хлопцам, але потым іх бачылі разам, як звычайна, пасля школы, і абое яны былі вельмі засмучаныя. Непрыемнасці дома, вырашылі гараджане, і пагаманілі аб цяжкасцях выхавання сучасных падлеткаў.

Збочыўшы на Плезант Стрыт, міс Стрэйнджварт адчула моцны пах ружаў і пайшла хутчэй. Пах ружаў вызначаў дом. Міс Стрэйнджварт спынілася ля веснічак, як яна рабіла заўсёды, і з глыбокім задавальненнем агледзела дом, які быў акружаны чырвонымі, ружовымі і белымі ружамі. Дом быў вельмі акуратны і вельмі чысты. Кожнае акно блішчэла, кожная фіранка была без адзінай зморшчынкі, нават каменне дарожкі было чыстае, быццам памытае. Гараджане часта цікавіліся, як гэта міс Стрэйнджварт можа трымаць дом у такой чысціні. Існавала нават легенда пра тое, што адзін з турыстаў узяў яе дом за музей, так ніколі і не здагадаўшыся аб сваёй памылцы. Горад ганарыўся міс Стрэйнджварт, і яе ружамі, і яе домам. Яны раслі ўсе разам.

Міс Стрэйнджварт паднялася на ганак, адчыніла дзверы і прайшла ў кухню, каб пакінуць там пакупкі. Яна хацела была выпіць гарбаты, але потым вырашыла, што ўжо хутка абед і яна страціць апетыт. Яна пайшла ў светлую, прыгожую гасцёўню, якая проста ззяла чысцінёю. Уся мэбля была старая, але прыгожая, дыванчыкі на падлозе — праца бабулі і маці. Міс Стрэйнджварт паставіла вазу з ружамі на нізкі столік ля вакна, і пакой напоўніўся цудоўным пахам.

Міс Стрэйнджварт падышла да вузкага стала ў кутку і адамкнула шуфлядку. Яна ніколі не ведала, калі ёй захочацца пісаць лісты, таму паперу яна заўсёды трымала пад замком. Звычайная папера міс Стрэйнджварт была карычневая, са словамі ДОМ СТРЭЙНДЖВАРТАЎ у кутку, але калі яна хацела пісаць іншыя лісты, міс Стрэйнджварт карысталася паперай, якую купляла ў газетным кіёску. Уся папера ў горадзе была каляровая: ружовая, зялёная, блакітная і жоўтая. Усе гараджане карысталіся ёю для запісаў і цыдулак. Звычайна ў канцы пачка папера была блакітная. Вось і міс Стрэйнджварт амаль дайшла да блакіту. Канверты таксама былі каляровыя: у іх трымалі рэцэпты, цыдулкі. Містэр Льюіс клаў у іх танныя цукеркі, якія куплялі дзеці.

Хаця ў міс Стрэйнджварт была ручка з гусінага пяра, якой карыстаўся яе дзядуля, і сучасная ручка з залатым пяром, якой карыстаўся яе бацька, міс Стрэйнджварт заўсёды пісала алоўкам. Яна пісала друкаванымі літарамі, як дзеці.

Яна трошкі падумала, хоць тэкст ліста ўжо быў у яе галаве, калі яна ішла дадому, і напісала на ружовым аркушы: ВЫ ШТО, НІКОЛІ НЕ БАЧЫЛІ ДЗІЦЯ-ІДЫЁТА? НЕКАТОРЫМ ЛЮДЗЯМ ПРОСТА НЕЛЬГА МЕЦЬ ДЗЯЦЕЙ, ПРАЎДА?

Яна была задаволена гэтым лістом. Міс Стрэйнджварт усё рабіла прыгожа. Калі яна рабіла памылку, гэта здаралася час ад часу, ці калі словы выглядалі на аркушы не вельмі сіметрычна, яна тут жа ішла на кухню і паліла ліст. Міс Стрэйнджварт ніколі не адкладала тое, што трэба было зрабіць.

Падумала хвіліну і вырашыла напісаць яшчэ адзін ліст. Да місіс Харпер, у дадатак да папярэдніх. Яна выбрала зялёны аркуш і хутка напісала: НЯЎЖО ВЫ ЯШЧЭ НЕ ЗДАГАДАЛІСЯ, З ЧАГО УСЕ СМЯЯЛІСЯ, КАЛІ ВЫ ПАЙШЛІ З БРЫДЖ-КЛУБА Ў МІНУЛЫ ЧАЦВЕР? ЦІ САПРАЎДЫ ЖОНКА ДАВЕДВАЕЦЦА АПОШНЯЙ?

Міс Стрэйнджварт ніколі не шукала факты: усе яе лісты засноўваліся на больш важкім матэрыяле — падазрэннях. Містэр Льюіс і падумаць не мог, што ягоны ўнук крадзе дробязь з касы, калі б не ліст ад міс Стрэйнджварт. Бібліятэкарка міс Чэндлер і бацькі Лінды Сцюарт так і жылі б сабе спакойна, не ведаючы пра ліха, якое з імі побач, але лісты ад міс Стрэйнджварт адкрылі ім вочы. Міс Стрэйнджварт была б проста шакіраваная, калі б паміж Ліндай Сцюарт і маладым Хэрысам было нешта, але з тае прычыны, што ліха існуе ў гэтым свеце, абавязкам міс Стрэйнджварт было ўвесь час нагадваць людзям пра яго. Для міс Чэндлер было значна лепей думаць аб тым, як сапраўды памёрла першая жонка містэра Шэлі, чым не думаць увогуле. Свет поўны злых людзей, і ў ім заставаўся толькі адзін чалавек з роду Стрэйнджвартаў. Да таго ж, міс Стрэйнджварт падабалася пісаць такія лісты.

Яна напісала на канверце адрас Дона Крэйна і падумала, ці пакажа ён ліст жонцы. Канверт быў ружовы, як і папера. Потым яна падпісала зялёны канверт для місіс Харпер. Потым да яе прыйшла ідэя. Яна выбрала блакітны аркуш і напісала: НІКОЛІ НЕЛЬГА ЗДАГАДАЦЦА, АБ ЧЫМ ДУМАЮЦЬ ДАКТАРЫ. ПАМЯТАЙЦЕ, ЯНЫ ТАКІЯ Ж ЛЮДЗІ І ІМ ПАТРЭБНЫ ГРОШЫ. РАПТАМ СКАЛЬПЕЛЬ САСКЛІЗНЕ? ЦІ АТРЫМАЕ ДОКТАР БЭРНС АД ВАШАГА ПЛЯМЕННІКА ДАДАТАК ДА ЗВЫЧАЙНАЙ ПЛАТЫ?

На блакітным канверце яна напісала адрас старой місіс Фостэр, якая праз месяц мелася легчы на аперацыю. Яна падумала, ці не напісаць яшчэ адзін ліст да дырэктара школы з пытаннем аб тым, як гэта настаўнік хіміі — бацька Білі Мура — змог купіць новы аўтамабіль, але яна ўжо стамілася ад лістоў. Тры лісты на гэты дзень дастаткова. Заўтра яна напіша яшчэ, не трэба хапацца за ўсё адразу.

Яна пісала гэтыя лісты — часам два-тры кожны дзень, а часам адзін на месяц — ужо год. Яна ніколі не атрымлівала адказаў, таму што ніколі не падпісвалася. Калі б яе спыталі, яна б адказала, што яе імя Адэла Стрэйнджварт, імя, якое ўславіла горад і не можа быць ублытана ў такую гнюснасць. Горад, у якім яна жыла, павінен быць чысты і добры, але людзі такія сквапныя і злыя, і за імі трэба наглядаць. Свет такі вялікі, а ў ім застаўся толькі адзін чалавек з роду Стрэйнджвартаў. Міс Стрэйнджварт уздыхнула, замкнула шуфлядку і паклала лісты ў сумачку. Яна адправіць іх, калі пойдзе на вячэрні шпацыр.

Яна прыгатавала адбіўную, парэзала памідор і наліла шклянку цудоўнай гарбаты. За стол, за якім яна сядзела адна, можна было пасадзіць дваццаць чалавек. Міс Стрэйнджварт глядзела на свае цудоўныя ружы на вуліцы, ела са срэбных талерак і піла з кубка тонкага фарфору. Яна была задаволеная сабою. Людзі мусяць жыць шчыра, падумала яна. Скончыўшы есці, міс Стрэйнджварт памыла посуд, паставіла кубак і сподачак у шафу, а срэбра ў куфар і павольна паднялася па сходах у спачывальню. Спачывальня глядзела вокнамі на ружы. Тут, у шыкоўнай шафе віселі футры, ляжалі веера, пасярэбраныя грабянцы і звычайна стаялі вялізныя вазы з ружамі. Зараз ваза з белымі ружамі стаяла на століку каля ложка.

Яна зашморгнула фіранкі, зняла з ложка тонкае саціннавае пакрывала, распранулася і стомлена легла. Яна ведала, што ніхто не будзе званіць, ні ў дзверы, ні па тэлефоне. Ніхто з гараджан не адважваўся турбаваць міс Стрэйнджварт пасля абеду. Яна спала ў глыбокім і мяккім паху ружаў.

Пасля сну яна трошкі папрацавала ў садзе, а потым павячэрала. На вячэру ў яе была спаржа з уласнага гароду і яйка. Пакуль яна ела, па радыё перадалі апошнія паведамленні, а пасля канцэрт класічнай музыкі. Калі кухня была прыведзена ў парадак, міс Стрэйнджварт узяла капялюш — яе капелюшы былі цэлай легендай, людзі казалі, што гэта спадчына ад бабулі і маці,— і пайшла на вячэрні шпацыр. Яна кіўнула бацьку Лінды Сцюарт, які мыў машыну. Ён выглядаў вельмі заклапочаным.

У горадзе была толькі адна мясціна, дзе яна магла адправіць лісты — новая пошта. Хаця міс Стрэйнджварт ніколі не надавала гэтаму асаблівай сакрэтнасці, але лісты яна адпраўляла так, каб ніхто не бачыў. Яна выходзіла на шпацыр у такі час, каб быць каля пошты, калі пачынала цямнець і было цяжка разгледзець твар, хаця яе фігуру і антыкварныя спадніцы ведаў кожны ў горадзе.

Каля пошты заўсёды былі дзеці. Самыя малодшыя каталіся на роліках, а старэйшыя гаманілі аб нечым, смяяліся і абмяркоўвалі планы паходу па марожанае ў кавярню на другім баку вуліцы. Міс Стрэйнджварт не звяртала на іх увагі. Яна ведала, што яны не будуць дражніць ці смяяцца з яе: іхнія бацькі ніколі не даруюць ім. Калі міс Стрэйнджварт наблізілася, дзеці спынілі на хвіліну гаворку і павіталіся:

— Добры вечар, міс Стрэйнджварт.

Яна ўсміхнулася ім і пайшла да пошты. Паштовая скрынка была на дзвярах. Дзеці адышліся ўбок, калі міс Стрэйнджварт падышла да яе. Яны былі трошкі здзіўленыя тым, што ў час, калі пошта не працуе і належыць ім, нехта хоча скарыстаць паштовую скрынку. Міс Стрэйнджварт адкрыла сумачку, каб выняць лісты і пачула голас Лінды Сцюарт. Тая зноў плакала, і міс Стрэйнджварт уважліва слухала. Гэта быў яе горад і яе людзі, і калі ў кагосьці былі непрыемнасці, яна павінна была ведаць пра іх.

— Я не магу сказаць табе, Дэйв,— сказала Лінда. Як і думала міс Стрэйнджварт, тая гаварыла да маладога Хэрыса.

— Я проста НЕ МАГУ. Гэта так ГНЮСНА.

— Але чаму твой бацька не дазваляе мне прыходзіць да вас? Што я такога зрабіў?

— Я не магу сказаць. І ніколі не змагу. Для гэтага трэба мець гнюсную, проста гнюсную натуру.

— Але нешта здарылася. Ты ўвесь час плачаш, а твой бацька вельмі засмучаны. Чаму МНЕ нельга ведаць пра гэта? Я ж быў як член вашае сям'і.

— Ужо не, Дэйв. Табе нельга прыходзіць да нас, так сказаў бацька. Ён сказаў, што наб'е цябе. Гэта ўсё, што я магу сказаць. Не прыходзь болей да нас.

— Але я НІЧОГА не зрабіў.

— І ўсё роўна, мой бацька кажа...

Міс Стрэйнджварт уздыхнула і адвярнулася. У людзях столькі злосці. Нават у такім маленькім і цудоўным гарадку.

Яна ўкінула лісты. Два ўпалі ў скрынку. Трэці зачапіўся і ўпаў ёй пад ногі. Але міс Стрэйнджварт не заўважыла гэтага, яна думала, ці не дапаможа ліст да бацькі Дэйва Хэрыса выправіць у хлопчыку патэнцыяльнае ліха. Міс Стрэйнджварт павольна пайшла і не чула, як малады Хэрыс крычаў да яе, што яна нешта згубіла.

— Старая лэдзі Стрэйнджварт робіцца глухой,— сказаў ён і паглядзеў на канверт.

— Каго гэта турбуе? — сказала Лінда.— Каго хаця нешта турбуе?

— Ліст да Дона Крэйна,— сказаў малады Хэрыс.— Яна згубіла ліст да Дона Крэйна. Можам занесці яму. Мы ж будзем ісці міма яго дома,— ён засмяяўся.— Можа, там чэк ці што-небудзь падобнае, і яму будзе прыемна атрымаць гэта сёння, а не заўтра раніцай.

— Як жа, пашле гэтая міс Стрэйнджварт камусьці чэк,— сказала Лінда.— Кінь ліст у скрынку. Навошта рабіць штосьці для людзей? Пра нас тут ніхто не думае. Дык навошта нам думаць пра іх?

— Я ўсё ж занясу яго,— сказаў Дэйв.— Можа, у ім добрыя навіны. І можа, менавіта сёння ім патрэбна нешта добрае. Як і нам.

Трымаючы адно аднаго за рукі, яны павольна пайшлі па цёмнай вуліцы. У руцэ Хэрыса быў ружовы канверт.

* * *

Наступнай раніцай міс Стрэйнджварт прачнулася з пачуццём шчасця і хвіліну-другую не магла зразумець, чаму. Потым успомніла, што хутка тры чалавекі будуць чытаць яе лісты. Спачатку яны будуць злавацца, але такое яно, нашае жыццё. Каб стала лягчэй на сэрцы, трэба спачатку зрабіць яму балюча. Яна памыла твар, пачысціла зубы (ніякіх пратэзаў, нягледзячы на ўзрост) і акуратна апранулася. Пайшла ўніз, думаючы, што на снеданне не зашкодзіць вафля. Ля дзвярэй ляжала ранішняя пошта. Рахунак, ранішняя газета, ліст у зялёным канверце. Ліст здаваўся знаёмым. Хвіліну міс Стрэйнджварт не рухалася, глядзела на зялёны канверт: ён быў падпісаны алоўкам, друкаванымі літарамі. Яна падумала: выдае на адзін з МАІХ лістоў. Няўжо яе ліст даслалі назад? Не можа быць, ніхто не ведаў, што гэта ўсё пісала яна. Тады чаму гэты ліст тут?

Калі яна адкрывала канверт, рукі яе не дрыжалі: яна ж была з роду Стрэйнджвартаў. Але свет быў такі ліхі, што яна ціха заплакала, калі прачытала: ПАГЛЯДЗІ НА ТОЕ, ШТО КАЛІСЬЦІ БЫЛО ТВАІМІ РУЖАМІ.

З англійскай пераклаў
**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**

# ГАЎПТВАХТА Ў КАБУЛЕ

## З НАТАТАК МАЛАДОГА ВЕТЭРАНА



...Афганская вайна зацягвалася. І паступова, скрозь сумятню першых баёў, няпэўнасць становішча і ўсходнюю экзотыку, калі высветлілася, што мы тут усур'ёз і надоўга, пачалі выкрышталізоўвацца элементы дзяржаўнага механізму: мытня, пракуратура, камендатура. Як жыццёва важны элемент арміі, спатрэбілася гаўптвахта. Яе размясцілі ў старой турме, на тэрыторыі крэпасці Бала-Хісар.

Спачатку мне здавалася забаўным, што некалі, як снег на галаву прызямліўшыся на гэтую зямлю з мэтаю інтэрдапамогі, арпача зброі і патронаў, спатрэбілася і гаўптвахту цягнуць, каб саджаць сваіх жа. Але неўзабаве «губа» стала ўспрымацца як нешта звычайнае дый проста неабходнае.

Высокія муры, калючы дрот. Невялікі асфальтаваны двор, сталёвыя краты, сталёвыя дзверы і замкі, замкі...

Заступаючы ў гарнізонны каравул першы раз, я мяняў каржакаватага старшага лейтэнанта, пехацінца. Ён жартаваў, расказваючы мне пра асаблівасці службы, я ж быў унутрана напружаны. Усяго гадзіну назад, на інструктажы, я даведаўся ад начальніка гарнізона, што гэты старшы лейтэнант, выявіўшы паўгода назад, што аднаго падследнага няма — знік, замест яго пасадзіў да будучых «зэкаў» свайго салдата. Новы начальнік каравула «паштучна» прыняў падследных, асуджаных і арыштаваных у дысцыплінарным парадку, а следам за ім, за ягонай спінаю, сяржант са старога каравула выпусціў з камеры свайго салдата. Суседзі па камеры гвалт падымаць, натуральна, не сталі. Яны разлічвалі, што ўначы ўцякач, пасланы па «чарс», па наркотыкі, вернецца. Аднак ганец папаўся. З еўрапейскай фізіяноміяй, без ведання мовы ў незнаёмым горадзе ён адразу ж апынуўся ў густых сетках шматлюдных разведак і контрразведак. Выявілася, што ўначы вартавы, які ўжо не мог болей слухаць стогны за сталёвымі дзвярыма, пашкадаваў падследных і асуджаных, расқалупаў патронам замкі і выпусціў зняволеных пагуляць з камеры ў камеру. Замкі — дзве жалязякі з вінтом, груба вытачаныя на такарным станку — дазвалялі зрабіць гэта без асаблівых цяжкасцей.

І вось, падазраючы ў змове ўсіх, я ішоў лічыць арыштантаў. Стары начкар спачувальна пакруціў галавою, убачыўшы, што я пазабіраў усе ключы і запёр за сабою краты, якія аддзялялі калідор, дзе былі камеры падследных.

— Камера, строіцца!

У першай камеры сядзелі пяцёра. З цікавасцю глядзелі яны на мяне — чаго ім чакаць у бліжэйшыя суткі. Я іх адразу расчараваў тым, што падышоў да ваконных кратаў і патузаў іх. Пад іхнія смяшкі зазірнуў у «парашу», у бак з вадою.

— Мы думалі, чалавек...— уздыхнуў адзін, стараючыся, каб я гэты ўздых пачуў, калі пачаў абшукваць іх саміх. Хоць гэта — патрабаванне статута, многія начкары не абшуквалі: гідзіліся, ленаваліся або заваёўвалі павагу арыштантаў. Сваю вартую жалю здабычу — лыжку, лязо і шарыкавую ручку — я нёс пад іхнія зусім ужо непрыхаваныя смяшкі. Я ішоў па дрэнна асветленым калідоры ад камеры да камеры, а арыштанты, не зважаючы на мае крыкі, гучна перагаворваліся, абмяркоўваючы мяне і, напэўна, аб нечым дамаўляючыся:

— Ён па статуту, а мы па-свінску!

— Казлу шмоткі ў гару!

Сэнс апошняе рэплікі я зразумеў праз суткі, калі пры змене недалічыўся дзвюх падушак, матраца і коўдры. Вокны ў камерах, апрача кратаў, былі наглуха забіты шклаблокамі, таму, збіраючы ўранку тапчаны і пасцелі, я і не падумаў іх пералічыць. Выслухаўшы даклад аб прапажы, начальнік гаўптвахты, капітан Кісялёў, прапанаваў аднавіць страту ўстаноўленым парадкам. Практычна гэта азначала наступнае: пакуль не вернуць рэчы, «заложнікам» на гаўптвахце застаецца начкар ці ягоны памочнік. Мне тады прыйшлося пакінуць у камеры свайго памочніка, сябра Косцю, камандзіра ўзвода, старшага лейтэнанта. Яго я вызваліў назаўтра, выменяўшы неабходныя рэчы ў начальніка складу на некалькі кілаграмаў мандарынаў, буйных джалалабадскіх мандарынаў, якія практычна ўвесь год прадаваліся на кожным рагу ў горадзе.

Адыграўся я праз месяц, калі зноў заступіў у гарнізонны каравул. Спраў у пракуратуры вялося шмат, прасоўваліся яны марудна, падследныя і асуджаныя пераважна засталіся тыя ж і, пазнаўшы мяне, яны паспрабавалі здзейсніць той самы фокус. Але цяпер ім гэта не ўдалося.

У адной камеры з шасці падушак зрабілі пяць, распіхаўшы вату адной па астатніх. У другой камеры коўдру парвалі на вузкія палоскі і выпхнулі праз вузкую, не заўважаную мною шчыліну ў шклаблоках за акно, якое выходзіла на пустку. У трэцяй камеры парвалі паралонавы матрац і, схаваўшы кавалкі на целе, у час прагулкі паспрабавалі ўтапіць іх у «ачку» прыбіральні.

Гэты раунд быў на маю карысць. Карцэр, малюпасенькі пакойчык, у гэтыя суткі не пуставаў. Зрэшты, перамога гэтая задавальнення мне не прынесла.

Уражвала, як сярод гэтых хлопцаў, якія яшчэ ні дня не прабылі ў сапраўднай «зоне», нараджалася класічная турэмная «адмаўлялаўка». Паміж зняволеным і ахоўнікам любові быць не можа, гэта зразумела. Але адмаўлялаўка пастаянна жывілася няроўнай патрабавальнасцю начальнікаў каравулаў. Тыя шматлікія драбніцы, якія штодня акружаюць нас у побыце, згодна са статутам у камеры забаронены. Таму для зняволенага ў сімвал гэтай самай волі, якой яго пазбавілі, ператвараецца звычайная мыльніца, гузік, пігулка аспірыну. Ну, а тое, што алюмініевая лыжка, нават аловак у камеры могуць ператварыцца ў зброю, гэта асобная размова. Няроўная патрабавальнасць начкараў у гэтым прынцыповым для арыштаваных пытанні пастаянна павялічвала нянавісць і азлобу. Асабліва цяжка было выяўляць прынцыповасць у дачыненні да афіцэраў, якія знаходзіліся пад следствам. Колькі я ні заступаў у каравул, у камерах сядзела двое-трое афіцэраў. Артыкулы абвінавачання былі пераважна за гвалт над насельніцтвам у раёне баявых дзеяннях, кепскае ўтрыманне ваеннапалонных, было і несанкцыянаванае адкрыццё агню, якое прывяло да гібелі мірнага насельніцтва. Першая ж афіцэрская камера, у якую я зайшоў, засмуціла мяне: пячэнне, кансервы, кіпяцільнік, світэры і іншыя забароненыя рэчы.

— Мужык, да цябе ніхто нічога не чапаў, а мне да суда больш як месяц...

Кампраміс мы знайшлі ў тым, што найбольш «крымінальныя» для статута рэчы перабіраліся ў пакой начкара на захоўванне з магчымасцю выкарыстаць іх. Але ў перыяд канфлікту з падследнымі, пасля прапажы казённых рэчаў я ўсё ж ператрэс камеры. На дне бітонаў з вадою трапляліся ўкрадзеныя раней конаўкі і лыжкі, у сценах былі выбітыя вузкія адтуліны для цыгарэт і запалак, абшытая сталёвым лістом столь таксама сёе-тое ўтойвала.

Найбольш было знойдзена рэчаў у камеры, дзе сядзелі два салдаты з апарату ваенных саветнікаў, якія абвінавачваліся ў крадзяжах дзеля продажу. Пачуўшы пах цаглянага пылу, я насцярожыўся і, прыгледзеўшыся, знайшоў у акне, пад шклаблокамі, свежую дзірку шырынёй з руку. Хутка запёр іх у другой камеры, выбег на дах «губы» і ўбачыў, што пад самым акном цягаецца-кудзіцца пісар гаўптвахты, салдат.

Крымінальную загадку — што было і што планавалася — я так і не разгадаў. Магчыма, гэта была карупцыя на салдацкім узроўні, хоць, паколькі салдат з апарату саветнікаў у месяц атрымліваў у шмат разоў болей, чым просты пехацінец або дэсантнік, узровень мог быць вельмі высокі.

Хто і за што сядзеў на гаўптвахце?

Самы шматлікі быў атрад арыштаваных на некалькі сутак у дысцыплінарным парадку. Усяго з Кабульскага гарнізона набіралася да васьмідзесяці арыштаваных салдатаў і сяржантаў, да дзесятка афіцэраў. Фармулёўкі прычыны арышту ў запісках аб арыштаванні былі надакучліва аднастайныя: за парушэнне раскладу дня, за парушэнне формы адзення, за парушэнне дысцыпліны строю. Зрэдку з'яўлялася што-небудзь іншае. З гэтым была пастаянная праблема: як пакараць падначаленага за бойку, за крадзеж, але не пакінуць пры гэтым аніякіх слядоў у дакументах? Сістэма жорсткіх пакаранняў для афіцэраў за парушэнні і злачынствы падначаленых была нібыта спецыяльна створана, каб адвучыць ніжняе звяно выканаўцаў ад прывычкі паведамляць пра сапраўднае становішча спраў і тым самым псаваць настрой верхняму звяну. Салдат маёй роты неяк быў абвінавачаны ў крадзяжы «Волгі» прама з палаца. Машына была аднаго з гасцей Бабрака Кармаля, укралі са стаянкі, якая ахоўвалася і афганскай, і нашай дзяржбяспекаю. Хоць усё было відавочна, юрыдычна ягоную віну давесці не ўдалося, і, каб не няславіць сябе, мясцовае кіраўніцтва 9-га аддзела КДБ канфлікт замяла, балазе машына вярнулася. Салдата пасадзілі на гаўптвахту «за самавольны выхад з каравульнага памяшкання», у чым ён сам паспяшаў прызнацца. «За парушэнне правіл каравульнай службы» сядзеў некалькі сутак на гаўптвахце салдат, які краў бензін, прызначаны для «Мерседэса» галоўнага ваеннага саветніка пры ўрадзе ДРА, і ўпотай прадаваў яго брамніку пасольства ФРГ.

Змяняючыся з каравула, прыйшлося неяк пакінуць у камеры аднаго вываднога. Салдат быў нахабны, з садысцкай стрункаю ў душы. Будучы выводным, ён з насалодаю камандаваў арыштантамі, стараўся выцяць іх нагою, ударыць прыкладам. У роце, у дачыненні да маладых салдатаў быў такім самым падонкам. Ён не быў «дэмбелем», але ягоных круглых, лупатых вачэй і драпежнай усмешкі баяліся, баяліся паскардзіцца на яго. Выключыць яго з камсамола таксама не было магчымасці: на сходах ніхто не аказваўся, калі я спрабаваў вывесці яго на абмеркаванне. Гэтую ненармальную сітуацыю — падонка немагчыма выключыць з камсамола — я вырашыў ненармальным, ганебным для мяне і камсамола спосабам: украў у яго камсамольскі білет, парваў, а абрыўкі ўтапіў у «ачку» туалета. А тады, на гаўптвахце, калі ён зноў некага ўдарыў прыкладам па спіне, я проста пакінуў яго ў камеры з тымі, з каго ён яшчэ гадзіну назад здзекаваўся. (Запіску аб арыштаванні я прывёз назаўтра, з фармулёўкаю «За недысцыплінаванасць».) Забіралі мы яго з «губы» з сінякамі на твары, на целе. Зрэшты, урока яму хапіла на месяц, а потым зноў пачалося балансаванне на мяжы злачынства, а з боку камандзіраў — эквівалентныя пакаранні, часам таксама на мяжы злачынства.

Словам, з непазбежнасцю пакарання за злачынства было цяжка. Невыпадкова ўсе падследныя і ўжо асуджаныя, якія чакалі адпраўкі ў Саюз, былі перакананыя, што вінаватыя адно ў тым, што папаліся.

Так і йшла служба, часам адымаючы больш нерваў на барацьбу са сваімі, чым з «духамі».

Цяпер у ацэнцы афганскай вайны склалася схема, якая качуе ад папулярных часопісаў да рэзалюцый З'езда народных дэпутатаў: благія старыя ўцягнулі добрых хлопцаў у благую справу, таму і нарабілі яны дзе-нідзе благога. Гэта вельмі зручная схема, прыемная тым, хто служыў у Афганістане: яна адпускае ім грахі.

Ісціна, мне здаецца, больш складаная і непрыемная: благія старыя паспрабавалі рукамі не вельмі добрых хлопцаў зрабіць не такую ўжо і благую справу. Даючы маральную ацэнку задачам, якія СССР спрабаваў вырашыць у ДРА, я згадваю сцэну з «Дон-Кіхота», дзе Дон-Кіхот спрабуе вызваліць рабоў з рабства, але трапляе пад град камянёў, якія з роўнай сілаю кідаюць рабы і рабаўладальнікі. Іронія гісторыі, але, выкарыстоўваючы цяперашнія прагматычныя паняцці, можна сказаць, што ў той сцэне Дон-Кіхот выступіў супраць таварна-грашовых адносін, якія з'яўляюцца ключом да шчасця і эканамічнай асновай свабоды і багацця. Таму я лічу, што мэта нашай былой прысутнасці ў Афганістане апраўдана настолькі, наколькі можна апраўдаць Дон-Кіхота. Але таму, як мы ваявалі, апраўданняў быць не можа. Хвалі азлобы і крадзяжоў ішлі да нас не толькі ад Брэжнева і іншых лідэраў, цяпер ужо нябожчыкаў, яны нараджаліся ад нас, ад нашае прыроды.

Давайце не будзем ліслівыя да саміх сябе.

Бывай, Дон-Кіхот, ты памыліўся...

**Валерый ЦАПКОЎ**

Афармленне
Сяргея СТЭЛЬМАШОНКА

Генрых БЕЛЬ

# ПРЫЗНАННЕ ЎГОНШЧЫКА САМАЛЁТА




**Творы выдатнага нямецкага пісьменніка Генрыха Бёля часта друкавалі ў Савецкім Саюзе ў 60-я гады. Потым увага да твораў нобелеўскага лаўрэата падупала, ягонае імя рэдка можна было сустрэць у літаратурных часопісах і газетах. Гэты фенамен тлумачыцца тым, што Г. Бёль пратэставаў (і не раз) супраць парушэння правоў чалавека ў Савецкім Саюзе, супраць палітычных працэсаў і высылак вядомых літаратараў.**

**Але не толькі пратэставаў Г. Бёль супраць рэпрэсій і пераследаў — ён высмейваў шмат якія з'явы нашага жыцця. Апавяданне, якое друкуецца тут, паказвае, што пісьменнік добра ведаў нашу рэчаіснасць.**

Таварыш Гаспадзін! Пасля дэталёвага абмеркавання з той інстанцыяй, якая кантралюе — хоць і не заўсёды паспяхова — майго ўнутранага нягодніка; пасля пільнага — амаль да знямогі — прыслухоўвання, што робіцца ў тым месцы, якое я назваў бы маім грамадзянскім сумленнем, я вырашыў зрабіць прызнанне.

Прызнаюся: я зрабіў спробу ўгнаць самалёт. Прызнаюся: пры гэтым я карыстаўся зброяй, і хаця яна і была падробленая — кавалачак дрэва і шмат гуталіны,— усё-такі яна служыла пагрозай. На шчасце, яе ў мяне адабралі раней, чым я змог бы яе прымяніць. І прашу Вас, таварыш Гаспадзін, улічыць маю фармулёўку «змог бы яе прымяніць», не разглядаць яе як фармалістычную: як можна ўсур'ёз прымяніць падробленую зброю, з дрэва і ваксы? — бо гэта фармулёўка не азначае, што я сапраўды прымяніў бы яе ці што я меў намер прымяніць яе; гэтая зброя выконвала для мяне толькі функцыю ключа; не, не буду лепш ганьбіць такі высакародны інструмент, як ключ: яна выконвала для мяне функцыю адмычкі, з яе дапамогай я хацеў уварвацца ў свяшчэнныя мясціны, даступныя толькі іншаземцам і заслужаным таварышам. Ці можна здзейсніць нешта больш ганебнае? Не.

Сілай, якая падштурхнула мяне на гэтую спробу ўгнаць самалёт,— і я не раблю сабе ніякіх паслабленняў і прашу прымяніць да мяне закон у поўнай яго моцы,— было штосьці такое, што раней называлі **«туга»**, і, акрамя таго,— а гэта падвойвае маю віну, і няхай закон ударыць па мне з падвойнай сілай — туга па несацыялістычнай краіне; і ўсё-такі, калі быць справядлівым, я хацеў бы тут аблегчыць сваю віну: я імкнуся ў гэтую краіну не **таму што**, а **нягледзячы на тое**, што яна несацыялістычная, і паміж гэтымі «не таму што» і «нягледзячы на тое», заключана, вядома, як справядліва канстатаваў абвінаваўца, «ідэалагічная няўстойлівасць», заключана, як ён — таксама справядліва — канстатаваў, «мая схільнасць паддавацца капіталістычнай прапагандзе». Гэта праўда.

Сапраўды, недапушчальным, амаль слізкім шляхам мне ў рукі трапіў турыстычны праспект горада Капенгагена, я — прабачце, што ў мяне тут ад сораму за гэты брудны ўчынак цякуць слёзы, і, калі ласка, не разглядайце гэтыя слёзы як жаданне выклікаць спагаду,— выцягнуў гэты праспект на вуліцы Горкага з урны для смецця, над якой я нахіліўся, каб выкінуць скамечаную — між іншым, зачытаную — «Праўду». Пэўна ж, я разумею, што ўжо тым, што выкідваў «Праўду», я выклікаю падазрэнне, але я падкрэсліваю: яна была зачытаная, яна была прачытаная ўся цалкам, я і сёння мог бы пераказаць вам змест перадавога артыкула... дрэнна толькі тое, што я, зацікаўлены голай жаночай фігурай, якую ўбачыў сярод смецця, усунуў правую руку ў смецце, каб завалодаць гэтай карцінкай.

Я жанаты, таварыш Гаспадзін, у мяне трое дарослых дзяцей, я жыву нармальным сямейным жыццём, без канфліктаў, і не хацелася б, каб у кагосьці склалася ўражанне, што ў рэшце рэшт гэты здымак голай жанчыны падштурхнуў мяне да спробы ўгнаць самалёт. Не, гэтая дама — вытанчаная капіталістычна-парнаграфічная прыманка. Папраўдзе, я... і тыя цёмныя інстынкты, якія не былі выкарчаваны маім сацыялістычным выхаваннем... я быў расчараваны гэтай дамай... Я распісаўся ў шчырасці, таварыш Гаспадзін, і хачу быць у гэтым пытанні шчырым.

У рэшце рэшт, я не якісьці невук, я атрымаў выдатную адукацыю па геаграфіі, калісьці я быў страсным аматарам разглядаць геаграфічныя карты, і вось я вяду пальцам ад Ленінграда праз Балтыйскае мора, пакуль не дабіраюся да Капенгагена. І тут ува мне, таварыш Гаспадзін, абуджаецца туга: гэты цудоўны горад мяне проста зачараваў, і я клянуся ўсім святым: я імкнуся туды не дзеля парнаграфічных фільмаў і крамаў, не. Мяне завабіла прыгажосць архітэктуры, каналы, старыя дамы́, якія я ўбачыў у гэтым праспекце. Павярхоўная прываблівасць голага жаночага цела хутка паблякла. Але не толькі ў архітэктуры справа, але і ў філасофіі.

Я ўсяго толькі просты савецкі рабочы, але мяне ўвесь час прыцягвала філасофія, так, так, яна мяне захапіла, і гэтым я зноў жа абавязаны маёй выдатнай школьнай падрыхтоўцы. Аднойчы ў бібліятэцы аднаго знаёмца маёй нябожчыцы цёткі я прачытаў невялічкі твор гэнага Кіркэгарда, які, як пішуць, быў сучаснікам непараўнальнага Карла Маркса, і вы, пэўна, спытаеце мяне, вы справядліва зробіце мне папрок, чаму ж мая туга не скіравалася на прыгожы старажытны горад Трыр*.

Што ж, тут я мушу зрабіць яшчэ адно прызнанне: я — яўрэй па нацыянальнасці, і пэўныя ці, лепш сказаць, сякія-такія гістарычныя падзеі, што закранулі лёс яўрэйскага народа, значна памяншаюць маё жаданне наведаць краіну, населеную немцамі, і, мусіць, не варта падкрэсліваць — для савецкага чалавека само сабой зразумела, што я кажу не пра ГДР. Але ж Трыр знаходзіцца не ў ГДР, а ў Даніі жывуць не немцы, і акрамя таго: Трыр размешчаны не на моры, і ў ім няма Цівалі, у ім няма такога цудоўнага цырка, як у Капенгагене; і я імкнуся ў Капенгаген не толькі з-за Кіркэкарда, але і з-за прыгажосці і весялосці гэтага горада, і калі я люблю дацкія цыркі, то гэта не азначае, што я пагарджаю нашымі цудоўнымі савецкімі цыркамі; у нас самыя лепшыя клоуны, у нас выдатныя артысты... але мне проста захацелася пабачыць несавецкі цырк, мне захацелася правесці адпачынак сярод несавецкіх людзей.

Я не адмаўляю ні прыгажосці Крыма, ні Каўказа, якімі я любаваўся, я не адмаўляю прыгажосці Балтыйскага мора ў нашых народаў-братоў — латышоў, літоўцаў, эстонцаў; усё гэта я бачыў, і ўсё гэта дзякуючы майму эстэтычнаму густу выклікала ў мяне слёзы радасці, нават захаплення. Але: мне хацелася трапіць у Данію, а ўсе мае шматлікія спробы ўбачыць гэтую краіну легальна, у якасці савецкага турыста, цярпелі крах; усе заявы адхіляліся, і вось я злачынна выкарыстаў свае здольнасці кваліфікаванага, нават прэміяванага механіка дакладнай тэхнікі; я з дубовага палена — патаемна, калі сям'я спала, выдумаўшы, што мне трэба павышаць кваліфікацыю,— выразаў пісталет, цюцелька ў цюцельку як сапраўдны, і нашай непараўнальна выдатнай савецкай чорнай ваксай надаў яму металёвага бляску, потым паехаў у аэрапорт, нібыта на экскурсію, перапісаў сабе расклад самалётаў на Капенгаген, і ў гэны дзень гвалтоўна паспрабаваў трапіць праз загароду на рэйсавы самалёт; спроба не ўдалася дзякуючы пільнасці нашай міліцыі, якой я тут хацеў бы выказаць сваю ўдзячнасць.

Я клянуся, таварыш Гаспадзін, я клянуся жыццём маёй жонкі, маіх дзяцей, жыццём усіх дарагіх мне сяброў-таварышаў: я вярнуўся б, я, каючыся, здаўся б уладам, а потым, адбыўшы заслужанае пакаранне, вярнуўся б да прафесіі механіка, рэшту свайго жыцця я пражыў бы на гэтай маёй любай радзіме. Радзіме працоўных, бо я выдатна ўсведамляю, што за некалькі дзён у Капенгагене мне абрыдла б іх гнілое ўпадніцтва. Урэшце — я прашу Вас не бачыць у гэтым іранічных намёкаў — якое выдатнае ў нас выкладанне геаграфіі, якая багатая філасофская навука, калі ў мяне змаглі з'явіцца такія памкненні!

Абвінаваўца толькі фармальна адобрыў прызнанне падсуднага, у кароткай форме прыняў, так бы мовіць, да ведама, але не надаў яму (гэтаму прызнанню), як ён падрабязна растлумачыў, аніякага, нават самага малюсенькага, значэння, якое б зменшыла віну, бо, сказаў ён, зусім няважна, што нехта ў нечым прызнаецца, калі ўжо гэта даказана, запратакаліравана, пацверджана падсудным сваім подпісам; дрэнна ж у гэтым прызнанні, што тут маюцца спасылкі на тое, што само сабой разумеецца: перавагі савецкага выкладання геаграфіі і філасофіі. У пахвале гэтым з'явам, якія разумеюцца самі сабой, праглядваецца нейкая ліслівасць, самапрыніжэнне. Асабліва абцяжарваючым фактарам у ацэнцы характару падсуднага з'яўляецца яго пахвала савецкай ваксе, бо ўсе — партыя, савецкі ўрад і не ў апошнюю чаргу савецкі народ — ведаюць, што яна, калі не сказаць — дрэнная, то і не такая добрая, як нам намаляваў падсудны. Маюцца звесткі — і не сакрэтныя — пра гэтую ваксу, якія кляймяць падсуднага як ліслівага лгуна, і — тут абвінаваўца выцягнуў са сваёй папкі падроблены пісталет і паклаў яго перад суддзёй — хімічным аналізам даказана — ён побач з пісталетам паклаў заключэнне экспертаў,— што гэтая штуковіна, прызначаная для шантажу, апрацавана ваксай амерыканскай маркі і такім падманным чынам даведзена да бляску, які нагадвае металёвы.

Як яшчэ адзін доказ — ён зноў сунуў руку ў папку — ён паклаў падроблены пісталет, апрацаваны ваксай, і было відаць, што дрэва прасвечвае праз яе, колер — не металёва-чорны, а шараваты.

Падсудны выкрыты не толькі сваім учынкам і не дзякуючы яго прызнанням, а пахвалой савецкай ваксы, а ў дадатак — касмапалітычнай іроніяй, разбэшчанай насмешкай, і няхай не зводзяць у зман словы пакаяння падсуднага. Ён патрабуе хоць і не найвышэйшай, але высокай меры пакарання.

**Пераклаў з нямецкай мовы Уладзімір ПАПКОВІЧ.**

* Трыр — радзіма К. Маркса.

# ЧАРНОБЫЛЬ ПАЎНОЧНАГА ФЛОТУ

**Васіль ЗДАНЮК**



Мяркую, няшмат знойдзецца на зямлі людзей, што пабывалі, як мінчанін Іван Кулакоў, у сярэдзіне ядзернага рэактара. Не таго, што будуецца, не дэмантаванага, а самага сапраўднага — «жывога».

Гэта здарылася за дваццаць пяць гадоў да Чарнобыля, у ліпені 1961 года. Галоўны старшына падлодкі Іван Кулакоў добраахвотна спусціўся ў пашкоджаны рэактар, каб уратаваць экіпаж і карабель ад непазбежнай гібелі.

...Паблукаўшы паміж надзіва падобнымі дзевяціпавярховікамі, я не адразу знайшоў патрэбны мне дом. Дзверы кватэры адамкнуў гаспадар — «шкіперская» барада, лагодны твар... Падаў руку. Паціснуць яе я наважыўся не адразу. Кісць рукі Івана Пятровіча глядзелася ненатуральнаю: крохкая, нібыта сухая, хваравіта белая, быццам бы без скуры. Кулакоў заўважыў маю нерашучасць, усміхнуўся:

— Радыеактыўны апёк. Ніколі не бачылі? Трыццаць год са мною.

Я паціснуў абпаленую атамам руку былога марака і пад пальцамі адчуў на ёй шнары. Быццам да аголеных электрычных дратоў дакрануўся.

— У мяне і ногі абпалены,— сказаў Кулакоў.— Па лытку. Я ж у рэактарны адсек у скураных пантофлях хадзіў. А там — вада гарачая, з найвышэйшай канцэнтрацыяй радыеактыўных рэчываў... Дагэтуль не загойваецца. Злёгку пакрые скурай, а потым яна пачынае злазіць. Узімку рукі і ногі мерзнуць, а ўлетку ад сонца закрываць трэба. Але прывык неяк.

— Іван Пятровіч, як гэта адбылося?

— Вы пра аварыю? Шчыра кажучы, не люблю ўспамінаць гэты дзень.

Тэрміновую службу з 1957 года, прызывалі з Магілёўскай вобласці. На лодку, вядома, не адразу трапіў. Адбор тады быў вельмі строгі і толькі праз вучэбны атрад у Ленінградзе. У акіян упершыню выйшаў на дызельнай лодцы. Праз год мяне адабралі ў экіпаж атамаходу.

Ганялі нас да сёмага поту. Тэхніка на тыя часы фантастычная. Сакрэтнасць — найстражэйшая. Кожны твой крок на беразе пад кантролем. Ніякіх кантактаў з мясцовым насельніцтвам.

Карацей, прынялі мы атамаход, правялі заводскія выпрабаванні, і ўжо праз колькі месяцаў ляжалі на дне недзе каля берагоў Канады або Штатаў — неслі баявое дзяжурства. Нашая лодка была першай у серыі ракетных атамаходаў, да гэтага будавалі толькі тарпедныя. Хадзілі на вялікіх глыбінях. Сакрэтнасць, таемнасць — самі разумееце.

У апошнюю сваю аўтаномку я пайшоў старшыною каманды станцыі ўсплыцця і заглыблення. Пасада, я вам скажу, не для кожнага. Пад маім кіраўніцтвам — пятнаццаць чалавек, складанае абсталяванне. Жыццё ўсёй субмарыны ў тваіх руках. А мне ўсяго толькі дваццаць два...

Так, тым разам, летам 1961 года мы ўдзельнічалі ў складаных вучэннях. Хадзілі ў Атлантыку, прабіваліся праз акружэнне супраць лодачных караблёў... Потым накіраваліся дамоў. Па дарозе мы мусілі яшчэ зайсці пад край льда недзе ў Арктыцы, знайсці прыдатную палонку, падусплыць і пусціць ракеты.

Як кажуць на флоце, усё ішло штатна, склаўся дакладны рытм працы. Акіян спакойны. Ядзерная ўстаноўка працавала нармальна. Дзён праз дзесяць нас павінны былі сустракаць на базе — кветкамі, шампанскім, смажаным парасём, як звычайна сустракаюць падводнікаў.

Чацвёртага ліпеня 1961 года лодка знаходзілася ў Нарвежскім моры, у сотні міляў ад выспы Янмайн, калі не памыляюся. Я ў гэты час нёс вахту на цэнтральным пасту. Раптоўна спрацавалі прыборы радыяцыйнага паказвання. Адразу знізіўся ціск у першым контуры рэактара. Спрацавала аварыйная сістэма...

Дагэтуль у маёй памяці інтанацыя даклада кагосьці са спецыялістаў рэактарнай групы: «У першым контуры ціск — 0». Што такое нуль — адразу ўзрасла тэмпература. Заклініла галоўную і дапаможную помпы, якія забяспечвалі цыркуляцыю ахаладжальнай вадкасці, знізіўся ўзровень у кампенсатарах аб'ёму. Пачала гарэць фарба на абшыўцы адсека. Неўзабаве пачнецца пажар.

Гэта я вам зараз так падрабязна, у дэталях распісваю, калі аварыйную сітуацыю даследавалі дзесяткі камісій; калі сам «пракруціў» усё гэта ў памяці тысячу разоў. А тады падзеі разгортваліся на злом галавы. Тэмпература вельмі хутка ўзнімалася. Яшчэ трошкі, і пачнуць плавіцца цеплавыдзеляльныя элементы. А гэта — катастрофа. Рэактар выбухне ад перагрэву, загіне лодка, а з ёю і ўвесь экіпаж.

Камандзір, капітан 1-га рангу, Мікалай Уладзіміравіч Зацееў вырашыў: зняць лішак цяпла, пусціўшы ваду праз актыўную зону рэактара. Але як? На лодцы стаяў рэактар, які не меў спецыяльных прыстасаванняў і сістэм для гэтага. Гэта ўжо потым, пасля нашай аварыі, былі зроблены канструктыўныя змены ў энергетычнай ўстаноўцы.

Я атрымаў каманду на ўсплыццё. Мае хлопцы спрацавалі зладжана. Лодка выйшла на паверхню. Пачалася барацьба за ўратаванне атамаходу.

На нашай лодцы былі цудоўныя камандзіры і інжынеры. Ведаеце, што яны прыдумалі? Самім змантіраваць нештатную сістэму ахалоджвання. Для яе работы выкарыстаць запасы прэснай вады. Але каб яе запусціць, гэтую сістэму, трэба было спусціцца ў рэактарны адсек, прыладзіць трубы да помпаў, падаць ваду ў актыўную зону.

— Але ісці туды — гэта ж смерць?!

— Так, гэта ўсе разумелі: той, хто першы спусціцца ў рэактар, атрымае смяротную дозу апраменьвання. Узяўся ісці лейтэнант Барыс Карчылаў. Малады такі, сімпатычны. З матросамі толькі на «вы», інтэлігентны хлопец. Гэта было яго першае «мора» — на лодку ён прыйшоў пасля вучэльні. З ім пайшло яшчэ колькі чалавек. Усе з рэактарнай групы. Ім ніхто не загадваў, самі падахвоціліся. За дзве гадзіны Карчылаў і яго хлопцы змантіравалі і запусцілі сістэму ахалоджвання. У рэактар пайшла вада. Гэта ўратавала яго ад тэрмальнага выбуху.

У нас была тая ж сітуацыя, што і ў Чарнобылі, але без разбурэння ў рэктары. Яго, можна сказаць, сваім целам закрылі Барыс Карчылаў, галоўны старшына Барыс Рыжыкаў, матрос Мікола Саўкін і іншыя.

— Які іх лёс?

— Усе яны атрымалі велізарныя дозы апраменьвання — па пяцьшэсць тысяч бэр. Памерлі праз колькі дзён у жахлівых муках... Я бачыў гэтых хлопцаў адразу пасля таго, як іх вынеслі з рэактара. Самі выйсці яны не маглі. Жахлівае відовішча, мушу сказаць. У іх да непазнавальнасці змяніліся твары, яны не маглі гаварыць...

— А як і чаму вы, старшына каманды станцыі ўсплыцця і заглыблення, апынуліся ў рэактары?

— Я нёс вахту разам з машыністам, трумным і трумным рэактарнага адсеку. Паводле інструкцыі я мусіў у экстрэмальных абставінах працаваць з імі ў адной звязцы. У рэактарным адсеку стаялі нашы кампрэсары, іншыя прыстасаванні.

Бяда ніколі не прыходзіць адна: у рэактарным адсеку перасталі дзейнічаць аўтаматычныя клапаны вады і пары. Ціск узнімаецца, тэмпература таксама. Зноў з'явілася пагроза выбуху.

Увесь экіпаж быў на верхняй палубе — далей ад аварыйнага рэактара.

У рэактар мы пайшлі разам са старпомам. Я сам, па сваёй ахвоце пайшоў на гэтае заданне. Лічыў, што лепш за мяне ніхто не наладзіць клапаны. Старпом страхаваў за выгарадкай.

Скажу шчыра: у рэактары я ўпершыню ў жыцці адчуў пякельны страх. Ішоў, нібыта ў пашчу ўдаву. Я ўжо бачыў апаленыя радыяцыяй твары хлопцаў з рэактарнай групы, ведаў, што такое атам. У рэактары нікога няма. Толькі шум механізмаў і плёхаецца вада пад нагамі. Трубы, сцены, вада гараць святлом ад радыяцыі. Жахліва...

Я мусіў адчыніць клапаны, каб маглі выдаліць з рэактару пару, ваду і тым самым зняць ціск і ліквідаваць паравую падушку. Тэмпература вышэй за шэсцьдзесят. Скуру апякае пара, дыхаць немагчыма... Намацаў я клапан, адчыніў яго і пайшоў па лытку ў вадзе назад. Потым зноў спускаўся, яшчэ адзін клапан заклініў.

— І колькі сумарна вы прабылі ў рэактары?

— Не ведаю. Можа, нехта і рабіў хранаметраж, але мне было не да яго. У галаве пульсавала адна думка: знайсці клапан, адчыніць яго і самому не зачапіцца, не паваліцца ў ваду. Іначай — канец...

— Чым для вас скончыліся два спускі ў рэактарны адсек?

— Прамянёвай хваробай трэцяй ступені і звыш 500 рэнтген — мы тады пра бэры нічога і не чулі. Лічбу гэтую я даведаўся пазней, калі трапіў у Ленінград, у Вайскова-медыцынскую акадэмію.

— Як працягвалася барацьба за ўратаванне атамаходу?

— Наш стан яшчэ больш ускладніўся, калі зрабілася вядома, што пашкоджана антэна галоўнага перадатчыка. Лодка была адрэзаная ад усяго свету. Сувязі з берагам няма, да базы — каля паўтары тысячы міляў, навокал — ніводнага судна — самы сапраўдны «мядзвежы кут» акіяну... Ісці на адным рэактары дамоў — гэта колькі ж часу будзе змарнавана, людзі атрымаюць смяротныя дозы радыяцыі. Нават тады, калі яны будуць знаходзіцца толькі на верхняй палубе.

Наш камандзір адразу зарыентаваўся: лодка легла на зваротны курс, у раён вучэння асноўных сілаў флоту. З дапамогаю слабога аварыйнага перадатчыку выйшлі на сувязь з камандзірамі дзвюх дызельных падводных лодак. Не спытаўшы дазволу ў камандавання, на што пайшло б шмат часу, абодва «дызеля» выйшлі нам насустрач.

Далей памятаю не ўсё. Мае бэры даліся ў знакі. Я адчуваў сябе блага. Пачало ванітаваць, невыносны боль галавы, зрок амаль знік... Успамінаецца толькі, як завіхаўся каля мяне карабельны доктар і начхім Вахрамееў. З прамянёвай хваробаю яны раней не сутыкаліся. А тым больш пры такіх абставінах. Памятаю, як частка экіпажа перайшла на эсмінец, а нашу лодку паспрабавалі ўзяць на буксір, з гэтага нічога не атрымалася: пачаўся шторм. На атамаходзе скіравалі тарпедныя апараты дызельнай лодкі. Так, быў такі варыянт. Калі на пакінутую лодку паспрабуюць трапіць або захапіць яе амерыканцы, а яны снуюдалі вакол, давядзецца выпусціць па ёй некалькі тарпед. Лепш няхай патоне, чым дазнаюцца ўсе сакрэты. Такі быў час — усеагульнай падазронасці ўпартага, напятага, як струна, супрацьстаяння.

— Так што ж з лодкай?

— Тарпеды, дзякуй Богу, не спатрэбіліся. Атамаход адбуксавалі на базу, адрамантавалі. Бачыў яго потым не аднойчы. Ён, здаецца, і сёння ў страі.

На эсмінцы атрымаў кваліфікаваную дапамогу. Распранулі — і ў душ. Змыў з сябе ўвесь бруд, выйшаў з-пад вады, а прыбор у руцэ дазіметрыста як трашчаў, так і трашчыць. Зноў пад душ. І зноў той жа вынік — стрэлка зашкальвала. Колькі ні змываў, а «свяціўся», як вывяліся, я ўвесь — ад валасоў да пятак. Шчытавідка, абпаленыя рукі і ногі асабліва...

Прывезлі нас у шпіталь. Млоснасць і галаўны боль трошкі адпусцілі. Урачы растлумачылі: пачаўся скрыты працэс. Ніхто з флоцкіх медыкаў не ведаў, з чаго пачаць. Як лячыць абвостраную форму прамянёвай хваробы? Параіліся і адразу са шпіталя верталётам скіравалі хлопцаў з рэактарнай групы ў Маскву, да доктара Гуськовай. Памятаеце, пасля Чарнобыля ў другу нярэдка сустракалася прозвішча прафесара Гуськовай? Так, гэта была яна, на той час малады ўрач, спецыяліст у галіне радыелагічнай медыцыны.

Перад адпраўкаю ледзь не адбылася яшчэ адна катастрофа. Верталёт з хворымі падводнікамі не здолеў узняцца, зваліўся на зямлю. І гэта на вачах усяго шпіталю. Дзякуй Богу, абышлося без ахвяр. Ну а тых, хто хапануў радыяцыі меней, размеркавалі ў Вайскова-медыцынскую акадэмію. Некаторыя глядзелі на нас, як на выкапнёвых дыназаўраў. Нашто, маўляў, гэтых падводнікаў лячыць, калі яны вунь якія вясёлыя, жартуюць, да малодшага медперсаналу заляцаюцца...

Але скрыты перыяд хваробы неўзабаве мінуў, і прыйшлі жахлівыя дні. Я «здаўся» першы — самую вялікую порцыю бэраў, як высветлілася, хапануў. Пякельны боль апанаваў цела. Здавалася, нехта выкручвае косці. Пачаў губляць прытомнасць. Суткамі каля мяне дзяжурылі ўрачы...

— Бацькам паведамілі, у якую бяду вы трапілі?

— Так, ім адбілі тэлеграму. Без усялякай дыпламатыі, прамым тэкстам паведамілі: так і так, ваш сын у цяжкім стане, неадкладна прыязджайце, калі хочаце заспець яго ў жывых...

Я стаяў адною нагой на тым свеце. Ішоў актыўны распад крыві. Зробяць ін'екцыю — кроў бяжыць струменьчыкам, як вада з-пад крана. Згусанне крыві — нулявое. Пластыр сястра налепіць, каб не выцякала кроў, вось і ўсе сродкі... Зрок кепскім стаў. Палысеў, галава — як у Фантамаса. Пазногці самі злезлі — як луска з рыбы. Нічога есці нельга было. Рот, язык, горла — усё апалена. Сунулі нейкую трубку праз нос адразу ў страўнік і капалі па кроплі.

Карацей, паміраў я. Пакутніцкай смерцю. Усё цела было згусткам болю. Я да яго настолькі прызвычаіўся, што да ўсяго ставіўся абыякава. Вы не паверыце, але болей за ўсё жадаў аднаго: беззваротнага правала ў бяспамяцтва, каб адразу скончыліся зямныя пакуты.

З таго свету мяне выцягнуў вайсковы ўрач Аляксееў Рыгор Ілліч. Зараз ён прафесар, доктар навук, а тады толькі пачынаў. Я паклаўся на аперацыйным стале, што калі выжыву і ў мяне будзе сын, то назаву яго Рыгорам...

— Ну і як, абяцанне выканалі?

— Не адразу, але выканаў. Мой Рыгор зараз на трэцім курсе палітэхнічнага інстытута. Есць яшчэ дачка — ёй пятнаццаць гадоў.

— Іван Пятровіч, вы кажаце, што Аляксееў вас выцягнуў з таго свету. Як гэта яму ўдалося?

— Вось зараз кажуць: нашыя ўрачы нічога не ўмеюць, хворых трэба везці ў Штаты, або ў ФРГ, плаціць валютай. А я не веру. За дваццаць пяць гадоў да Чарнобыля Аляксееў зрабіў мне пераліванне крыві і перасадку коснага мозгу. Зрабіў, відаць, добра, бо я адразу адчуў палёгку, і мне зрабілася сорамна за свае думкі пра блізкую смерць. Мне зноў захацелася жыць...

— А хто былі донарамі?

— Курсанты ленінградскіх вучэльняў, сябры-маракі. Ува мне цячэ іхняя кроў — некалькі разоў замянялі цалкам. Я жыву з іх косным мозгам. Я зрабіўся іхняй часцінкай...

Паступова я выкараскваўся. У шпіталях прабасцяўся месяцаў з дзесяць, потым скіравалі на поўдзень, у санаторый. Тут пачалі адрастаць валасы. Кучаравым зрабіўся, як танкарунны баран. Хлопцы торгалі, не верылі, што валасы сапраўдныя, думалі — парык. У мяне і зараз шыкоўныя валасы, не адзінага сівога воласа.

— А які лёс тых хлопцаў, хто трапіў з вамі ў Вайскова-медыцынскую акадэмію?

— Пра рэактарную групу Барыса Карчылава я ўжо сказаў. Усе васьмёра памерлі. Яны спалілі сябе ў рэактары... Сканала шмат з тых, хто атрымаў дозу паменей. Хто раней, хто пазней. Доктар Аляксееў сказаў, што мяне ўратавала моцнае сэрца. Як яно здолела вытрымаць усе пакуты, што прыйшліся на маю долю?..

— Вас узнагародзілі?

— Узнагародзілі тых, хто памёр. Карчылава прадстаўлялі да Зоркі Героя, але не далі, якая, маўляў, узнагарода за аварыю... Ну, а астатнія павінны былі дзякаваць Богу, што засталіся жывыя.

— Вас прызналі непрыдатным да вайсковай службы?

— Так, вядома. Камісавалі. Далі другую групу інваліднасці, пенсію ў памеры 28 рублёў, плюс яшчэ чатыры рублі «старшынскія». Ідзі, хлопец, куды хочаш!

Паехаў я да брата на Украіну. Год быў каля яго. Здароўе нібыта палепшала. Есці, піць трэба? Трэба. Апранацца... На мае 32 рублі не параскашуешся. Паспрабаваў уладкавацца на працу — куды там! Кадравікі разгортвалі медыцынскую кніжку і адразу ж паказвалі на дзверы...

— А які дыягназ вам запісалі пры звальненні?

— Прамянёвая хвароба ў тыя гады не згадвалася. Пра яе казалі паўшэптам у шпітальнай палаце. Выйшаў за браму — забудзься, на што хварэў! Дзяржаўная таямніца. Але і проста так, за адное а-пчхі, не спішаш. Патрэбны «салідны» дыягназ. Урач, што рабіў запіс у маю медыцынскую кніжку, быў вынаходлівы. Запісаў — і рука не здрыганулася: осцэнавегетатыўны сіндром. А ведаеце, што гэта такое?

— Не...

— З такім дыягназам толькі ў вар'ятню прымуць. Дзякуй, дапамаглі...

Напісаў я роспачны ліст свайму былому начальніку палітаддзела Кузьмінчуку, добры хлопец быў, матроса паважаў. Спытаў у яго парады: што, маўляў, мне рабіць, можа, вараваць? З кісцянём пад мост або з сумою на вакзал: падайце, калі ласка, былому падводніку?..

Кузьмінчук, добры чалавек, на медыкаў нашых націснуў, дамовіўся, што мяне пераатэстуюць. Так я зноў трапіў на флот. У мора не пусцілі, ды я і сам ужо туды не імкнуўся. Дзякуй і за тое, што дапамаглі свой кавалак хлеба атрымаць. Прызначылі начальнікам трэнажора па падрыхтоўцы падводнікаў. Спачатку, праўда, з'ездзіў на курсы ў Обнінск, на АЭС. На гэтай пасадзе і праслужыў да выхаду на пенсію.

— Выбачайце, Іван Пятровіч, за, магчыма, недэлікатнае пытанне. Як склалася вашае асабістае жыццё?

— Разумею падтэкст. Колькі хадзіць чутак наконт гэтага...

Ажаніўся я праз дзевяць гадоў пасля аварыі, у трыццаць два гады. Доўга не мог наважыцца на гэты ўчынак. Першы час не да шлюбу было — бэры даваліся ў знакі. Потым нібыта ўсё стала на свае месцы, але не выходзіла з галавы: а як мая прамянёвая хвароба адаб'ецца на дзецях? Я японцаў вунь якія жахі пасля Хірасімы...

Цяпер гэтыя ваганні ззаду.

— Іван Пятровіч, прамянёвая хвароба нагадвае пра сябе?

— Зараз радзей, а раней было як прыхопіць — хоць з жыццём развітвайся. Косткі ломіць, суставы выварочвае. Да семідзесятага года нас усіх, хто выжыў, рэгулярна запрашалі ў Ленінград. Праводзілі даследаванні, лячылі, давалі парады. Потым усё гэта раптам абарвалася.

— І з таго часу вамі ніхто не цікавіцца?

— Ніхто.

— Нават пасля Чарнобылю?

— Дзесяць год жыву ў Мінску, і ніхто ніводнага разу ў мяне не спытаў пра прамянёвую хваробу. Хаця пры звальненні я дамогся, каб мне запісалі сапраўдны дыягназ у медыцынскую кніжку — часы неразумных забарон мінулі.

— Як вы мяркуеце, ці можна параўнаць вас з тым, хто ўжо пяць гадоў жыве ў зоне радыеактыўнага забруджвання?

— У літаральным сэнсе — не. Сітуацыя, у якой апынуўся я, была больш спрыяльнай — калі гэтае слова наогул можна ўжыць у дадзеным кантэксце. Я атрымаў аднаразовую высокую дозу апрамянення. Тысячы ж людзей на Беларусі, на Украіне і ў Расіі зрабіліся заложнікамі Чарнобыля на доўгія гады. Радыеактыўныя элементы паступова назапашваюцца ў арганізмах. Атам праводзіць сваю разбуральную працу спакваля, чалавек не здагадваецца, дзе тоіцца небяспека.

Я занадта добра ведаю, што такое радыяцыя. Таму лічу здраднікамі свайго народу тых кіраўнікоў, што некалькі гадоў утойвалі праўду пра Чарнобыльскую трагедыю, нічога не зрабілі, каб зменшыць яе вынікі. Шмат хто з іх і сёння на высокіх пасадах. Яны здзейснілі злачынства супроць уласнага народа і мусяць за гэта адказаць...

— Іван Пятровіч, у Мінску, як бачу, вы ўладкаваліся грунтоўна, атрымалі трохпакаёвую кватэру. Працуеце, відаць?

— Вядома, працую. На сто пяцьдзесят рублёў пенсіі — «столь» мічмана-падводніка — няўжо ж сёння пражывеш? Пайшоў у ахову. У пазаведамаснай ахове нашага брата-адстаўніка паважаюць... Жонка працуе, дзеці вучацца. Сумаваць пакуль што не даводзіцца...

Дзіўныя пачуцці авалодалі мной, калі я сыходзіў з утульнай кватэры Івана Кулакова. Варта схіліцца перад мужнасцю гэтага чалавека. Ён быў адным з першых, хто выйшаў на змаганне з атамам і перамог яго коштам свайго здароўя.



Шмат хто з ягоных сяброў загінуў. Але рэактар тады, у ліпені 1961 года, здолелі ўратаваць. Ці мог ён ведаць, якія будуць вынікі для ўсяго жывога, у ягонай роднай Беларусі з-за другога выбуху — праз дваццаць пяць гадоў, на атамнай станцыі ў Чарнобылі?

Дзяўчынка пісала вершы. Хутчэй за ўсё, яна пісала на ўроках, калі слухаць настаўніка было нецікава. Яна раз-пораз паглядала ў вакно, і ў яе самі сабою складаліся радкі і рыфмы. Пра сіняе неба, золата клёнаў і цёмныя ночы...

Божа, якая звычайная гісторыя!

Гэта было вельмі даўно, у 1920-м годзе, у Беларускай гімназіі ў Вільні. Людзі тады жылі небагата, але размаўлялі паміж сабою па-беларуску, любілі сваю Бацькаўшчыну і ў вольную хвілінку ўмелі любавацца сінім небам, золатам клёнаў і цёмнымі начамі...

Божа, якая старая гісторыя!

Аднойчы, гэта было ў суботу пасля ўрокаў, дзяўчына падышла на калідоры да настаўніка літаратуры і сказала: «Максім Іванавіч, я напісала вершы...» Настаўнік, прозвішча якога было Гарэцкі, узяў сшытак, пагартаў яго і, нічога не сказаўшы, пайшоў. Дзяўчына разгубілася. Яна не ведала, што ёй цяпер рабіць і чаго чакаць.

А пад канец таго дня ўсе вучні сабраліся ў школьнай зале на звычайную суботнюю вечарыну. Першы на сцэну выйшаў Максім Іванавіч і стаў чытаць вершы. Пра сіняе неба, золата клёнаў і цёмныя ночы...

Божа, якая дзіўная гісторыя!

Спачатку дзяўчына засаромелася, але пасля, калі ўсе сталі пляскаць у ладкі, ёй раптам вельмі захацелася напісаць яшчэ шмат і яшчэ лепшых вершаў. І яна пісала. Нават калі скончыла школу, нават калі выйшла замуж, нават калі стала матуляй. Яе дарадчыкам быў Антон Луцкевіч. Яе вершы друкаваліся ў газетах і часопісах і выйшлі асобнай кніжкай, якая так і называлася: «Пад сінім небам»...

Божа, якая доўгая гісторыя!

Але гэта толькі пачатак. Пасля было цэлае жыццё. Жанчыне даводзілася шмат ездзіць — то за мужам-вайскоўцам, то ў высылку ў Казахстан, то з Казахстану ў Мінск... Паўсюль яна бачыла шмат гора і пакутаў, шмат усялякай несправядлівасці. Ажно пачалася вайна. На мінскіх вуліцах з'явіліся шыбеніцы з павешанымі, стала небяспечна выходзіць з дому, фашысты палілі цэлыя вёскі разам з людзьмі...

Пад канец вайны жанчына выехала ў Германію, а тады — у Амерыку, дзе жыве і сёння. Напэўна, яна і сёння лічыць, што самае галоўнае ў свеце — гэта прыгажосць, таму зноў і зноў піша прыгожыя вершы. Пра сіняе неба, золата клёнаў і цёмныя ночы...

Божа, якая неверагодная гісторыя!

* * *

Між іншым, некаторыя вершы Наталлі Арсенневай, якія я адабраў для друку, могуць быць табе знаёмыя. Напрыклад, «Малітва». Гэтым вершам 30 верасня мінулага года на плошчы Леніна ў Мінску адкрываўся масавы мітынг «Чарнобыльскі шлях». Тады ж, у верасні, верш «У гушчарах» спяваў на сваіх канцэртах у Мінску беларускі спявак з ЗША Данчык.

І яшчэ адно «між іншым». Табе, чытач, нічога не нагадвае прозвішча Арсеннева? Успомні — такое прозвішча было ў бабулі Міхаіла Юр'евіча Лермантава. Зразумеў, да чаго я вяду гутарку?

Сяргей ДУБАВЕЦ

БЕРАГІ

# ВЕРШЫ ПРА СІНЯЕ НЕБА

## МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу, і наш народ!

## УВЕЧАРЫ

Смутак няясны зыйшоў на душу...
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?
Лёгкія хмары плывуць спакваля,
мглою чырвоны ўбіраючы шлях...
Гукі і гоман нясуцца здалёк,
быццам хто гора задзержаць ня змог
і закрычаў, застагнаў на ўвесь сьвет...
Не, гэта места шуміць так... і сьлед
хворыя гукі кладуць на душу.
Цемра надходзіць... чаго я хачу?
Хочацца ласкі, да болю, да мукі,
Хочацца сьціснуць халодныя рукі,
хочацца кінуць усё і пайсьці,
думкі разьвеяць мне хочацца... ці
ўзяць і заплакаць, каб сьцішыць душу.
Сонца заходзіць... Чаго я хачу?
Можа хачу я таго, што ўжо маю,
можа хачу недасяжнага раю?
Не, не зямных я хацела б уцех,
радасьцяў дробных праз сьлёзы і сьмех...
Я... я б раззорыць хацела душу.
Цемра надходзіць... Чаго я хачу?

## У КЛЯСЕ

Шумна ў клясе, шумна і нудна,
Сьцены шырокія душаць мяне.
Словы вучыцеля ціха, марудна
Льлюцца, іх слухаць ня хочацца мне.
Там, ля дзьвярэй, так вясёла сьмяюцца,
Тыя — чытаюць, другія — крычаць,
Я... я гляджу на праменьні, што рвуцца
Ў цёмную клясу і ў шыбах гараць.
А з-за вакна мне шапочуць таполі,
Неба сінее, прыветная даль,
Даль, што ня зьведаць яе нам ніколі,
Сьветла-празрыстая, быццам крышталь.
Дыхае сьвежасьцяй сад пажаўцелы,
Ў зале «Ад веку мы спалі» пяюць...
Нудна сядзець мне у клясе дзень цэлы,
Як праз вокны нячутна, нясьмела
Восені гукі плывуць...

## У ГУШЧАРАХ

У гушчарах, затканых імглою,
шэрым змрокам, на золку, ў зару
ахвяруем Табе мы сабою
кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцы жаху ні жалю,
мы адвагай змагарнай гарым:
не чужыя жануць нас у далеч,
але Ты нас вядзеш да зары.

І мы верым, яна разгарыцца,
ўстане зноў над краінаю дзень,
бо ня стане змагар, не скарыцца
прад нягодай ніколі, нідзе.

Хмараў дым над галовамі тае,
вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь залатая,
За Цябе, за Цябе мы ідзём!

## МЕСЯЧНАЙ НОЧАЙ

Ноч срэбным пальцам ціха водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў
і топіць фрэскі ў белым лёдзе,
і вокны бляскам белым рэжа...
Стаю ў туманным срэбры ночы...
за мною горад празаічны,
няспынны горад плюшчыць вочы —
кругі ліхтарняў электрычных,
цяжарам кол зялезных крышыць
сьлізкі асфальт, дзікія брукі,
і сьніць аб месяцы і цішы
пад хрыплы хор мястовых гукаў...
Галосіць радыё ў кавярні,
нястройна енчаць кляксафоны,
клубіцца змрок густы і парны,
мігціць рэклямаў пыл чырвоны,
у нежывым нэонным блеску
плывуць сыльвэткі самаходаў,
у змрочных вулак пералесках
шукаюць дробнае прыгоды...
А ноч... Ноч срэбным пальцам водзіць
па стромкіх пнёх гатыцкіх вежаў,
ноч топіць фрэскі ў белым лёдзе,
вітражы бляскам белым рэжа.
Ноч цягне месячныя зьзяньні,
сплятае ў мост хісткі, узьлётны,
каб ім завесьці ў неба сяньня
натхненна выцягнены готык...

## СЬНЕЖАНЬ

Сьвежым сьнегам асыпаў сьнежань
вайстраверхія дахі вежаў,
камяніцы, каменьне брукаў,
бровы жвавых наўзьдзіў людзей.
Пад асьнежаны сэрца стукат
выплятаю я сетку сьцежак
на бязьмежным абсягу сьнежным,
дзе ружовы разьліўся дзень.
Места сьпіць... Ды ўжо званьніцы
клічуць пышных і клічуць ніцых
выйсьці, вочы ўзьняўшы ў вышу,
хай сабе не маліцца — спачыць.
Белы вецер нясе, калыша
гэты кліч... І далечам сьніцца:
нехта белы, найбельшы кліча
іх, блакітных, ад злога ўцячы.
А куды ўцячы нам, нясытым
ні ўсьмешак, ні сьлёз,
не блакітным,
не асьнежаным белым сьнежнем —
толькі шэрым і думкай і ўсім.
Хай заходзіцца з плачу ў вежах
звон па звоне,
ніхто ж карытаў,
поўных клунь, у зямное ўшыты,
не пакіне, дарма прасіць!
Сьвежым сьнегам асыпаў сьнежань
вайстраверхія дахі вежаў,
камяніцы, каменьне брукаў,
бровы жвавых наўзьдзіў людзей.
Пад асьнежаны сэрца стукат
дапляла я мярэжу сьцежак
на бязьмежным прасьцягу сьнежным,
дзе ружовы разьліўся дзень.

Натальля АРСЕНЬНЕВА

## МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП



Працягваецца вялікае еўрапейскае турнэ Эрыка Клэптана, прысвечанае рэкламе новага дыска «Вандроўнік». Цікава, што месца за бубнамі на большасці «сэйшнаў» займаў Філ Колінз (экс-«Джэнезіс»). Айчынныя рок-аматары спадзяюцца, што пад час сольных канцэртаў Колінза ў СССР на сцэне з'явіцца і гітарыст Эрык Клэптан.

Цяпер, калі нарэшце скончылася судовая справа паміж «Бітлз» і фірмай гуказапісу «Кэпітал/ЭМІ», бітламаны чакаюць з'яўлення новых запісаў «ліверпульскай чацвёркі», якія дагэтуль не тыражаваліся. Па словах Руперта Пэры, дырэктара «Кэпітал/ЭМІ», фірма падрыхтавала калекцыю рарытэтных запісаў Джона Ленана.

Ці карыстаецца папулярнасцю рок у Японіі? Вядома, як і ва ўсім цывілізаваным свеце. Надзвычай цікавыя эксперыменты па спалучэнні класічнага заходнееўрапейскага «хард-року» і канонаў тэатра Кабукі ладзіць гурт «Кабукі Рокс». А першыя месцы ў хіт-парадах трымаюць гурт «Коме Коме Клаб», жаночы квартэт «Прынцэс прынцэс» і група электроннай музыкі «Бі Зэт».

Бас-гітарыст Роберт Брокі стварыў новую групу. Завецца яна «СС-20», напэўна, у гонар савецкіх ракет сярэдняй дальнасці. У склад групы, апроч Брокі, уваходзяць таксама гітарысты Піт Майлз, Джэкі Мак Кінлі, бубнач Рудольф Браўн і вакаліст Стэнлі Леві. Група ўжо запісала свой першы сінгл — кампазіцыю з досыць мілітарыстычным назовам «Спадарожнік-шпіён».

Пол Макартні даў згоду здымацца ў мастацкім кінафільме, дзе ён будзе іграць самога сябе.

Новая праца вядомага амерыканскага мульціінструменталіста Пола Боксайта — інструментальны альбом «00-00», на якім запісана музыка, створаная ім да відэафільма жахаў «Кажаны». Боксайт, які цяпер эксперыментуе з гукавымі спалучэннямі, што ствараюць у слухачоў пачуццё жаху, плённа працуе над чарговым фільмам «чорнай серыі», які называецца «Мумія».

Ленінградскі гурт «Тэлевізар», які нечакана для многіх застаўся без гітарыста, знайшоў у рэшце рэшт вартага музыку. Нагадаю, што ранейшы гітарыст — Аляксандр Бяляеў — перайшоў у новы склад свярдлоўскага «Навуцілуса».

«Дыназаўры» пап-музыкі Дэсманд Чайлд (ЗША) і Уладзімір Мацецкі (СССР) напісалі музыку і запусцілі на камерцыйную музычную арбіту новы экспартны гурт — «Рэд Скай», у якім узялі ўдзел музыкі з «Чорнай кавы», «Зямлян», «Вясёлых хлопцаў».

Савецкія кінематаграфісты скончылі працу над трохгадзіннай стужкаю «Зрух у рок-н-рол», якая апавядае пра нефіларманічны рок у СССР. У здымках узялі ўдзел 18 каманд з маскоўскай рок-лабараторыі. Адзін з сюжэтаў стваральнікі стужкі прысвяцілі развітальнаму канцэрту Пятра Мамонава і «Гукаў МУ».

«Кніга рэкордаў Гінэса» працягвае друкаваць незвычайныя факты, і рок-н-рольшчыкі таксама не пазбаўлены ўвагі. Вось некаторыя выняткі з главы пра музыкаў:

Дэвід Боўі зарабіў 1,5 млн. доларaў за адзін толькі выхад на сцэну на музычным фестывалі ў Глен Хулен Рэджынал Парк, Каліфорнія, 28 траўня 1983 года.

Турнэ Бруса Спрынгсціна, якое пачалося ў красавіку 1984 года, прынесла яму прыбытак 117 млн. доларaў. Музыка канцэртаваў у 61 горадзе, у 11 краінах (усяго 158 канцэртных дзён). Канцэрты наведалі 4 767 854 слухача.

Першае выкананне рок-оперы «Ісус Хрыстос — суперзорка» адбылося ў тэатральным зале «Палас» у Лондане 8 жніўня 1972 года. За наступныя дзесяць гадоў адбылося 3357 пастановак, оперу праслухала 2 млн. слухачоў, а агульны прыбытак склаў 2 млн. фунтаў сцерлінгаў.

Аўтарамі-рэкардсменамі, напісаўшымі самую вялікую колькасць песень, якія займалі першыя месцы ў хіт-парадах, сталі Джон Ленан і Пол Макартні. У Злучаных Штатах Макартні лічыцца аўтарам 32 песень № 1, Ленан — 26, а 26 сумесных кампазіцый лічацца лепшымі і ў ЗША, і ў Вялікабрытаніі.

Падрыхтаваў Уладзімір КВЯТКОВІЧ.









Калі вы не зразумелі,
што намалявана
на гэтым постары,—
не напружвайцеся.
Усё роўна
не зразумееце,
таму што гэта —
толькі палова плаката.
А другая
яго палова —
на постары
наступнага нумара
часопіса.



Андрэй МАЛЧАНАЎ

# НЮ

## ІНТЭРВ'Ю З ДАМАЙ АРЫГІНАЛЬНЫХ ПОГЛЯДАЎ

Жанчына гэтая працуе
ў маленькай кавярні
і безумоўна
цікавая тым,
што не спіць
з мужчынамі.
Яна робіць гэта з падлеткамі.
— Колькі табе гадоў, Іра?
— Дваццаць восем,—
смяецца яна
і натурліва прыкладае
насовачку да вуснаў,—
ну, што за клопат?
Я жанчына!
У жанчыны не пытаюцца
пра ўзрост, жанчыне столькі,
на колькі яна выглядае.
— Тады ты —
на сто працэнтаў страт! —
цяпер ужо смяюся я,
гледзячы на гэтую прывабную
жанчыну гадоў каля сарака.



Размова нашая адбываецца
ў кавярні,
у часе перапынку на абед,
нікога няма, мы сядзім,
балбочам у дыктафон
і паціху п'ем каву.
— Чаму я не сплю
з мужчынамі? —
яна лена зацягваецца
танюсенькае «МОРЕ».—
Смярдзючыя вы ўсе нейкія,
як казлы! — смяецца.—
Але гэта не галоўнае.
Галоўнае — што?
Прыходзіць хлапец з войска,
галаву ў танку дзе пакінуў,
або дзяды адбілі ўвесь розум,
і адразу — жаніцца.
Першая, якая дала — жонка.
А потым абжывецца, абдумаецца,
пялёнак гаўнючых намыецца
ды ночак не даспіць,
пакуль спінагрыз раве;
і жонка яшчэ, каровішча,
дастане,—
вось ён і пойдзе куды «налева».
— Гэта — зразумела.
І ўсё ж...—
вяртаю я Іру да пытання.
— Дык я ўсё пра тое ж!
Каму такі патрэбен,
акрамя ўласнай жонкі
ці другой гэткай жа дурніцы?
Ён жа не можа ўжо нічога!
Ну, разумееш?
— Як не можа? —
сумняваюся я.—
А дзіця — ад духа святога?
— Дык дурная справа не хітрая!
Я ж не пра дзяцей,
а пра тое, як ён гэта можа.
Ну, разумееш?
Ды ты сябе ўзгадай
у гадоў васемнаццаць.
Ці ж ты мог тады павярнуцца
і спаць пасля разу?
Хіба што, таксама спрытны быў.
«Эх, раз, яшчэ раз,
яшчэ многа, многа раз...» —
праспявала высока і сардэчна Іра.
— Значыць, гэта хобі,
захапленне такое ў цябе
маладымі і моцнымі?
— Шматразовымі
і недасведчанымі!
Ой, у сорам увёў, халера! —
быццам збянтэжылася яна.—
Чакай, каньяку хочаш?
— А ёсць?
— У мяне ўсё ёсць.
— Адкуль усё?
— Ты што, з абэхээсу?
Яна сходзіла
ва ўнутранае памяшканне
і вярнулася з бутэлькай «Байкала».
Лінула мне і сабе ў чыстыя
кубачкі для кавы.
— А ўсё ж. Адкуль?
Ты ж не аблічваеш...
— Аблічваюць смаркачкі
ў гастраноме бабульку з кошыкам.
Я за гэтае месца
і ў «лапу» дала і так «дала».
Але гэта не твой клопат.
У цябе не краду.—
Памаўчала.—
Ды вось палячка да мяне ездзіць.
Я да яе. Працей простага.
Ды з цыгарэтамі цяпер —
сам ведаеш...
— Ну, добра,— кажу,—
я не пракурор, не абэхээснік,
дык і не суддзя табе.
— Ты толькі пра гэта не пішы.
Сэрцы потым трэба будзе.
— Баішся?
— Нічога я не баюся.
Баялася б,
не гаварыла б з табой.
— Дарэчы,
а чаму пайшла на размову?
— Дык цікава ж ведаць,
што пра цябе надрукавалі,
і ніхто не ведае,
што пра цябе.
— Як з тваімі хлопцамі?
— Ну, можа і так.
А, можа, яшчэ як.
— А колькі ты ім плоціш? —
зноў спрабую вярнуць размову
да «хлопчыкаў».
— Што ты ўсё: колькі? адкуль?
Ну, зануда!
Ім жа самім цікава.
Толькі вылупіўся, пушок яшчэ,
а тут я — усё, што хочаш.
Ці ж можа смаркачка якая тое,
што я?
— Ну...— як бы сгаджаюся я.
— Дык жа я
кожны прышчык ягоны люблю,
дык жа я...—
зайшлася ў захапленні Іра.—
Вось летась прыходзіў адзін
да мяне пару разоў.
А пасля нейкую сяброўку сваю...—
хацеў спрабаваць па-іншаму.
Ну і што? Вярнуўся.
Цяпер піша з арміі лісты.
— А многа іх у цябе было?
— Зноў?
— Ну, добра, даруй.
У цябе вось сям'я...—
няўпэўнена спытаўся я.
— Ёсць, вядома.
У мяне ёсць усё. Як у людзей.
Машына, летнік у добрым месцы,
кніжкі і на кніжках.
Дзве дачкі.
— Вялікія?
— Старэйшая
замуж выскачыла ўжо.
Вось дурніца! Адхапіла шчасце.
— Што такое?
— Ды хлопец нічога.
З добрай сям'і. Але,
ведаеш, ні тое, ні сёе. Млявы.
А, можа, яшчэ і дапне...
— Да чаго?
— Да жыцця.
— А малодшая?
— А малодшая
пакуль яшчэ ў школе
спадніцу праседжвае.
Гэтай палец у рот не кладзі!
Як што — такое выдасць,
што хоць стой, хоць падай.
У школе іх гэтаму вучаць,
ці што?
У дзверы пачалі грукаць.
Скончыўся абед
у маленькай кавярні.
Скончылася нашая
няскладная размова.
Іра прыняла са стала «Байкал»,
адчыніла дзверы
і пайшла за стойку.
Зноў пачалося жыццё па той бок,
дзе Ірына проста варыць каву
па-усходняму для ўсіх наведнікаў.
Я выйшаў на свежае паветра.
Ішоў дождж.
Я расчыніў парасон.



Леў КАЗЛОЎ,
прафесар Мінскага
інстытута культуры

# АД МЯЖЫ — ДА ГРАНІЦЫ

Пара, нарэшце, пазнаёміцца і з каралеўскімі камісарамі. Кандыдатуры мяняліся некалькі разоў, пакуль не падабралі тых, хто не мог ужо матываваць сваю нязгоду ўдзельнічаць у гэтай далікатнай справе. Таму, відаць, кароль абмежаваў іх паўнамоцтвы выключна зборам і фіксацыяй парушэнняў. У першую камісію былі пакліканы: ад Вялікага княства — Мікалай Андрушэвіч, канюшы літоўскі (асоба, адказная за вялікакняскіх коней) і Станіслаў Камароўскі — каралеўскі натарыус; ад Кароны — Давід Панятоўскі, канонік (член кафедральнай капітулы, або калегіі пры касцёле) гнезненскі і пазнанскі, і Лаўрэнці Пшыбароўскі (дадзеныя аб пасадзе адсутнічаюць). У другой камісіі літоўска-беларускі бок прадстаўлялі: Васіль Тышкевіч, вялікакняскі маршалак (пасада, звязаная з утрыманнем двара і адказнасцю за побыт вялікага князя), і Альберт Нарбут (паводле іншых крыніц — Васіль Ленартовіч) — каралеўскі пісар, а польскі — канонік варшаўскі Матэвуш Варгаўскі (Варгант) і Мацей Гурэцкі, каралеўскі сакратар.

А зараз адправімся разам з першай камісіяй уздоўж дзяржаўнай мяжы Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Граніца з Мазовіяй у тым 1546 годзе спачатку ішла па рацэ Лека (Элк), пачынаючы ад сённяшняга Граева (Беластоцкае ваяводства), да ўпадзення яе ў Бобр (Бебжа) каля Ганязі (Ганёнз) і далей па Бабру да яго зліцця з ракою Нараў, непадалёк ад мястэчка Візна, а потым уверх па Нараву да Гаштольдавага моста па дарозе, якая вяла з Ганязі і адсюль зварочвала на поўдзень уздоўж рачулкі Трасціны да сумежных сёлаў.

Калі ў вас ёсць буйнамаштабная карта гэтага рэгіёну, то пад 53°00′ паўночнай шырыні і 22°30′ усходняй даўжыні можна знайсці сяло Куляшы (Кулешы), побач — Старыя Уноры, а ў паўднёва-заходнім накірунку — Ябланку. Усё гэта былі населеныя пункты, што належалі Вялікаму княству Літоўскаму. А размешчаны крыху на захад Замбраў знаходзіўся ўжо ў польскай старане. Калі мяжа праходзіла па полі ці праз луг альбо лес, то абодва сумежныя бакі вельмі часта скардзіліся на розныя замеры і захопы, знішчэнне ці перанос межавых знакаў. Нічога дзіўнага, бо ў той феадальны час землеўладальніцкі інтарэс ляжаў у аснове пагранічных канфліктаў. Таму менавіта на такіх адрэзках камісія і адзначала «спрэчны абвод». Нярэдка розніца ў паказаннях мясцовых сведкаў дасягала адной-дзвюх ці нават трох міляў (1 міля = 7,798 км). Такія выпадкі ў попісу граніц, зробленыя першай і другой камісіямі, трапляюцца што крок.

Далей камісары выехалі на гасцінец Ломжа-Цехановец, які праходзіў праз сяло Расахаты, падзяляючы яго на мазавецкі і падляшскі бакі. Наогул, на тым старым пагранічча шмат назваў, якія маюць аж да гэтае пары гісторыка-геаграфічнае паясненне: «мазавецкі» ці «падляшскі», а калі граніца пасунецца далей на ўсход, то на новым пагранічча народзіцца паясняючае дапаўненне «літоўскі». Праўда, нярэдка такі прыём сустракаецца і ў выпадку аднолькавых назваў: Мінск-Мазавецкі, Янаў-Палескі.

Ад Расахатаў і суседняй вёскі Дуброва (Дамброва) камісія накіравалася на другі гасцінец, што вёў з Высокага-Мазавецкага да літоўскага Ціханоўца. Неўзабаве паказаўся Нурэц, які быў водным рубяжом аж да самага Буга, што падзяляў з даўніх часоў абедзве дзяржавы. Дарагічынскі (што на Бугу) падстараста Андрэй Фальковіч заявіў, што раней граніца ішла ад вусця Нурца да вусця Ліўца і аж да вытокаў апошняга. Праўда, на той момант землі па ніжнім цячэнні Ліўца ўжо знаходзіліся пад уладай Кароны, а мяжа праходзіла паміж мястэчкамі Сточак (польскае) і Угошча (літоўскае) прыкладна ўздоўж мерыдыяну 22° у напрамку да Ліва і Вуграва (Венгруў), паміж якімі і працягваўся той самы водны рубеж аж да вытокаў Ліўца. Адсюль граніца ішла далей на поўдзень, мінаючы на літоўскім баку Міжрэчча-Падляшскае, Астраўкі, туды, дзе пачыналася рэчка Півонія. І тут, паміж Вогінем і польскай Браніцай, камісарам паведамілі, што тры тыдні таму назад гэтыя мясціны ўжо наведалі іх калегі з другой камісіі, якія накіраваліся адсюль на Парчаў. Палічыўшы, што ў Парчаве ім няма чаго рабіць, канюшы літоўскі, каралеўскі натарыус, канонік і чацвёрты камісар з неазначанай пасадай завярнулі да мясцовых зямян Браніцкіх і ад далейшага абследавання граніц устрымаліся, аб чым з натарыяльнай дакладнасцю, на лацінскай мове, за подпісам усіх чатырох было сцверджана «ў дзень трэцяй нядзелі месяца жніўня року Божага Нараджэння 1546».

Тым часам другая камісія ўжо даследавала мяжу паміж Берасцейскім і Ратненскім паветамі. Граніца Беларусі з Украінай[1] у цэлым шэрагу фрагментаў захавалася з тых часоў аж да нашых дзён. Але гэта асобная тэма, таму, апавядаючы пра нашы былыя заходнія рубяжы, мы выкарыстаем толькі першыя старонкі попісу другой камісіі, пакуль яна не пераправілася цераз Буг. Цікава, што попіс складзены на «старой рускай мове» з відавочным уплывам мясцовых палескіх гаворак. Камісары на сваім шляху пастаянна звярталіся да сумежных жыхароў, якія і паказвалі ім «вечистые межи». Тэкст гэтага дакумента надзвычайна змястоўны, асабліва багаты на гісторыка-геаграфічныя факты, тапаніміку і генеалогію.

З Парчава, які да 1529 г. належаў Вялікаму княству, бо разам з ім выплачваў да таго «ардыншчыну», граніцу пачалі паказваць паны Браніцкія. Тут было многа спрэчных тэрыторый. Размежаваць абодва бакі было вельмі складанай справай, бо розніца дасягала некалькіх міль. Літоўскі бок, які прадстаўляў на гэтым абводзе берасцейскі падстараста Іван Яцыніч, спасылаўся на прывілеі часоў Уладзіслава Ягайлы. Што тычыцца польскага боку, то ён паказваў зруйнаваныя капцы, якія не прызнаваліся падданымі Вялікага княства. Мяжа прыкладна праходзіла паміж Вогінем і Парчавам, часткова па вярхоўі рэчкі Півоніі, далей на польскім баку аставаўся Вугнін (Угнін), на літоўскім — Кадзянец (Кодэнец), нарэшце па рэчцы Уладаўцы аж да ўпадзення яе ў Буг каля мястэчка Уладава, што ўваходзіла ў Берасцейскі павет. Тут і канчаўся падляшскі рубеж Вялікага княства. А 13 жніўня 1546 года, у пятніцу, другая камісія пакінула Уладаву, каб працягваць свой няблізкі шлях ва ўсходнім і потым у паўднёвым накірунку аж да канца кастрычніка таго ж года.

Ужо ў гэтай палове XVI стагоддзя насельніцтва Падляшша значна папоўнілася за лік выхадцаў з Мазовіі ці з іншых польскіх земляў. Паланізацыю краю давяршыла Люблінская унія 1569 г., адной з умоў якай стала далучэнне да Кароны большай часткі Падляшша — зямель Дарагічынскай, Мельніцкай і Бельскай[2]. У Вялікім княстве Літоўскім застаўся толькі Берасцейскі павет, далучыўшы да якога частку абшараў Палесся (былога Турава-Пінскага княства), утварылі Берасцейскае ваяводства, сумежнае з Валынню, якая апынулася пад уладай Польшчы. Праўда, калі параўнаць з сённяшнімі граніцамі, то сёе-тое засталося і ў Гарадзенскім павеце (у складзе Трокскага ваяводства). Мяжа, як і раней, пачыналася ад Прусіі, але ўжо ад раёна Аўгустова, ішла амаль проста на поўдзень, пакідаючы на баку Вялікага княства такія гарады і мястэчкі, як Даўспуда, Супрасль, Васількаў, Гарадок, Заблудаў. На невялічкім адрэзку непадалёк ад польскага мястэчка Нараў з Каронай межавала Наваградскае ваяводства.

Мяжа Берасцейскага ваяводства з ужо польскім Падляшскім ваяводствам пачыналася, калі працягваць перасоўвацца далей на поўдзень, ад таго ж Нарава. Уся Белавежская пушча знаходзілася тады па гэтай, берасцейскай старане. Далей межаваліся Кляшчэлі (польскія) і Мілейчыцы (літоўскія). Граніца перасякала Буг, пакідаючы ў Кароне Няміраў, а ў Княстве — Янаў-Падляшскі, і дасягала ракі Кшна. Тут ужо знаходзіліся самыя заходнія населеныя пункты тагачаснага Вялікага княства Літоўскага — вёскі Вязаўка і Астравок.

*Працяг.*
*Пачатак у № 1.*






Фрагмент карты «Літуанія» Матэуса Зойтэра, выдадзенай у 1745 г. у Аўгсбургу. На карце добра відаць заходнюю (падляшскую) мяжу Вялікага княства Літоўскага.

Той, хто, перасекшы сучасную граніцу ў раёне Берасця, ехаў чыгункай далей да Варшавы, відаць, звяртаў увагу на прабягаючыя назвы гарадоў. Дык вось, Мендзыжэч-Падляскі, некалі Межырэчча, быў найбольш значным горадам на заходняй мяжы. А далей тая старая граніца злівалася ўжо з той яшчэ больш старажытнай, што паварочвала на ўсход, да Уладавы, пра якую ўжо ішла гутарка. Вось так выглядаў падляшскі рубеж у больш познія часы, з другой паловы XVI і да апошняй чвэрці XVIII стагоддзя, да падзелаў Рэчы Паспалітай.

[1] Не забывайма, што пазней Украіна, у тым ліку Ратненскі павет, увойдзе ў склад Польшчы, а Беларусь застанецца ў складзе Вялікага княства Літоўскага.

[2] Гэта не азначае, што ўсё карэннае ўсходнеславянскае насельніцтва было спольшчанае. Заставалася свая мова, свая вера (праваслаўная, а потым уніяцкая). І цяпер на Бельшчыне жывуць беларусы, а ў Бельску працуе Беларускі ліцэй.

# ПАРА КОНЕЙ СІВЫХ

АПАВЯДАННЕ

Алесь КАЖАДУБ

Ён убачыў гэтую пару коней. Далёка ў полі, дзе колісь разлягалася вялікае балота, а цяпер роўная, як стол, зямля, гуляла пара сівых коней. Слаліся над зямлёй доўгія хвасты і грывы, высока ўзносіліся галовы з наструненымі вушамі, плаўна выгіналіся спіны, нават, бачылася яму, блішчалі цёмна-глыбокія вочы. Коні кружыліся ў дзіўным танцы, не разбягаліся, часам зліваючыся ў адно цэлае, у адзін клубок,— пасля зноў выразна бачыліся дзве галавы, тулавы, ногі. Коні былі гладкія, пастаўныя, падштурхоўвалі, выгінаючы шыі, адно аднаго — і ўсё аддаляліся, момантамі зусім знікалі з вачэй. Вочы слязіліся, карцела пацерці іх рукой, аднак ён баяўся згубіць гэтую пару, што ляцела, кружылася, імчала. І ўсё ж у той самы момант, калі вочы зусім засляпіла, сівая пара сягнула ў паветра — і растала. Так і гаварыў дзед Антон — скочыць пад воблакі і растане. Добра, калі ты тут застанешся, а не паляціш з імі...

Кастусь застаўся.

Ен пракаўтнуў даўкі камяк, выцер вочы, азірнуўся наўкола сябе — знаёмае поле, ззаду хмызняк з дробналессем, меліярацыйная канава, дарога. На дарозе ягоны «Беларус» з пустым прычэпам. Пацягвае слабы ветрык, дзесьці пад сонцам, якое ўжо другі дзень вісіць у смузе, звініць-трапеча жаўрук. А коней няма. Прапалі. І нікому не дакажаш, што бачыў іхнюю гульню. Кастусь пакруціў галавой і пабраўся ў кабіну — ужо даўно абед, а ён немаведама чаго стаіць у полі. Пад хатаю стаяць трэба! А самому сядзець за сталом.

Над полем дзе-нідзе павязваўся пыл. Але хіба зблытаеш пыл з коньмі, ды яшчэ сівымі? Ніколі.

Пра гэтых дваіх гарадскіх людзей — аднаго маладога, але лысага, другога малога і вусатага — у вёсцы пачалі гаварыць адразу. Яны прыехалі разам з двума дзесяткамі памагатых працаваць у полі. Штогод прыязджалі з горада шэфы не шэфы, госці не госці, студэнты не студэнты,— прыязджалі з нейкага інстытута памочнікі ў гарачую пару сенакосу ці на ўборку бульбы. Да іх ужо прывыклі, да гэтых наезджых, былі ўжо сярод іх знаёмыя.

— Здароў быў, Сяргеевіч! Ну як, кандыдацкія шчэ не плоцяць?

— Абараніўся, але зарплата тая ж. Пасады няма... А ў вас як сёлета, спраўляецеся?

— Ды памалу. Відаць, на капусту пойдзеце, Сяргеевіч. На торхве пасадзілі, дык высахла. Цяпер ваша чарга расаду торкаць.

— Ай-я-яй, капуста?.. Там жа гэтая крошка ляціць, як з трубы! Зноў чорныя будзем хадзіць. Як наконт лазні, Мікола, дамовімся?

— Крама шчэ робіць. Шчэ не закрылі.

Гэтыя лысы з вусатым былі незнаёмыя — але пра іх загаварылі. У першы ж дзень Сердзюкова Ніна ўбачыла іх з фотаапаратам, зацягнула да сябе ў двор, упрасіла сфатаграфаваць сябе з малым дзіцём.

— Ужо другі год малому, а карткі няма! — спявала Ніна гарадскім, зблізку яны аказаліся намнога маладзейшыя, чым здаля.— Гэта ж нядоўга, раз ці два пстрыкнеце — і ўсё. Вунь у вас якая скрыня пакоўная... Што вы ў ёй носіце?

— Кофр,— сказаў Валодзя, ён, відаць, коратка стрыгся, каб схаваць вялікія залысіны, ды яны ўжо калі ёсць, то ёсць.— Фірменная сумка фотамайстра. Аб'ектывы там, апараты, бленды з фільтрамі... Усё, што трэба.

— Дык я і гляджу — вялікая... Убачыла вас і змеціла — папрасіцца трэба! Як жа без картак. Не будзе чаго ўспомніць... А я вам за гэта бутэльку чырвонага. Ці вы што другое хочаце?

— Сыдзе і чырвонае,— усміхнуўся вусаты, Аляксей.— Давай, Воўка, працуй!

Майстрам быў Валодзя, толькі ён ведаў, як усаджваць людзей, адкуль іх фатаграфаваць, куды якое вока прыладжваць у тых фотаапаратах. Але ён ва ўсім слухаўся Аляксея, таму Ніна спярша падсоўвала табурэтку вусатаму, пасля ўжо майстру.

Валодзя шчоўкнуў маці з сынам спачатку праз малы аб'ектыў, пасля праз доўгі, з белымі і чырвонымі рысачкамі на ім, яшчэ нешта і напісана там, незразумелае.

— Во якія ў дзядзькі машынкі! — паказвала малому маці.— Бач, блішчаць?.. Станеш бальшым, і табе такія купім, ух ты мой лупаценькі, гарласцік ты мой маленькі!..

Малы вырываўся з яе рук, глядзеў, як зачараваны, на чужых дзядзькоў, забыўся пра соску, заціскаў яе ў руцэ.

— А можа, вы нас усіх сфатаграфуеце? — заглядала ў вочы Аляксею Ніна.— Вечарам Лявон з работы прыйдзе, маці паклікалі б...

— Падумаць трэба,— адказваў Аляксей, бутэлька чырвонага была ўжо ў ягонай кішэні, ён яе раз-пораз памацваў — ці добра ляжыць.— Як, Вова, паможам грамадзянам? Мы, праўда, на рабоце, але дзе-небудзь пасля абеда...

Увечары пра фатографаў ведала ўся вёска, і ў кожнай хаце хацелі, каб і іх сфатаграфавалі праз розныя аб'ектывы і рознымі апаратамі.

— Нянаскія машынкі,— расказвала суседзям Ніна,— вусаты гаварыў — японскія. Відаць, праўда, бо такіх сумак нідзе не бачыла.

— А калі карткі будуць? — спыталася Таня, у якой таксама двое малых — а фоткаў няма.

— Адрас запісалі, сказалі, з горада прышлюць. Іх жа яшчэ зрабіць трэба...

— Прышлюць,— падаў голас дзед Антон, які ўжо больш маўчаў, чым гаварыў, але, бывала, не вытрымліваў.— Адзін такі маліўся, дык быў паваліўся.

— А чаму вы ведаеце, дзед?.. Мо і прышлюць. Бутэльку дала, не што-небудзь.

— Бутэлька, яно, канечне... Як той казаў: так, дык так, не так, дык памяняўшы.

— Яшчэ пажывеце, дзед, як смеяцеся,— уздыхнула Таня.— А папрасіць усё адно трэба. Большай ужо шэсць гадоў!

Вёска іхняя, Маліназўка, была невялічкая, стаяла ўбаку ад наезджаных шляхоў, далекавата ад райцэнтра, а КБА, што адкрылі нядаўна на цэнтральнай сядзібе, працуе, бы кот плача. То загадчык памяняецца, то майстроў няма. Ды і не фатаграфавалі там, адно гаварылі, што выпішуць з горада чалавека — а хто гэта паедзе ў далёкую вёску? Пастаяннай была толькі закройшчыца Тоня Матрунёнак, дык яна мясцовая, і без КБА шыла кабетам абноўкі. Пакуль дачакаешся таго фатографа — дзеці вырастуць.

А гэтыя гарадскія самі знайшліся з сваімі пстрыкалкамі, а раз ходзяць, значыць — умеюць.

Жанчыны нават пачалі ўстанаўліваць чаргу, ад каго да каго ісці фатографам — і як ім плаціць.

— Цяпер усюды адзін рубель — бутэлька,— гаварыла Ніна, якая і замуціла ваду, выгледзела фатографаў на пустой вуліцы.— Ад яе шчэ ніхто не адмовіўся.

Так яно так, але па цяперашнім часе лёгка тую бутэльку не купіш, закон выйшаў, і ў іхнюю краму віно цяпер прывозілі рэдка. Крамшчыца Нэла Радзюк завяла тоўсты сшытак, дзе запісвала тых, каму нельга прадаваць віно і гарэлку. Старшыня калгаса ці парторг называлі ёй прозвішчы, Нэла запісвала іх вялікімі літарамі ў сшытак, і цяпер хоць прасіся, хоць маліся, хоць кленчы — не дасць. Аднаго разу яна ціхенька прадала Язэпу Мохару дзве бутэлькі, яго ўбачылі пад канторай п'янога,— і штраф, пяцьдзесят рублёў. А да штрафу папярэджанне: яшчэ адзін раз прадасць — паляціць з работы, як міленькая.

— Якая трасца панесла яго ў кантору?..— скардзілася яна кабетам.— Выпіў — дык ідзі дахаты і спі. Не, пайшоў вочы мазоліць... Цяпер хоць на галаве стойце — не дам!

І гэта тычылася не аднаго Язэпа, а многіх аматараў пацягнуць з бутэлькі. Не выйшаў на работу пасля ўчарашняга — у сшытак, соўгаўся па вёсцы, шукаў, дзе б яшчэ дабавіць,— таксама туды. Нэла цяпер і без старшыні магла шугануць з крамы любога: як праверыш, ёсць ты ў сшытку ці няма?

— Нашай вёскі ахмістрыня,— сказаў пра яе дзед Антон.— У нас зараз тры начальнікі — Нэла, старшыня і парцейны. А брыгадзіра можна пад лаўку запхнуць.

Сапраўды, брыгадзір Ладуцька доступу да сшытка не меў, на яго і глядзець пачалі па-іншаму.

— Нэла захоча — і не дасць,— загаварылі вяскоўцы.— Сама сабе пані, сама сабе служка, а Ладуцька хай у чарзе стаіць. Старшыні даложаць — ён і яго ў сшытак. Правільна, закон павінен быць для ўсіх.

Жанчыны радаваліся, што выйшаў закон, пры якім і захацеўшы не надта вып'еш. Але ж і рубля-бутэлькі ніхто не адмяніў... Чым расплаціцца з чалавекам, які прывёз дровы ці ўзараў соткі? Хочаш не хочаш, а мусіш пайсці ў краму ды стаць у чаргу.

Вось і з фатографамі гэтымі — без бутэлькі не абыдзешся.

Кастусь прыйшоў з работы дахаты — і ўбачыў у двары мітусню. Сястра Таня з маці выстраіліся ў лепшыя спадніцы-кофтачкі, памылі-прычасалі Таніных дзяцей, запабягалі перад двума хлопцамі, якія збіраліся іх фатаграфаваць.

— Тут будзеце ці ў хаце? — пыталася Таня, шчокі заружавеліся, вочы блішчаць.— Вы ўжо зрабіце нам паболей картак, каб і сабе, і сваякам засталося...

— Колькі трэба, столькі зробім,— адказваў адзін з фатографаў, які порхаўся ў вялікай сумцы, даставаў з яе аб'ектывы.— На вуліцы будзем, зараз сонца няяркае.

Кастусь падышоў да яго бліжэй, зазірнуў у сумку. Яна была падзеленая на секцыі, у іх ляжалі фотаапараты, аб'ектывы, розныя прыстасаванні для гэтых жа апаратаў.

— Ка-нон,— прачытаў Кастусь надпіс.— Чые гэта?

— Кэнан, японская фірма,— адказаў хлопец, адчувалася, што ён не надта гаваркі.

Каля Тані стаяў яго таварыш, бліскаў зубамі.

— А колькі ж уся гэтая музыка стоіць? — какетліва пыталася ў яго сястра.— Відаць, многа?

— Тысяча дзвесце рублёў,— усміхаўся вусаты, пазіраў на Таню, як кот на сала.— Валютных рублёў. Воўка, скажы!



— Я за менш купіў,— сказаў Валодзя.— Харошая тэхніка.
— Тысяча?! — не паверыла Таня.— За гэтыя пстрыкалкі?
— Не проста рублёў, а валютных,— як малой, паўтарыў ёй вусаты.— На звычайныя гэта разы ў тры болей... ці ў пяць. Га, Воўка?
Той не абазваўся, усё гэтак жа няспешна нешта прыладжваў, падкручваў, здзьмухваў з фіялетавага вока аб'ектыва парушынкі.
— Ай, Лёша, маніце,— праспявала Таня.— У раённым універмагу самыя дарагія за пяцьсот рублёў.
«Бач, ужо і імя ведае,— падумаў Кастусь.— Двое дзяцей, а туды ж...»
— Здаля імі фатаграфаваць можна? — спытаў ён Валодзю.— Ну, на паўкіламетра і далей?
— Можна,— паглядзеў на яго Валодзя.— Тэлевікам куды хочаш дастанеш. Ну, і камеры розныя ёсць... Усё залежыць ад аб'екта. А што трэба зняць?
— Коней,— сказаў Кастусь.— У нас у полі сівыя коні гуляюць.
— Убачыў?...— пачуўся голас дзеда Антона, які незаўважна зайшоў у двор, сядзеў на лавачцы пад акном, абапіраючыся рукамі на кавеньку.— Тых самых коней убачыў?
— Учора,— хітнуў галавой Кастусь.— Спыніўся за канавую — а яны гуляюць. Пара, як вы і казалі — пара сівых.
— Дзікія коні? — рагатнуў Аляксей, падаўся бліжэй да Валодзі з Кастусём.— У вас тут дзікія коні бегаюць?
— Не дзікія...— заперхаў дзед Антон, затросся ўсім худым тулавам, ледзь аддыхаўся.— Так, пара коней...
— Ай, дзед,— незадаволена насупілася Таня,— усё вы нешта выдумляеце. Фатаграфавацца трэба!
— Дык я ж і кажу, што іх рэдка хто бачыць,— згадзіўся дзед Антон.— Каму е, а каму няма.
— Не, вы раскажыце, што за коні,— не адставаў Аляксей, глядзеў то на дзеда, то на Кастуся.
— А гэта ў нас е такая мара,— выцер з вачэй слёзы дзед.— Пад поўдзень бывае. Выскачыць нemаведама скуль такая пара коней, сівых, харошых, пагуляе, да пад воблакі. І не знаеш, дзе што дзенецца. Каторы чалавек убачыць іх і абамрэ. Дык баяцца іх, тых коней. Пад воблакі лятуць!..
— Во казачка!..— тыцнуў Валодзю ў бок Аляксей.— Цэлы міф. Каб быў якім збіральнікам, запісаў — і на радыё, для дзяцей.
Кастусь памкнуўся быў у хату, але Валодзя прытрымаў яго за руку, пачаў даставаць з сумкі апараты і аб'ектывы, расказваць, якім што здымаць.
— Добры здымак можна зрабіць і простай тэхнікай,— гаварыў ён.— Але камера яшчэ не ўсё, трэба адпаведны праявіцель. За сапраўдным здымкам, бывае, цэлы год ходзіш. А можна канструяваць здымкі, манціраваць... Спецэфекты розныя ёсць. Я член фотаклуба, да нас многія прыходзяць. Цікава! Але не так усё проста, як здаецца. Галоўнае — хацець.
Кастусь моўчкі слухаў. У яго быў старэнькі ФЭД, але тут гэтае ламачча і паказваць сорамна. Вунь якія апараты, ажно ў рукі браць страшна. А Валодзя быццам забыўся, што трэба фатаграфаваць Таню з дзецьмі, усё даставаў з сумкі фотаначынне, паказваў.
— Валодзя, ты што?!..— падышоў яго сябра.— Плату, панімаеш, узялі, а рабіць не робім. Нядобра!
— Такога рубля цяпер не надта заробіш,— падтакнула Таня, засмяялася.— Пад крамаю аж чорна, гудуць на ўсю вёску, як рой! Бывае, паўдня стаяць трэба, каб купіць гэтае краснае...
— А я пра што?..— падхапіў Аляксей.— І вам добра, і мы не крыўдуем. А фота ён зробіць лепш, чым атэлье. Валодзя, твае работы дзе былі?.. У Іспаніі?
— І ў Іспаніі,— выбраў нарэшце камеру з аб'ектывам Валодзя.— А цяпер выстаўка ў Віцебску. Паехаць трэба было б, ды сюды прыслалі. Капуста без мяне, кажуць, не расце.
— А ты яе фіксажам пальеш, замацуеш, так сказаць,— яна ўвосень праявіцца,— падміргнуў Аляксей.— У нас ведалі, каго пасылаць!
Валодзя пстрыкаў, Таня з дзецьмі пазіравалі, камянелі, стараючыся не дыхаць, але Валодзя збіваў іх з гэтага партрэтнага настрою, задаваў недарэчныя пытанні:
— У кіно сёння пойдзем?
— У кіно?! — лыпала вачыма Таня.
Валодзя пстрыкаў.
— У мяне ж рот быў адкрыты!..— хапалася тая за галаву.
Валодзя зноў пстрыкаў.
Усе рагаталі, і Валодзя паспяваў сфатаграфаваць не толькі Таню з дзецьмі і старую, але і Кастуся з Аляксеем.
— Таня, вы не на мяне глядзіце,— гаварыў ён,— вы вось з малым... соску яму дайце. Забудзьце, што вас фатаграфуюць.
— Як гэта? — не разумела Таня.— Партрэта не будзе!
— Зробім,— супакойваў Аляксей,— вы яшчэ не ведаеце, які ён майстра. У Іспаніі...
А Валодзя раптам заняўся дзедам Антонам, той сядзеў на лавачцы, фатограф хадзіў кругом яго, прыглядаўся — пасля пачаў здымаць...
— Во!..— усміхаўся бяззубым ротам дзед.— Апошні раз мяне яшчэ перад вайной хватаграхвіравалі. Дык я сам у мястэчка ездзіў. Адзеліся з Матрунай, пасадзіў яе ў вазок з сенам — і на кірмаш. Надвосень гэта було, я добра памятаю. Боты налажыў, камізэльку, такі капялюх... А Матруна кохту з панёваю... Гэ якое свята було, кірмаш, зараз не тое... Я во сяджу, а ён пстрыкае. Хіба што будзе з гэтага? Відаць, непапраўдзе...
— Папраўдзе, дзед,— сказаў Валодзя.— Знаеце, колькі чалавек ваш партрэт убачаць? Тысячы.
— Мой? — зусім не паверыў дзед Антон.— Каму я патрэбен з сваімі мархлякамі. Паміраць скора буду, а ты кажаш — партрэт. Во Кастуся шчэ можна, а мяне...— ён махнуў рукой, хацеў быў устаць — але з першага разу не здолеў.
— Во, бачыш? Устаць ужо не магу...
— А вы памалу,— параіла Таня.— Паціху, патроху, дык яшчэ й ажэніцеся.
— На што нам што, калі ў нас во што...— згадзіўся дзед Антон.— Ты свайго Косціка ажані, а мяне ўжо не чапай. Адхадзіўся...
За другім разам устаў, памалу выпрастаўся — і пасунуўся з двара.
Кастусь не заўважыў, як побач апынуўся Валодзя.
— Калі хочаш,— ціха сказаў ён,— я заўтра ў абед магу падысці... Дзе тыя коні гуляюць?
— Коні?..— не адразу зразумеў Кастусь.— За канаваю бачыў. Добра, заўтра паўз ваша поле буду ехаць, магу захапіць. А можа, мы з дзедам выдумалі, тады што?..
— А раптам не выдумалі? — усміхнуўся Валодзя.— Што, спалохаўся?..

— Заўтра ў гадзіну чакай. Машына па вас у гадзіну прыходзіць? Я трохі раней буду.
Кастусь ужо не рады быў, што звязаўся з фатографамі. Што ён ім пакажа? Поле на былой гнечы? Дык поля вунь колькі наўкола, балота паўсюль асушылі, цяпер роўныя абсягі палёў цягнуліся аж да небасхілу. Рэдка дзе ў лагчыне ўбачыш зараснікі лазы, а так палі і палі, разрэзаныя меліярацыйнымі канавамі. Бліжэй да вёскі вада ў канавах яшчэ цурчыць, а далей, за былым Салімонавым хутарам, канавы заплылі пяском, ламаччам, травой, вада ў іх стаіць, гніе. І поле быццам пабітае дзіркамі — вятры здзьмулі верхні слой тарфяной крошкі, на вочы паказаўся жоўты пясок. Тут даўно ўжо амаль нічога не расло, за канавамі таксама ніхто не глядзеў. Ды сюды не любой машынай і заедзеш. Было балота, цяпер пустэча. А за полем пачынаўся такі торф, такая нятэча, што сам чорт нагу зломіць. Калі асушалі, сюды згрэблі выцерабленыя дрэвы і кустоўе, а вывезці ніхто не даўмеўся. У торфе развяліся вужы і гадзюкі, на розныя галасы запішчалі птушкі, абжыліся дзікі. Да зараснікаў пацягнуліся паляўнічыя, пачалі нават з горада прыязджаць. А вось пасвіць кароў людзі там асцерагаліся, асабліва на вясне. Не аднойчы ўжо скаціну кусалі гадзюкі. Прыходзіла з пашы карова, гнула да зямлі галаву, з пашчы перла пену, і людзі ведалі, што на карову напаўзла гадзіна. Адтуль жа, з гнілога месца, на вёску наляталі цэлыя хмары мошак, людзі гаварылі, што Юрай высыпаў мошку мяшком, Мікола — вазком, а тройца — тройкаю. Гэтага пабольшала, таго паменела, а чалавек да ўсяго абвыкнецца. Да гіблых зараснікаў пачалі бегаць вясковыя хлопчыкі, ваявалі там з гадзюкамі. Яны выразвалі доўгія гнуткія дубцы і засякалі імі гадзін, калі знаходзілі. Добра гэта ці кепска? Бацькі, паразважаўшы, усё ж вырашылі, што нядобра: той гад і сам джыгнуць можа. Але ж на ланцуг дзіця не пасадзіш. Крычалі, нават пабівалі неслухаў,— тыя ўсё адно ўцякалі.

Кастусь бачыў коней якраз на тых палях, за Салімонавым хутарам.
«Хто цябе за язык цягнуў? — змрочна думаў ён, кіруючыся да поля, на якім саджалі капусту гарадскія.— Не мела баба клопату, дык купіла парася... Засмяюць, як нічога не ўбачаць. Канечне, не ўбачаць. Скажу, што трэба на ферму ехаць, а туды не магу. Хай пешкі ідуць, калі ахвота ёсць. Можа, і не будзе іх, забыліся, а я еду...»
Не, двое стаялі на дарозе, адзін з сумкай-скрыняй, другі трымаў у руках куртку.
«Як ён робіць, цягаючы гэтую сумку? — здзівіўся Кастусь.— Аддаўшы такія грошы, пад кустом яе не кінеш...»
Ен пад'ехаў — і накрыў іх воблакам пылу, абодва зніклі з вачэй.
— Не, я не паеду,— пачуў Кастусь, адчыніўшы дзверцы кабіны, Аляксей адкашліваўся і адплёўваўся, цёр вочы рукой.— Без абеду застанемся!..
Валодзя не азываўся, ужо запіхнуў у кабіну сумку, няўмела шчаміўся ў яе і сам.
«Здаровы мужык,— чамусьці з палёгкай падумаў Кастусь.— Добра, што той не едзе...»
— Галадоўку аб'явіў? — па-свойску падміргнуў ён Валодзю.— Глядзі, штаны згубіш!..
— Нічога...— усё не мог уладзіцца на сядзенні Валодзя, няўклюдна варочаўся з сумкаю ў руках.— Ну і цесната!..
— Прывычка,— пацісніў плячыма Кастусь.— Паехалі?
— Паехалі.
Да Салімонавай дзялянкі было кіламетраў пяць, і на дарогу туды Кастусь зараз глядзеў як бы чужымі вачыма, неяк па-новаму адчуваў кожную калдобіну, быццам упершыню ехаў па гразкіх лужынах, толькі цяпер заўважыў, што масток праз канаву ўжо ледзь ліпіць, хістаецца.
— Толькі на трактары й ездзіць!..— крыкнуў ён Валодзю.— «Жыгуль» не пройдзе!..
Валодзя кіўнуў галавой.
Кастусь спыніў трактар якраз на тым месцы, адкуль ён убачыў сівых коней. Вылезлі з Валодзем з кабіны, сталі, гледзячы ў поле. Там было пуста, і цішыня пасля грукату трактара аж звінела. Падзімаў вецер, упіраўся пругкімі далонямі проста ў твар, і стаяць пад ім вось так, грудзі ў грудзі, было непрыемна, хацелася адвярнуцца.
— Няма,— сказаў Кастусь.— Яны толькі апоўдні бываюць, ды вось нешта няма.
— А ў якую пагоду? — падкінуў на плячы цяжкую сумку Валодзя.
— Відаць, у такую... Толькі летам, калі марыва. Людзі іх баяцца. Не знаюць, што гэта за коні...
— Сівыя? — удакладніў Валодзя.— А здымак быў бы добры. Бач, якая перспектыва... Там што за дрэва?
— Вяз. Калі асушалі, нічым яго не маглі ўзяць, надта тоўсты. Буслянку на ім бачыш? Ужо трэці год пустая.
— Ты тут нарадзіўся? — спытаўся Валодзя, наводзячы адзін з апаратаў на стары вяз.
— Тут, пасля арміі хацеў у горад, як усе, але застаўся... Маці хварэе. З маладзейшых адзін я тут.
— Дзяўчаты ёсць?
— Адкуль?! Восемь класаў скончаць і бягом на аўтобус. У нас ім акрамя фермы нічога не свеціць. Не хочуць.
— А ты на трактары?
— Ну так. Давалі грузавік, але такая ламачына, што лепш на трактары...
Кастусь ужо быў палез у кабіну, як Валодзя схапіў яго за рукаў:
— Што гэта? Конь?..
Кастусь азірнуўся. На ўскрайку дробналесся, якраз на мяжы поля і нятэчы, у якой акрамя гадзюк ды машкарэчы ніхто не жыве, стаяў Дэраш. Кастусь яго пазнаў адразу.
— Жывы яшчэ?..— здзівіўся ён.— Во конь! Старэйшы за мяне. Я на ім бульбу абганяць вучыўся. Бывала, упрэцца, ні за што не хоча ісці. Лупцуеш, а ён адно хвастом матляе. Добра, хоць не брыклівы, пад капытамі поўзаеш, а ён і вухам не вядзе. Сам дарогу знаў. Скажаш «на ферму» — вязе на ферму. На цэнтральную сядзібу мог завезці. Хто яго сюды прыгнаў?..
Старая скрэнда стаяла, падгібіўшы заднюю левую нагу, пярэднія ўпіраліся ў зямлю, як дзве палкі, галава нізка звесілася. На мордзе аж кішыць мошак, траха вочы не выядаюць. Ні хваста, ні грывы, адно скура ды маслы.
— Дэраш, кось-кось!..— паклікаў Кастусь.
Конь не варухнуўся. Па скуры прабегла дрыготка, але галавы конь не падняў.
— Падыхаць тут кінулі,— сказаў Кастусь.— Ці сам прыйшоў. Яны, кажуць, уцякаюць ад усіх, калі чуюць смерць. Бач, які стары, пііхні — ён і паваліцца.
— Нездарма паехалі,— сказаў Валодзя.— Будзе сапраўдны здымак.
І ён пайшоў праз поле да каня, спусціўся ў канаву, вылез на другім беразе. Сумка адцягвала плячо, але ён да гэтага, мусіць, даўно прывык.
— Нашто табе гэтая здыхляціна?..— крыкнуў наўздагон Кастусь.
Валодзя, не азіраючыся, памахаў рукой з фотаапаратам.
— Ну, ёлкі-палкі...— Кастусь пайшоў за ім.
Валодзя здымаў каня доўга, даўжэй, чым Таню з дзецьмі ўчора. Ледзь не пад самую морду падлазіў, а Дэраш быццам і не заўважаў людзей. Паторгвалася скура, у кутках вачэй поўзалі мошкі. Кастусь змахнуў іх рукой:
— Іч, крывацмокі...
Дэраш у адказ падабраў адвіслую ніжнюю губу, але доўга пры зубах не ўтрымаў, яна зноў папаўзла долу.
— Ужо нат скура сатлела, сцерлася,— паляпаў каня па загрыўку Кастусь.— Захочаш завесці назад у стайню, дык не зойдзе. Але Саўчыку ўсё роўна трэба сказаць.
— Каму?
— Конюху. Але ён, можа, сам яго сюды прывёў. У нас коней зусім мала засталося.
— Дык гэта не з тых, што пад воблакі паляцелі?..— Валодзя кіўнуў на поле.
— Гэтаму ўжо толькі паляцець засталося,— усміхнуўся Кастусь.— На мяса не здасі, скура пабітая... Дзед Антон, калі на работу хадзіў, толькі на ім ездзіў.
— Дзед ужо даўно не робіць?
— Гадоў пяць... не, болей.
— Я іх разам зманціраваю, дзеда з канём. Класны будзе здымак!
— Лепей бы ты пару сівых падлавіў,— сказаў Кастусь.— Гэта табе не мяшок з касцямі.
— Самі ж казалі — іх раз у жыцці можна ўбачыць. Фотаапарат у цябе ёсць? Вось і вазі з сабой.
— Знайшоў фатографа!
Кастусь пайшоў да трактара. Ззаду часта дыхаў Валодзя. Цяжкая ўсё-ткі сумка, ён, мусіць, і спіць з ёй.
— За фоткі многа плацяць? — спытаўся Кастусь.
— Я ў газеты рэдка даю,— выцер з ілба пот Валодзя.— Там хлопцы няблага зарабляюць. А ў мяне больш дыпломы, рэдка — прэмія.
«Тысячу рублёў недзе ж знайшоў»,— падумаў Кастусь.
Была сярэдзіна дня. У полі панавала пустэча, адно некуды плыў, раскінуўшы каравае голле, стары вяз. Буслянка на ім таксама была пустая.
Трактар развярнуўся проста на полі, і людзі, што сядзелі ў ім, не бачылі, як стары Дэраш раптам ірвануўся ўслед машыне, скочыў за ёй, але нягнуткія ногі зачапіліся за зямлю, падламіліся — і ён цяжка тыцнуўся мордаю ў пясок, перакаціўся з боку на спіну, закінуўшы доўгія, як і не свае, ногі. Плойма мошак, мух і аваднёў раздражнёна ўзляцела і зноў абляпіла тушу. Цела каня моцна скаланула ўжо не дрыготка, а сутарга.
Кастусь усё ж бачыў тых коней — узляталі і ападалі грывы, ускідваліся галовы, бязгучна білі ў зямлю капыты. Пара сівых коней кружылася ўдалечыні, падзывала да сябе, але ніхто іхняга танца не бачыў. «Як е панчохі, няма тапкаў»,— гаварыў дзед Антон. Ды і баяліся людзі тых коней — лятуць, лятуць яны пад воблакі, зацягваюць з сабой людзей!
І тым не менш Кастусь верыў, што хто-небудзь падловіць тую сівую пару з фотаапаратам. І кожны ўбачыць, як дыхаюць агнём іх вочы, як выгінаюцца доўгія шыі, як уздрыгвае пад капытамі зямля.
Падысці зусім блізка да тых коней людзі асцерагуцца, а ўбачыць — убачаць.

# ПАРА КОНЕЙ СІВЫХ

# МАЛАДЫМ ПАЎСЮЛЬ У НАС ДАРОГА?..



Вольга КРАЎЧАНКА

КІНАГАСЦЁЎНЯ

Не так даўно я сустрэла свайго сябра, які пасля рэжысёрскіх курсаў ВГИКа ўжо некалькі гадоў працаваў на «Беларусьфільме». Звычайная размова пра сям'ю, дзяцей, знаёмых... Але вось, здаецца, простае пытанне: «А што ты зараз робіш?» — і гутарка нейк скамячылася.

— А што можна рабіць не здымаючы? — уздыхнуў мой знаёмы.

— Пачакай. Столькі было задум, ідэй... А твой стары сцэнарый?

— На жаль, адных задум не хапае. На студыю трэба прыходзіць са сваімі спонсарамі. Вось і бегаеш, вышукваеш.

Сумна было гэта пачуць. Сапраўды, як можа малады рэжысёр рэалізаваць сябе, калі на фільм няма грошай? Каго ён павінен пераканаць, каму кланяцца, каб атрымаць неабходную суму?

У доўгім, няўтульным калідоры «Беларусьфільма» я адшукала кабінет мастацкага кіраўніка студыі «Дэбют» І. М. Дабралюбава і паспрабавала высветліць, як жывецца на студыі сёння маладым. Але пачала ўсё ж такі здалёк:

— Ігар Міхайлавіч, тры гады таму студыя распалася на аб'яднанні: «Кадр», «Дыялог», «Летапіс», студыя імя Тарыча і студыя мультыплікацыі. Што змяніў падзел у жыцці студыі?

— Перш за ўсё, мы атрымалі творчую свободу і гэта цудоўна. У студыях аб'ядналіся людзі па духу, па напрамку. Гэта прафесійныя рэжысёры. Мы самастойна вырашаем пытанні запуску карціны, прымаць яе ці не. У нас няма прымаючай інстанцыі Дзяржкіно, якая была раней. Так, напрыклад, мы дружна працуем са студыяй Нікіфарава «Кадр». Нехта запускаецца з карцінай у іх, штосьці не атрымоўваецца, пераходзіць да нас. Я мяркую, што варожасці аніякай. Гэта ўсё натуральна.

— Вы лічыце, што дзяленне апраўдала сябе?

— Пытанне складанае. Дапусцім, мы зараз ліквідуем усе аб'яднанні і створым адзінае, з адным мастацкім кіраўніком, дырэктарам і г. д. А што далей? Тое самае. Зараз пакутуюць тры мастацкіх кіраўніка, будзе пакутаваць адзін.

— Няўжо вашы кінематаграфічныя справы складваюцца так дрэнна?

— Мы проста стаім перад катастрофай. На ўсю культуру дзяржбюджэт рэспублікі выдзяляе прыблізна 0,75%. На ўсё: бібліятэкі, якія сёння ў жахлівым стане, хоры, тэатры, самадзейнасць... Дзе знайсці сродкі? Калі хто-небудзь думае, што мастацтва можа самафінансавацца,— глыбока памыляецца. І гэта тычыцца ў першую чаргу кінематографа. Дадайце сюды яшчэ фантастычныя падаткі, якія прыдумаў урад СССР. Гэта 60% ад заробленай сумы. Але ніхто не хоча разумець, што пісьменнік можа пісаць раман 10 гадоў. Раскіньце гэтую суму на гады і паглядзіце, колькі ў яго атрымаецца ў месяц. Паглядзіце, колькі атрымоўваецца ў кінарэжысёра, калі асноўны аклад рэжысёра-пастаноўшчыка вышэйшай катэгорыі складае 300 рублёў.

— Значыцца, на сённяшні дзень самае галоўнае пытанне — пытанне фінансавання?

— Так. Але хто гэта будзе рабіць? Якім чынам? Павінна быць створана адзіная праграмма. Інакш справа ўвогуле загіне. Яна ўжо гіне. Людзі працуюць у нейкіх кааператыўных карцінах, шукаюць спонсараў, заключаюць дагаворы... Наўрад ці сярод спонсараў ёсць спецыялісты. Складаецца сітуацыя, якая ўжо пануе на кінарынку. Прыходзіць начальнік вобласці на кінарынак і па сваім разуменні, адносна свайго густу купляе карціну ці не купляе. І ўсё... І хоць страляйцеся, а вы яго не прымусіце змяніць сваё рашэнне.

Кінатэатр перайшоў на гасразлік, у яго ёсць савет працоўнага калектыву. У выніку ён выкупіць гэты кінатэатр, зробіць яго акцыянерным таварыствам. І тады што? Будзеш стаяць на каленях і ўпрошваць іх. А яны зоймуць пазіцыю «жадаю — не жадаю». І гэта найбольш жахліва.

Пакуль грамадства нас не будзе фінансаваць, мы нічога не зможам зрабіць. А з іншага боку, нават тое, што вы зробіце, у вас ніхто не купіць, калі гэта не спадабаецца нейкім людзям. Але падабаецца — не падабаецца — гэта яшчэ не крытэрый ацэнкі мастацтва. І што нас чакае? Кінатэатр будзе працаваць на патрэбу гледача. Як зараз робяць план кінатэатры? У асноўным на замежных стужках. Есць цудоўныя амерыканскія карціны, але іх не купляюць. Яны дарагія, бо той, хто прадае, ведае кошт свайго твора. Купляюць таннейшыя, але гэта не заўсёды якасная прадукцыя.

— Але з гэтай сітуацыі павінна быць нейкае выйсце?

— Трэба стварыць адзіную сістэму кінематографа рэспублікі. Гэта павінна быць нейкая асацыяцыя, якая аб'яднае творчыя студыі, дзе фільмы здымаюць, фабрыку, якая дапамагае ўсё рэалізаваць, пракат, кінафікацыю, кінатэатры і г. д. У такім выпадку, пры пэўнай датацыі дзяржавы, мы маглі б нармальна існаваць. Так, кінематограф — самае дарагое мастацтва, але эканамічныя паказчыкі яго значна вышэйшыя. Нас пужаюць і ўводзяць у зман, што ён сябе не апраўдвае. Не веру. Я ўпэўнены, што студыя самастойна здыме карціну за 300—400 тыс. рублёў, аддрукуе дзесяць копій і прадасць іх у кінатэатры. І што? Мы не збярэм 400 тыс. рублёў? І потым, калі нават якая карціна і не акупіць сябе, дык што? Ну, не прыносіць прыбытку вялікі сімфанічны аркестр рэспублікі. Дык што, яго ліквідаваць?

— Ігар Міхайлавіч, вы не толькі мастацкі кіраўнік студыі «Дыялог», але і ўзначальваеце аб'яднанне маладых «Дэбют». Такім чынам, вы лепш за іншых ведаеце цяжкасці, з якімі сустракаюцца маладыя рэжысёры.

— З аднаго боку, здаецца ўсё добра. У нас ёсць свой рэжысёрскі курс пры тэатральна-мастацкім інстытуце. Студэнты, як кажуць, жывуць на «Беларусьфільме», і тут яны застануцца пасля заканчэння. Але як яны разыдуцца па студыях, як уладкуюцца, пачнуць здымаць, хто іх будзе фінансаваць? Для мяне не зразумела. Што тычыцца аб'яднання «Дэбют», дык такога аб'яднання маладых і для маладых, лічыце, не існуе. У свой час было прынята рашэнне, што ўрад штогод будзе выдзяляць 200 тыс. рублёў для работы маладых. Прыходзіць нявопытны рэжысёр, і яму трэба даць магчымасць зняць, плённа выкарыстаўшы гэтыя грошы. А за такую суму можна зрабіць добрую навэлу, кароткаметражку. Але зараз, у смутны час, я нават не ведаю, дзе гэтыя грошы. Куды яны знікаюць?

— Вы хаціце сказаць, што гэтую суму ўжо не выдзяляюць?

— Яе павінны выдзяляць. Але куды яна знікае? Для мяне загадка.

— Я разумею, што па кінематаграфічных мерках 200 тыс.— мізэр. І ўсё-такі. Няўжо за ўсе гады вам ні разу не хацелася разгадаць гэтую загадку? Нельга знайсці канцоў?

— Практычна нельга. Тры гады, пакуль я здымаў сваю карціну, справамі маладых амаль не займаўся. Але, думаю, я задам гэтае пытанне на бліжэйшым з'ездзе кінематаграфістаў. Грошы выдзяляюцца ці не? Як на іх можна разлічваць?

— Значыцца, да маладых на вашай студыі ласкі не будзе?

— Дый не толькі да маладых. Усе выкручваюцца. Зараз у мяне на студыі «Дыялог» дзяржавай фінансуюцца дзве карціны: мая — «Плач перапёлкі» і карціна Яўгена Маркоўскага «Вечны муж». Далей плануюцца фільмы, якія будуць здымацца за кошт спонсараў. Пакуль толькі так. Мы нічога не можам зрабіць, у нас няма свайго рахунку ў банку. Мы не можам запусціць у вытворчасць нават тыя карціны, якія таго заслугоўваюць. Вось вам прыклад: Уладзімір Бычкоў, класік дзіцячага кінематографа. Ягоны «Горад майстроў» — бліскучая работа, казачны кінематограф. І што? Сустракаюся з ім на студыі і проста адводжу вочы. Ніхто не можа знайсці яму грошы. Адпаведна і работы няма. Але ж гэта грэх не выкарыстоўваць такога мастака!

— А хто-небудзь з маладых здолеў ажыццявіць свае планы ў вас на студыі?

— У нас здымаў Карпаў малодшы, у «Кадры» Талкачыкаў зрабіў пастаноўку. Але пытанне застаецца: дзе ўзяць грошы? І ў маладых, і ў сталых майстроў шмат ідэй, але... Ну, няхай бы сказалі шчыра: так, сябры, цыгарэт няма, у краіне талоны, зніклі прадукты... Ідзіце да д'ябла з вашым мастацтвам, пакуль на ногі не станем. На гэта Беларусі патрэбныя год, два, тры... Гутарыць будзем потым, а пакуль адыдзіце ўбок: нацыянальнае мастацтва закрываем. Крыўдна, на студыі ёсць добрыя сцэнарыі. Але дасюль немагчыма рэалізаваць запуск карціны пра Лышчынскага паводле Бутрамеева. Карціну павінен ставіць выдатны рэжысёр Сцяпанаў, але сродкаў яму не даюць. Маладыя тым больш нічога не атрымаюць.

— І што, застанецца пайсці ў свет, шукаючы добрых людзей?

— А так ужо робяць. Цяпер на студыі ў рабоце 24 карціны. Як гэтак сталася, якую яны мастацкую, эстэтычную каштоўнасць нясуць — ніхто не ведае. Але кааператары плоцяць студыі добрыя грошы. Яны ж арэндуюць студыйную апаратуру, тэхніку і, што найбольш істотна,— творчыя, чалавечыя рэсурсы.

— У фінансавых адносінах «Беларусьфільм» ад гэтага нічога не губляе. А кінематограф? У прыватнасці, нацыянальны?

— Калі казаць пра нацыянальны кінематограф, дык ён не развіваецца і развівацца не будзе. На «Беларусьфільме» павінны ставіць такія карціны, якія не паставяць ніякія іншыя кінастудыі. У студыях ёсць сцэнарыі нацыянальных аўтараў. Фільмы па гэтых сцэнарыях у першую чаргу павінны быць забяспечаны ўсім: тэхнікай, спецыялістамі, стужкай, плошчамі... Ужо пасля гэтага на студыі могуць здымацца кааператыўныя карціны, дзе людзям будуць плаціць па два, тры аклады.

Па гэты час пры наяўнасці дырэктара кінастудыі, мастацкіх кіраўнікоў, намесніка дырэктара па творчых пытаннях, савета працоўнага калектыву на студыі няма каардынацыйнага цэнтра, дзе можна было б распачаць шчырую гутарку: гэта — нацыянальная карціна, вы атрымаеце менш сродкаў, але мы вам абяцаем, што наступным разам будзеце працаваць у кааператыўнай карціне. Калі нязгодныя — ідзіце са студыі. Але ж ісці ніхто не хоча, бо ніхто не ведае, што будзе з кааператарамі заўтра.

— У такім выпадку можа здарыцца так, што многія пачнуць здымаць згодна прынцыпу «абы з рук далоў». Думаецца, варта паразважаць над тым, як нацыянальны кінематограф зрабіць нястратным. Праўда, гэта ўжо іншы бок пытання...

— Ніхто ніколі рупліва не працаваў з карцінамі ў межах кінапракату рэспублікі, не высвятляў, ці могуць яны прыносіць прыбытак. Я абсалютна перакананы, што не могуць. Патрэбна ўдумлівая палітыка стужак — і ўсё стане на свае месцы. Літоўцы неяк дасягнулі такой сітуацыі, калі кожны літовец лічыць сваім абавязкам паглядзець карціну, знятую на літоўскай кінастудыі. Трэба вучыцца ў Грузіі, дзе знаходзяць магчымасці фінансаваць нацыянальны кінематограф. Таму што тое ж «Пакаянне» было знята за грошы рэспублікі, для рэспублікі перш за ўсё.

А мой «Плач перапёлкі»... фінансавала Масква. Беларускі пісьменнік Іван Чыгрынаў напісаў сцэнарый паводле трох сваіх раманаў. У фільме 153 персанажы. Акцёры, якія ў ім здымаліся, працуюць у тэатрах рэспублікі. Але ў Беларусі не знайшлося каму фінансаваць карціну. Ну вось у мяне павінен быць, па ідэі, радасны момант: я скончыў дзевяцісерыйную карціну.

— А планавалася, здаецца, шэсць серый?

— Сродкаў хапіла, карціна вырасла. Нібыта ўсё ў парадку. Я звярнуўся ў Міністэрства культуры з тым, каб фінансавалі стварэнне варыянта карціны на беларускай мове, таму што ў нас нярэдка ў карціне размаўляюць па-беларуску, а цітры — рускія. Не стае грошай нават на цітры. А мне хацелася б, каб усё было на беларускай мове. Гэта каштуе каля 140 тысяч рублёў. Міністэрства культуры звярнулася з аналагічнай просьбай у Міністэрства фінансаў, якое адказала, што гэта немэтазгодна. І толькі дзякуючы сустрэчы з Вячаславам Францавічам Кебічам, старшынёй Савета Міністраў БССР, гэтае пытанне вырашылася на працягу некалькіх дзён. І зараз я пачынаю працаваць над беларускамоўным варыянтам. А далей што? Што далей?

На самой справе, што далей? Напэўна, гэтае пытанне не так востра стаіць перад Ігарам Міхайлавічам, як перад маладымі рэжысёрамі, якія ўсё яшчэ на нешта спадзяюцца і бадзяюцца па калідорах кінастудыі. А некаторыя, як мой знаёмы, ідуць у альтэрнатыўныя студыі. Ну што, ратуйся сам, як можаш. Асабліва «ў наш тлумны час», як сказаў мастацкі кіраўнік неіснуючай студыі маладых рэжысёраў «Дэбют» І. М. Дабралюбаў.



# НЕРЭАЛІЗАВАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ

Каб лепей зразумець, што ж штурхала сталых і маладых на безнадзейную барацьбу з Расійскай імперыяй, трэба перш-наперш успрыняць землі сучасных Літвы, Беларусі і Украіны як нешта адзінае. У час царавання Аляксандра I у адміністрацыйна-палітычным накірунку яны падзяліліся на дзве часткі. Першая ахоплівала 4 «чыста літоўскія» губерні (Віленскую, Гарадзенскую, Менскую, Валынскую, Падольскую) і Беластоцкую акругу. Другая — Віцебскую, Магілёўскую і Кіеўскую губерні. Пры гэтым Віцебская і Магілёўская губерні аб'ядноўваліся ў Беларускае віцэ-губернатарства.

У першай частцы губерняў усе грамадзянскія губернатары былі ці палякамі, ці польскамоўнымі «тутэйшымі». Гэта тлумачыцца тым, што Аляксандр I абяцаў далучыць да Царства Польскага Віленскую, Гарадзенскую, Менскую, Валынскую, Падольскую губерні і Беластоцкую акругу. У другой жа частцы, якая павінна была цалкам зліцца з імперыяй, усе чыноўнікі, ад губернатара да падпіска, замяняліся рускім элементам.

Такім чынам наша краіна была падзеленая на дзве часткі, большая з каторых мела назву Літва, а меншая — Беларусь. Сучасная ж Літва, акрамя Віленскага краю, ва ўсіх дакументах вызначаецца як Жмудзь, або Самагіція. Складалася яна з трох паветаў і мела свой уласны герб — Мядзведзь. Таму, каб асэнсаваць назву «Літва», дастаткова толькі зазірнуць у XIX ст., якое яшчэ захавала старыя традыцыі і якое іх жа змяніла. Да канца XIX ст. назва «Беларусь» распаўсюджваецца на ўсю сучасную тэрыторыю з Беласточчынай, выцясняе назву «Літва» на поўнач.

Што ж датычыць Польшчы, то яна імкнулася адрадзіць веліч Рэчы Паспалітай, згубленую ў XVIII ст. А гэтая веліч была немагчымая хоць бы без часткі былога Вялікага княства Літоўскага, з якім Польшча ўвайшла ў канфедэрацыю пасля прыняцця Люблінскай вуніі 1569 г. І здавалася, што яе мэты пасля абвешчання ў 1815 г. канстытуцыі Царства Польскага і пасля абяцання Аляксандра далучыць да яе Літву вось-вось павінны былі здзейсніцца. Далейшае жыццё ўсё болей узмацняла гэтую надзею. Акрамя таго, што ўсе губернатары былі польскамоўнымі, указам ад 14 кастрычніка 1817 г. камандаванне над Літоўскім Корпусам было перададзена вялікаму князю Канстанціну, брату Аляксандра. Літоўскі Корпус складаўся цалкам з жыхароў ранейшага Вялікага княства Літоўскага і меў 40000 жаўнераў. Столькі ж, колькі і ў Царстве Польскім. Мелі вопратку паводле польскага ўзору, асобны герб — Пагоню на грудзіне двухгаловага расійскага арла.

Канстанцін падазраваўся ў прапольскіх настроях. Таму многія меркавалі, што, сканцэнтраваўшы ў сваіх руках адміністрацыйную і ваенную ўладу як у Польшчы, гэтак і ў Літве, вялікі князь толькі чакаў моманту, каб абвясціць сябе каралём Польшчы. Але застаецца да гэтага часу незразумелым, чаму вялікі князь, адвёўшы войскі з Варшавы і даўшы такім чынам бунту перарасці ў паўстанне, а потым адпусціўшы да паўстанцаў усе верныя палкі, тым не менш адмовіўся ад польскай кароны, якую яму прапанавала Варшаўская дэпутацыя.

Што ж датычыць Літоўскага Корпуса, то яго жаўнеры ў час паўстання пераходзілі на польскі бок. Такім чынам пацярпеў паражэнне генерал Розэн 31 сакавіка 1831 г.

Нельга не закрануць грамадскай асветы ў нашым краі. Віленская навучальная акруга, дзейснасць якой распаўсюджвалася на тэрыторыю амаль усёй сучаснай Беларусі, займала першае месца сярод усіх іншых акругаў імперыі. У 1820 г. яна налічвала 430 навучальных устаноў, 1000 настаўнікаў і больш як 21000 вучняў. Але ўжо з 1822 г. палітыка Аляксандра пачала мяняцца. У Віленскім універсітэце і гімназіях пачаліся рэпрэсіі супраць студэнтаў і выкладчыкаў-сепаратыстаў. Іх адпраўлялі ў вязніцы, у Сібір і ў войска. Згадаем тут лёс філарэтаў і філаматаў — Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана...

Аднак руска-польскія адносіны рашуча змяніліся пасля ўзыходжання на трон імператара Мікалая I. Ужо ў 1827 г., нягледзячы на энергічны пратэст Канстанціна, Мікалай выдаў закон, паводле якога Асобны Корпус Літоўскіх войскаў набіраўся з рэкрутаў Гарадзенскай, Менскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай акругі. Рэкруты ж Віленскай і Падольскай губерняў адсылаліся ўглыб імперыі, бо замест іх прысылалі рэкрутаў з расійскіх губерняў — Пскоўскай і Цверскай. Таксама ў грамадзянскую адміністрацыю сталі сістэматычна фільтраваць расійскі элемент. Ужо ў 1828 г. грамадзянскімі губернатарамі Гарадзенскай і Віленскай губерняў былі прызначаны рускія. Рускімі ж пачалі замяшчаць і другасныя адміністрацыйныя пасады.

Русіфікатарская палітыка назіралася і ў царкоўным жыцці. Праваслаўнае духавенства выступіла супраць царкоўнай вуніі. Галоўную ролю ў гэтым адыгралі чатыры асобы: міністр Шышкоў, яго таварыш, надзвычай лоўкі чалавек граф Блудаў, кіраўнік Аддзела іншаслаўных вызнанняў Карташэўскі і член Каталіцкай Калегіі, вуніяцкі біскуп Іосіф Сямашка. У дэталёва распрацаваным праекце Сямашка прапанаваў радыкальныя меры, накіраваныя да знішчэння вуніі. Праект гэты здзейсніўся, і 22 красавіка 1828 г. быў апублікаваны «Высочайший Указ», якім вуніяцкі дэпартамент адасабляўся ад Рымска-Каталіцкай Калегіі, а развіццю ордэна Базыльянаў ставіўся шэраг моцных перашкод. Сам вуніяцкі святар, Сямашка (той, хто потым папаліць усе беларускія царкоўныя кнігі), у тым жа 1828 г. адчыняе ў Жыровічах семінарыю. Фармальна яна была вуніяцкаю, але на самой справе рыхтавала праваслаўных святароў. Для скасавання Усходнекаталіцкай (Вуніяцкай) царквы тут загадзя рыхтаваліся кадры.

Гэта ўсё не магло не рэвалюцыянізаваць як польскае, гэтак і літоўскае грамадства.

Штуршком да паўстання з'явіліся таксама вонкавыя прычыны. 27—29 ліпеня 1830 г. успыхнула французская рэвалюцыя, якая выгнала Бурбонаў і ўзвысіла Людовіка-Філіпа. Мікалай падрыхтаваў план ваеннай інтэрвенцыі ў Францыю з мэтай вяртання Бурбонаў. Галоўнай ударнай сілай павінны былі стаць польскія і літоўскія арміі. Цар вёў пад кулі арміі, якія павінны былі стаць апорай будучай Рэчы Паспалітай.

29 лістапада 1830 г. пачалося паўстанне ў Польшчы, а 26 сакавіка 1831 г. паўстала Літва.

Такім чынам, можна канстатаваць, што гэтае паўстанне па сутнасці было выклікана дзейнасцю царскага ўрада, які вырашыў русіфікаваць Літву, а прыспешылі яго французскія падзеі.

Гэтай думкі падтрымліваўся таксама польскі гісторык Шыман Аскеназі: «Гісторыка-палітычныя прычыны паўстання 1830 г. мелі асабліва значныя вытокі, хоць хутчэй інстынктыўна адчуваліся, чым усведамляліся польскім грамадствам. Гэта было тэрытарыяльнае пытанне, справа аб'яднання Літвы з Царствам Польскім. У гэтым сэнсе лістападаўскае паўстанне было найперш усяго вайной Польшчы з Расіяй з-за Літвы».

Нас зараз цікавіць: як жа да ўсяго гэтага ставілася літоўская шляхта, за што змагалася?

Літоўскія паўстанцы ў сваім адрасе на імя генерала Хлапоўскага ад 10 чэрвеня прасілі, «каб Літва не разглядалася як правінцыя Польшчы, а лічылася адзіным і непадзельным з ёю целам, каб ва ўсіх правах і адміністрацыйным будаўніцтве, як грамадзянскім, гэтак і ваенным, захавана было поўнае адзінства». Гэта значыць, што шляхта імкнулася адрадзіць былую адміністрацыйную сістэму Рэчы Паспалітай, калі на агульных Вальных Соймах прысутнічала роўная колькасць дэпутатаў як ад Польшчы, гэтак і ад Вялікага княства Літоўскага. Значыць, шляхта імкнулася да адраджэння Рэчы Паспалітай з аўтаномнымі Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім. Што звязвала літоўскую шляхту з польскай? А звязвалі іх агульныя філасофска-палітычныя погляды і традыцыі, якія былі цалкам супрацьлеглыя расійскім. Вось разважанні аб гэтым Зыгмунта Серакоўскага, аднаго з буйнейшых кіраўнікоў паўстання 1863 г.

«Да гэтага часу шмат хто здзіўляецца, чаму перадавыя людзі Літвы і Русі (зямля Валынская і княства Кіеўскае)[1] пажадалі вуніі з Польшчай? Але гэта зразумела.

У XVI ст. Польшча стаяла вышэй не толькі за іншыя славянскія народы, але шмат у чым апярэдзіла заходнееўрапейскія. Палітычныя правы паўнапраўных грамадзян, судовых устаноў, аўтаномія правінцый уяўлялі такую высокую ступень развіцця і выпрацаванасці, што нават у будучыні яны могуць служыць скарбніцай для іншых, у асаблівасці славянскіх народаў. (Не зусім дакладна. Да Люблінскай вуніі адміністрацыйная і палітычная структура Вялікага княства Літоўскага стаяла амаль на аднолькавым узроўні з Польшчай. Асноўнай жа прычынай утварэння Рэчы Паспалітай з'явілася вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскім царствам, а Польшчы — з Асманскай імперыяй. Не забудзем таксама, што трэці Статут Вялікага княства Літоўскага (1588 г.) быў асноваю для кадыфікацыі польскага права.— А. Ш.)

Мы казалі аб правах паўнапраўных грамадзян. Праўда, што паўнапраўным было так званае рыцарскае саслоўе — шляхта, але яно складала амаль дзесятую частку народанасельніцтва. Да шляхты належала каля мільёна душ. Успомнім, што ў канстытуцыйнай Францыі, часоў Людовіка-Філіпа, усяго 200000 грамадзян карысталіся палітычнымі правамі, што ў цяперашні час (XIX ст.— А. Ш.) у славутай сваім палітычным развіццём Англіі не назбіраецца і мільён людзей, якія карыстаюцца гэтымі ж правамі.

Пры гэтым рыцарскае саслоўе не было замкнёна, не было кастай. Яшчэ ў пачатку XVII ст. Соймы давалі ўзнагароду за мужнасць цэлым харугвам, цэлым вайсковым атрадам правы паўнапраўных грамадзян, правы палітычныя...

Нарэшце, вядома, што паводле канстытуцыі 1791 г., сяляне выйшлі з-пад улады ўласнікаў»[2].

Так пісаў Зыгмунт Серакоўскі. А цяпер зірнем на Расію. Там дваране ў XVI—XVII стст. называлі сябе халопамі цара. Толькі ў XVIII ст. у іх з'явіліся сякія-такія вольнасці. Выступаць супраць тыраніі цара яны не маглі. Інакш было ў Рэчы Паспалітай: «...у краіне, дзе, як ведаеш ты, на карону і ў каралевіча і ў шляхціца з загону, здаецца, шанцы роўныя былі...» (Адам Міцкевіч. «Пан Тадэвуш»)

Наогул, Адам Міцкевіч — добры прыклад шляхціца-літвіна, які змагаўся за адраджэнне Рэчы Паспалітай, быў легіянерам, спяваў «ешчэ Польска не згінэнла» і тым не менш пісаў: «Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое...»

Цалкам раскрываюць польска-літоўскія ўзаемаадносіны наступныя яго словы з «Пана Тадэвуша»:

«Дабжынцы (палякі) і літвіны — гэта ж два народы.
Не помнячы даўнейшых звад паміж сабою,
Яны з'яднаны ўсё ж супольнай барацьбою».

Менавіта з такім духам братэрства і паўставалі лепшыя сыны нашага народа на працягу амаль усяго XIX ст. за адраджэнне федэратыўнай Рэчы Паспалітай з яе парламенцкімі традыцыямі і вольнасцямі. Да пачатку XX ст. ідэалы польска-літоўскага (беларускага) братэрства былі страчаныя. Але гэта — асобная тэма.

**Алесь ШАВЕЛЬ,**
**студэнт БДУ**

---

[1] Заўвага З. Серакоўскага.

[2] Пра канстытуцыю 1791 г. будзе надрукаваны артыкул у № 4 «Крыніцы».— Рэд.



# ЛІСТЫ З ЕЎРОПЫ

**Уладзімір РЭКШАН — Уладзіславу АХРОМЕНКУ**

Дзень добры, Слава!

Вось і надарылася хвілінка, каб чыркануць табе. Думаеш, што пішу я з Рыма? Не, да Рыма яшчэ ехаць ды ехаць. Ды і што, аднак, такога ў Рыме? Пра яго мы з дзяцінства ведаем амаль усё. А вось пра «дно» горада Будапешта, сталіцы краіны Венгрыя, я даведаўся толькі некалькі гадзін таму. Уласна, і пішу са «дна», але нічога — нармалёва. Наркаманы ўжо не чапляюцца, дый негры пайшлі спаць на падлогу ў суседні адсек, там, дзе камеры захоўвання.

Зрэшты, па парадку. Выехалі мы з радзімы «драўляных» рублёў не без стратаў: у Львове ў двух мастакоў сцягнулі замежныя пашпарты. Мы пабедавалі, дый паехалі далей. Мы, я ж распавядаў табе надоечы,— гэта дзеячы піцерскага авангарду: тэатралы, рок-н-рольшчыкі, некрарэалісты («мерцвякі», як я іх называю) і іншыя. Едзем мы ў краіну Італію, на поўдзень гэтай краіны, у горад Бары, каб, значыцца, устрывожыць мясцовыя норавы. Я не магу, паклаўшы руку на сэрца, так ужо адразу назваць сябе авангардыстам, але вырашыў на час узначаліць правае крыло левага мастацтва і прачытаць лекцыю пра свой «метад сацыялістычнага ідэалізму», мяркуючы пры выпадку ўзначаліць і левае крыло мастацтва правага. Такое вось глупства, але праўда.

У Будапешт мы прыехалі зранку і выйшлі на чысты перон вакзала Калеці (каб ён куды-небудзь праваліўся!), знайшлі патрэбнае ваконца і высветлілі, што цягнік на Заграб адыходзіць праз суткі. У суседнім ваконцы ветлівы мадзьяр ласкава нам паведаміў, быццам бы яны, дзяржава Венгрыя, у труне нас бачылі, дзяржаву СССР, і мяняюць рублі на форынты па цікавым курсе, якім яны ўсё роўна як даюць зразумець, быццам бы форынты — гэта долары. Кажуць, што рубель — гэта два форынты, а месяц таму давалі семнаццаць. А кубак гарбаты каштуе дзевяць (хай яны праваляцца разам з вакзалам) гэтых самых форынтаў. Дзіўнае гэта адчуванне нечаканае галечы...

Але пад прыгожым скляпеннем Келеці (хай ён праваліцца) ходзіць вельмі шмат неграў, арабаў і троху меней мадзьяраў, і ў кожнага ў руках пачкі розных грошай, якія яны прадаюць, а іншыя набываюць. Не такія ўжо і мы валёнкі! Піцерскія авангардысты ўзялі з добрага мадзьяра па пяць форынтаў за рубель (палякі, чэрці, даюць па шэсць), разарыліся на камеру захоўвання і пайшлі гуляць па Пешту ў бок Дуная.

Ты прабач, Слава, за такую прозу, але ў замежным жыцці прозы хапае і, тым больш, гэта можа пацешыць цябе.

А Пешт, Слава, прыгожая і гандлёвая палова іхняй сталіцы. Марозіць! Зімовае сонца ў смузе неба — проста цудоўнае, як і вітрыны навокал, у якіх ёсць усё — бананы, піва, «пэлмэлы», «шмацяра» і іншае. Вельмі шмат у Пешце голага парнаграфічнага цела, чаго я, шчыра, не думаў пабачыць. Можа, у гэтым і ёсць іх Амерыка? Мне здавалася, што сапраўдны Захад неяк самаахоўваецца, выціскаючы «ню» ў спецкварталы. Пра гэта я нават паспрачаўся з адным авангардыстам. Але людзі на вуліцах ходзяць апранутыя і вясёлыя. Шмат Дзедаў Марозаў і дзяцей, якія смяюцца. «Мусароў» і памыяк няма зусім.

А вось і прыгажун Дунай. Памятаеш, як пяецца ў песні: «Вышла мадьярка на берег Дуная, бросила в воду цветок...» Мы таксама выйшлі, але з іншай мэтай. За Дунаем падымалася Буда, як на карціне Манэ пра — забыўся які — замак.

Але пара было і «гонар ведаць» і вяртацца на Келеці (каб ён праваліўся). Па дарозе вырашылі з Толем Гуніцкім (рок-прэса, драма-абсурд) наведаць іншы вакзал, Паўднёвы, і параўнаць з Келеці. Там знайшлі чалавек дзвесце алкаголікаў, бомжаў, бічоў — не ведаю, як іх па-мадзьярску,— яны спалі на кардонках і нейкіх трантах. І ўсё гэта ў атачэнні сапраўднага дызайну — камень, шкло, метал.

І падумаў тады я — краіна ўсё ж такі маленькая, Сібіры няма, якая ў нас паглынае амаль усю публіку падобнага кшталту; вось і жывуць людзі на відным месцы.

У метро ў іх можна ездзіць «зайцам» і не плаціць пяці (каб яны праваліліся) форынтаў. Мы даехалі з Гуніцкім да Келеці і сустрэлі іншых авангардыстаў, якія не спалі ў крэслах чакальні, як мы меркавалі, з дзвюх прычын: не было вольных месцаў — раз, і не клаліся пакуль спаць мясцовыя негры, наркаманы, алкаголікі і сутэнеры — два. Прытулішся дзе-небудзь, «закемарыш», а цябе, раптам, возьмуць і прырэжуць!

Але вось нас шмат і мы пачынаем змагацца. Начны тэрмометр паказвае —10°С; вельмі холадна. З авангардысцкім запалам мы адганяем ад батарэі венгерскага алкаголіка і, заняўшы яго месца, трохі адаграваемся. Падпаўзае бяззубы і просіць цыгарэту. У куце, пад лахманамі — тата, маці і дачка год чатырох. «Металюгі»-наркоты зваліліся ў кучу і паснулі. Падсеў араб і загаварыў па-расейску. Я чакаў правакацыі, але араб аказаўся наш, з Алжыру, вучыўся ў СССР, рады пагаманіць, і, да таго ж, мы чакаем аднаго цягніка, а ён тут усё ведае, дапаможа. Авангардысты з палёгкаю ўздыхаюць, бо «западаць» на наступныя суткі на Келеці не хацелася бы.

Аднак заціхае «дно». Я выходжу на туманны, скалелы перон, п'ю каву ў кругласутачнай лаўцы (усё ёсць!) за пятнаццаць (каб яны!) форынтаў і пачынаю гэтыя няскладныя радкі. Ты ўжо прабач, Слава, за почырк — д'ябальскі холад.

З пашанаю, Уладзімір Рэкшан

*Будапешт, 1 снежня, 4 раніцы.*

Прывітанне!

Вось яна — Італія! Пісаць нязручна, але не магу ўтрымацца. Пішу рублена, бо з аўтобуса. Наш «Форд» ляціць праз Апеніны. А перад гэтым быў Рым. Да таго — ноч. Увечары — Трыест. Да таго на мяжы італьянскія вайскоўцы «знялі» нашага араба. Перад гэтым ён і сам скардзіўся: «Араб я, нас здымаюць з цягнікоў і шукаюць бомбы». Нам яго шкада. Ён амаль плакаў — спазняецца ў Геную, добры чалавек. У Заграбе ўсё каштуе мільярды, але народ энергічны.

Спяшаюся паведаміць пра іншае. Рым. Раён вакзала. Праз тры хвіліны нашага фатографа абчысцілі малалетнія прастытуткі. Набеглі, як зграя, сталі хапаць. Збеглі. Фатограф хапіўся — няма пашпарту і зваротнага білету. Кінуў торбу. Дзеўкі за рог збочваюць. Фатограф з крыкам: «Апорто!» — за імі. Хуткасць алімпійская. Пераскоквае цераз машыны, а машын шмат: «Усё, галяк, не дагнаць». Прахожыя дзядзькі схапілі дзевак. Падбег пацярпелы, падбеглі карабінеры з аўтаматамі. Усе лямантуюць нешта па-італьянску. Сяржант кажа чароўную фразу. Адна з дзевак задзірае прыпол і выцягвае аднекуль лёс нешчаслівага. Пад'язджае паліцэйскі «газік». Дзеўку кідаюць галавою наперад. На нашых вачах чалавек усё згубіў і вярнуў праз дзесяць хвілін. Ён ледзь не плача ад радасці.

Нас сустракаюць прадстаўнікі фірмы «Арчы-Нова» («Новае мастацтва»), частуюць сняданкам, саджаюць у «Форд» і вось — Апеніны. Нізкія горы, рэшткі замкаў, хуткасная шаша, прыгажосць, зямля ўся разгароджаная, дагледжаная.

Пісаць нязручна. Усё. Спыняецца «Форд» — клічуць палуднаваць у тратторыю. Што ж, паглядзім на іх капіталістычны рай. Ліст заклейваю. Адпраўлю з гэтага пасёлку гарадскога тыпу.

Бывай.

Уладзімір Рэкшан

*Апеніны, 3 снежня, дзень.*

*4 снежня.*

Салют табе, Слава, з горада Бары!

Ужо ноч, цёплая адрыятычная ноч, але мне не спіцца ў маім стодоларавым (у суткі) нумары гатэля «Арыент» (чатыры зоркі!).

Рай, Славік, наступіў імкліва, і ў раі, здаецца, да вытанчанага мастацтва піцерскага авангарду ставяцца спакойна, з цікаўнасцю і пэўнай паблажлівасцю.

Паколькі на тэарэтычную канферэнцыю мы спазніліся, то ў нас была толькі дробная магчымасць уразіць тутэйшы люд. Наш «Форд» прыкаціў у чатыры, а ў пяць меркавалася сустрэча ў Санта Схаластыка і выступленне «тэарэтыкаў» — Гуніцкі, Ларыса Мельнікава (тэатр) і я. Паспелі адно кінуць рэчы ў гатэлі і расправіць складкі пакамечанага адзення.

У старым цэнтры Бары, побач з царквою, дзе захоўваюцца мошчы св. Мікалая, на горцы ў былым ці то кляштары, ці то універсітэце цяпер культурны цэнтр... Карацей, перад намі стол, мікрафон, перад намі пятнаццаць піцерскіх-родненькіх авангардыстаў і адзінаццаць (сам лічыў) грамадзян Італьянскай рэспублікі. Перакладчыца Ева тлумачыць тое, што кажуць Гуніцкі і Мельнікава.

Тое, што яны звычайна кажуць, я пераказваць не буду — сам ведаеш. Я ж збіраўся зачытаць даклад на тэму: «Пошукі новых ідэалаў і некаторыя аспекты маладзёжнай свядомасці ў СССР». Крута? Я рыхтаваў даклад, у якім сур'ёзнае і несур'езнае. Але ў сціслым выглядзе пра што гаварыць? Пра несур'ёзнае — дурнота. Чытаю тады «метад сацыялістычнага ідэалізму». Разумееш, хацелася прадаць сябе даражэй! Перакладчыца пакутуе, а прысутныя засынаюць. Тое, што піцерскія-родненькія паснулі, зразумела — вынік алкагольнага ап'янення. А італьянцы што ж? Культурны, здаецца, народ.

Ну, мы просім задаваць пытанні — усе спяць. Толькі адна журналістка прачнулася і спытала Гуніцкага пра прыказку «з ка-

рабля на баль». Давялося тлумачыць. Толькі праз гадзіну ў рэстаране я ўсё зразумеў... Аднак, прабач, Слава... Сіло Марфея, так бы мовіць...

Сплю...

Бонжорно, Славік, даруй і дзень добры!

Не пісаў табе гэтыя дні, бо зусім закруціла райскае жыццё. Устаю даволі рана — гадзіне а дзесятай. Сыходжу ўніз, дзе частуюць англійскім брэкфастам — кава, вяршкі, брыёшы, джэм. Выходжу на ўзбярэжжа ў тым самым месцы, дзе стаіць помнік нейкаму фашысцкаму генералу і абыходжу рыбны рынак — там гандлююць тым, што нават не ведаю як называецца. Усё жывое і ўсяго шмат. Тут жа летанкі з крадзенымі аўтамабільнымі магнітафонамі. Гандлююць змрочныя пысы. Калі зняць з іх курткі і кашулі, абавязкова знойдзеш татуіроўку. Накшталт «не забуду мамо міа». Добра. Іду далей. Гляджу ў чыстае мора. Караблікі там розныя. Бадзяюся па горадзе адзін альбо з кім-небудзь з роднënькіх. Разглядваю розныя рэчы. Вывучаю кошт, але асцярожна. У першы ж дзень накінуліся мясцовыя гандлёўкі і прадалі «ватнік» за сорак долараў. А я збіраўся купіць дыктафон. Хаджу цяпер у ватніку, а ў ім ужо зламалася запінка... А другой гадзіне іду ў рэстаран, і там пачынаецца самае цікавае.

Падыходзяць удвух у белым і прапануюць гастранамічнае дасье, у якім амаль усё надрукавана па-італьянску. А па-руску яны зусім не разумеюць. Дый па-англійску таксама. Але ж і мы па-англійску ледзьледзь. У першы дзень вырашылі з Гуніцкім схітраваць. «Ты,— кажу, замаўляй уно б'янко перфаворэ. А я, як быццам пераборлівы, уно росо перфаворэ. Вось і атрымаецца ў нас дзве пляшкі. Але ўсё гэта, Слава, лухта, расейская лухта і бязглуздзіца. З ранняга дзяцінства я заўсёды думаў: духоўная ежа — святое, матэрыяльная — нікчэмнасць. Як я памыляўся! Як не так жыў амаль да сарака!

Абедаем і вячэраем мы доўга, з'ядаем нейкія неверагодныя стравы, якія падаюць не папытаўшыся ў нас і ў абавязковым парадку, а пра галоўную страву пытаюцца: «фіш ці міт»? Слава, гэта не толькі рыба, але і ўсё, што плавае — васьміногі д'яблавыя, ракаўкі дурацкія. Час ад часу мы заходзімся ад беспадстаўнага смеху, які пераходзіць у істэрычны рогат. Гастранамічны экстаз выклікае дэсерт, які складаецца з ананасаў, бананаў і іншай садавіны тыпу ківі. Ты даруй мне. Магчыма, я вар'яцею, можа, подла мне пісаць гэтыя радкі ў галодную айчыну і табе цікава даведацца пра фестываль...

Добра, прымушу сябе і распавяду пра мастацтва. Фірма «Арчы-Нова» (яе філіял ў Бары) выкарыстоўвае ўласны праект «Неўскі праспект», прадугледжваючы ўдзел у ім яркіх прадстаўнікоў рэвалюцыйнага мастацтва «абнаўляюшчагася» сацыялізму. У буклеце, які выдалі італьянцы, я прачытаў наступнае: «Тое, што бачыш на вуліцах рускага горада, гэта нудота, якая сціскае горла. Але ж тое, што адбываецца ў лабараторыях, у культурных суполках, у кінастудыях — далёкае ад назіранняў турыстаў. Гэта выклікае неабмежаваную жыццёвую сілу і магчымасці... Дарэчы, прадугледжвалася выдаць не буклет, а аб'ёмісты часопіс. У ім была б магчымасць выказацца ўсім удзельнікам «Неўскага праспекта». На жаль, часопіс не выйшаў. Тры разы матэрыялы, падрыхтаваныя ў Ленінградзе, блакіравала савецкая мяжа без усялякіх тлумачэнняў... Я павінен казаць шчыра, я не думаў, што гэта можа здарыцца, можа, мы пераацанілі рэальную сітуацыю ў СССР. Нам крыўдна, што гэта здарылася менавіта ў той момант, калі Міхаіл Гарбачоў рабіў афіцыйны візіт у Італію».

(Антоніо Прынчыгалі, Прэзідэнт «Арчынова», г. Бары)

У Санта Схаласціка выставілі працы неа-фавіст Кацельнікаў і некрарэаліст Андрэй Мёртвы, была вялікая фотаэкспазіцыя. «Сімптаматычная карціна Андрэя Мёртвага «Вясна» — жанчына са слядамі трупнага разлажэння на целе, якая ўспрымаецца як выразная алегорыя сучаснасці, што стаіць на мяжы экалагічнай катастрофы». Загадка, але прыкладна так і даволі шмат на гэтую тэму, плюс некракіно Юфіта.

Гурт...



Паспяховым мне здалося выступленне фры-джазістаў Гайваронскага і Волкава. Труба і кантрабас! Тры гадзіны трымаць увагу! (У джазавым сутарэнні сабраліся знаўцы і прымалі дуэт без фанатызму, але добра).

Пад галоўную дзею жывога мастацтва аддалі Тэатр Петручэлі. 6-га ўвечары там выступілі «Гульні» і «Попмеханіка» Сяргея Курохіна. Рок і хэпінінг, на мой погляд, было даволі недарэчным экспартаваць у тэатр з пазалочанымі ложамі, з адказным персаналам у смокінгах; у рэпертуарным плане ўсё гэта паміж Марысам Бежарам і Рэем Чарльзам.

Публіка запоўніла залу на дзве трэці, і гэта лічыцца поспехам. Група «Гульні» адпрацавала дыхтоўна, без «іскрынкі». Ім было крыўдна разыгрываць залу перад Курохіным, гледачы ўспрымалі іх выхад



Гурт «ДРЭВА».
Фота Андрэя УСАВА

менавіта як раскачку, але сумленная праца ў мяне заўсёды выклікала павагу. Нашкодзілі «Гульням» тутэйшыя спецыялісты, якія перыядычна і недарэчна пускалі ў залу дым і бяздарна працавалі са святлом.

Усё ж — Курохін! Наш экспартны блазан! Нафта, газ, лес і Курохін. І БГ у дадатак. Але апошні неяк зусім растварыўся ў эмпірэях поспеху, а вось Курохін — жывы ходзіць, зараз закруціць сваю дзею... «Поп-механіка» пачалася з гітарыста Ляпіна. Той выйшаў на сцэну і дзесяць хвілін зноў жа ў дыме «металізаваў» упэўнена і гучна. Пасля яго Курохін пачаў цюкаць рэдкімі акордамі, а італьянскія трубачы выконвалі «фры». Потым выйшаў хор, Курохін пачаў дырыжыраваць, эпаціраваць і трыбушыць прадстаўнікоў радзімы бельканта. Хору гэта вельмі спадабалася. Потым вывелі каня, а Цітоў сеў на яго і спуджана зайграў на басе. Эпізадычна на сцэне з'яўляліся некрарэалісты Юфіт і Мёртвы — невядома навошта. Шоу-чалавек Чарноў з'еў жывога васьмінога і доўга ванітаваў за сцэнаю. У апафеозе дзеяння неафавіст Кацельнікаў алегарычна авалодаў некрарэалістам Юфітам. Па сцэне бегалі куры. У зале ўспрымалі па-рознаму, але ж некаторыя ўсё-такі плакалі ад шчасця, дакранаючыся да сапраўднага мастацтва «абнаўляючагася сацыялізму», а назаўтра мясцовыя абаронцы жывёльнага свету падалі пратэст...

Яшчэ быў тэатр «Дрэва». Яны маюць у Еўропе добрую прэсу і ў Бары прыляцелі з Англіі. Прыйшла публіка, купіла квіткі ў Санта Схаласціка. Выйшлі брытагаловыя дзяўчаты ў фае і пачалі экзальтаваць перад уваходам у залу — ты ведаеш, як добра яны гэта ўмеюць! А італьянцы не зразумелі і сышлі. А Ларыса Мельнікава шмат распавядала пра сусветныя фестывалі. Матацыкліст сарваў з яе сумачку, у якой знаходзіліся: пашпарт, білет у Саюз і грошы. Нават Гайваронскі не дагнаў матацыкліста. Ты, Славік, будзеш у Італіі — трымай каштоўнасці ў гатэлі.

Пішу табе доўгі ліст, бо аўтобус, які павязе ў Рым, будзе чакаць яшчэ гадзіну і ёсць вольны час. У каго выпадкова знайшліся камандзірскія гадзіннікі, дык тыя не саромеючыся сядзяць у бары і нават пачалі падаць з крэслаў. Я шмат чаго хачу табе распавесці, але гэта пры сустрэчы: пра тое, як Гуніцкі на прыёме танчыў «Яблычка» і паваліў некалькі сталоў з напоямі. Пра тое, як у найт-клабе тры куфлі піва абышліся мне ў шэсць швэдараў, пра тое, якія класныя хлопцы ў камандзе ў Рэя Чарльза...

Вось і аўтобус загудзеў пад вокнамі. Іду выносіць артыстаў.

Чао, Слава, бывай.
У. Рэкшан

Уладзіслаў!

Цяпер мы ў папы рымскага ў саборы св. Паўла. Папа, канечне, не ведае пра Пітэрскі авангард і пра тое, што авангардысты і я спяць каля галоўнага алтара пад купалам Брамантэ і ў атачэнні калосаў Мікельанжэла. Не, Славік, усё прыстойна — мы дрэмлем седзячы, і я паціху падумваю пра зменлівы лёс, які кідае з голаду ў сытасць і назад.

У горадзе Бары нам памахалі рукою — тут і пачалася сапраўдная свабода. Мы неяк хочам свабоды з аднаго боку: каб адчынілі клетку, але мяса, няхай нават тухлага, усё ж падкідвалі ў адведзеныя гадзіны.

У Рыме я, здаецца, напоўніўся, калі не свабодаю, дык перадпрадчуваннем гэтае свабоды. Я быў вольны ў сваім магчымым жаданні разваліцца пасярод Форуму ці Калізея, я мог пракампасціраваць квіток дамоў сёння ці праз тыдзень, я мог спяваць песні прахожым, я мог разбагацець ці нават стаць, за асаблівыя заслугі, прэзідэнтам іхняй рэспублікі. Я быў вольны стаць знакамітым ці ўтапіцца ў Цібры (рачулка тыпу Свіслачы)...

І вось, седзячы ў папы, лаўлю сябе на крамольнай думцы — як гэта найхутчэй апынуцца ў клетцы пад позіркам наглядчыка: нягодніка, злодзея, але ж уладальніка няхай сабе і тухлага, ды ўсё-такі харчавання.

Так, Слава, нам яшчэ выціскаць з сябе раба па кроплі. Калі будзем так доўга цадзіць, дык і пражывём, да смерці маючы асалоду ад клеткі і адначасна лаючы яе...

У Рыме, аднак, Славік, крута, і таму ў мяне проста няма слоў!

Ватыкан, гадзіны чатыры ці пяць, а дата якая, не ведаю, збіўся.
У. Рэкшан

Эх, Слава!

Прачнуўшыся, бягу да праваднiка і пытаюся: «Родненькі, а вагон-рэстаран прычапілі? Не?» Вагон прычапілі, і вось я ў гэтым вагоне каля акна сяджу, чакаю свой боршч, піражок і кампот. А з акна сіфоніць, але за акном родныя чорна-белыя пахмурныя краявіды, нудна і галодна ў прасторы, але так усё зразумела! «Драўляныя» ж грошыкі лаяць не буду ніколі!

Выеўшы боршч да дна, я вылізваў лыжку (звыклую! алюмініевую!), калі на прыпынку ў рэстаран ўляцелі бабы і мужыкі ў недарэчным адзенні і пачалі расхопліваць ежу — хапіла не ўсім.

Слёзы падступілі да вачэй. Я згадаў, як спяваў Шаўчук:

«Родина! Еду на Родину. Пусть кричат — уродина... Эй, начальник!»

Гэта не ліст, Славік, а захапленне душы. Калі вышлю, дык атрымаеш праз месяц. Таму проста перадам пры сустрэчы. А Азія — хутка, хутка Азія...
Рэкшан Уладзімір



Фота Валерыя ПАТАПАВА



## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

### МУЖЧЫНЫ,
якія жадаюць знайсці сяброў (сяброўак) у нашай краіне

1. ДЖЭЙМС МАН, Швецыя. 50 гадоў, 179 см, бландзін, блакітныя вочы. Займаецца выдавецкім бізнесам. Захапленні — падарожжы, сучасная і класічная музыка. Хоча пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў з мэтаю стварыць сям'ю. Мова — англ.

2. ДЖЭЙМС ЛАРСАН, г. Стакгольм, Швецыя. 35 гадоў, 182 см, 74 кг, бландзін, вочы блакітныя. Працуе на чыгуначнай станцыі г. Стакгольма. Адкажа на ліст жанчыны да 30 гадоў з фатаграфіяй. Мова — англ.

3. ЛАЙФ КАРЛСАН, Швецыя. 30 гадоў, 181 см, шатэн. Працуе аўтаэлектрыкам. Захапленні разнастайныя. Мова — англ.

4. РАФІ-УД-ДЗІН, Швецыя. 45 гадоў, родам з Індыі, доўгі час жыве ў Швецыі. Працуе настаўнікам замежных моў. Пазнаёміцца з жанчынай да 40 гадоў. Мова — англ.

5. ЭРНСТ МАЙБЭРЫ, Швецыя. 37 гадоў, 180 см, хударлявы, бландзін, блакітныя вочы. Хобі — музыка, спорт, відэа, падарожжы. Мова — англ.

6. ХІРОКАЗУ МАТЦУОКА, г. Токіо, Японія. 27 гадоў. Пазнаёміцца з дзяўчынай да 25 гадоў. Разнастайныя захапленні. Мова — англ.

7. ШО-СЕОНГ-ХАН, Паўднёвая Карэя. 26 гадоў. Захапленні — музыка, спорт, камп'ютэры. Хоча знайсці сяброў у іншых краінах. Мова — англ.

### ЖАНЧЫНЫ,
якія жадаюць знайсці сяброў (сяброўак) у нашай краіне

1. ДЖУЛІЯ ДОРШЭР, ЗША. 18 гадоў, студэнтка. Захапленні — танцы, музыка, спорт, камп'ютэры, перапіска. Хоча перапісвацца з людзьмі з іншых краін. Мова — англ.

2. ЛУЧЫЯНА ГАДАЛЕТА, г. Н'ю-Йорк, ЗША. 24 гады. Калекцыяніруе банкноты, касеты, паштоўкі, захапляецца спортам. Шукае новых сяброў. Мова — англ.

3. КАЗУКО ХАМАДА, г. Асака, Японія. 18 гадоў. Студэнтка універсітэту. Разнастайныя інтарэсы. Мова — англ.

4. ГКЕФРЫ КАРЫМА, Алжыр. 20 гадоў, 170 см. Студэнтка. Захапленні — музыка, танцы, прырода, спорт, падарожжы. Хоча перапісвацца з аднагодкамі з іншых краін.

5. ЮКІКО УЕХАРА, Японія. 18 гадоў. Падабаецца г÷дзець відэа, рабіць пакупкі. Шукае сяброў з іншых краін. Мова — англ.

6. ГАБРЫЭЛА ДУГЛАС, ЗША. 19 гадоў. Захапленні — відэа, музыка, перапіска. Хацела б знайсці сяброў у СССР. Адкажа на лісты з фатаграфіяй. Мова — англ.

7. МІКІ МІНАМІ, Японія. 17 гадоў. Хобі — класічная музыка, іграа на піяніна, чытанне кніг. Адкажа на ўсе лісты. Мова — англ.

Калі вы хочаце пазнаёміцца з аўтарамі аб'явы, вам трэба перавесці на разліковы рахунак (№ 609692 у Фрунзенскім аддзяленні Жылсацбанка г. Мінска, МФО 400 280, малое прадпрыемства № 4) пяць рублёў паштовым пераводам (кошт аднаго адрасу). Калі вы хочаце перапісвацца з равеснікамі да 16 гадоў — пералічыце 1 рубель. Карэньчык квітка аб аплаце разам з лістом дашліце на адрас: 220807, г. Мінск, вул. Кісялёва, д. 11, рэдакцыя часопіса «Крыніца» («КЛУБ МІЖНАРОДНЫХ ЗНАЁМСТВАЎ»). Абавязкова пазначце на канверце РУБРЫКУ і НУМАР часопіса, у якім была надрукавана аб'ява.

# РЫБЫ

**20 лютага — 20 сакавіка**

Планета-апякун — Нептун
Стравы — закускі, салаты
Напоі — мацаваныя трункі
Расліна — плюшч
Кветка — язьмін
Камень — аквамарын

Гэта дванаццаты і апошні знак задыяка. Як Рак і Скар-
піён, ён належыць да знакаў вады. Над імі сумесна апя-
куюцца планеты: Нептун, Юпітэр, Венера. Адсюль і эк-
лектычнасць характараў ягоных прадстаўнікоў, не да
канца зразумелыя і не заўсёды рацыянальныя ўчынкі.
Рыбы вельмі ўразлівыя на чужыя ўплывы, таму ў дзя-
цінстве, калі характар яшчэ толькі ўсталёўваецца, іх неабходна
аберагаць ад кепскіх кампаній, бо яны аднолькава лёгка перай-
маюць як добрае, так і благое. Яны вельмі мілыя, прыязныя ў абы-
ходжанні з іншымі, адчуваюць вялікую патрэбу ў спачуванні, маюць
моцна акрэсленыя здольнасці медыумаў. Адчуваюць вялікую па-
трэбу ў метадычнасці, ладзе, шануюць традыцыі і ўпарадкаванасць,
але большасці з іх прадпрымальнасць не ўласцівая. Аднак пры
спрыяльным раскладзе Сонца і Марса Рыбы бываюць выдатнымі
арганізатарамі, праўда, толькі там, дзе не патрабуецца вялікіх раз-
маху і рызыкі.

Поўныя сімпатыі і добрых намераў, пазбаўленыя эгаізму, Рыбы
нярэдка бяруць на сябе ролі апекуноў і філантропаў, узорна дбаюць
пра гаспадарку і сям'ю. Звычайна, апроч асноўнага занятку, зна-
ходзяць сабе яшчэ адзін, для душы, у якім і рэалізуюць свае здоль-
насці.

Рыбы маюць трохі казачныя ўяўленні аб сваім месцы ў свеце
і ў грамадстве. Мараць пра вялікія значныя справы, адчуваюць
сябе дабрадзеямі ўсяго чалавецтва, але часам мары спраўджваюц-
ца, роля робіцца сапраўдным жыццём, аднак часцей даводзіцца
абмяжоўваць сябе сумленным выкананнем нязначных, будзённых
абавязкаў.

Рыбы панічна баяцца супрацоўніцтва, у пераломныя часы вы-
казваюць нерашучасць, таму звычайна і не рэалізуюць свае жыц-
цёвыя шанцы.

Рахманыя, памяркоўныя, прадбачлівыя, яны адчуваюць патрэ-
бу ў спакоі і бяспецы, за якімі хаваюцца ад неўладкаванасці све-
ту. Аднак калі-нікалі іхняе духоўнае багацце ў спалучэнні з такімі
высокімі маральнымі якасцямі, як: вера, містыцызм, натхненне,
інтуіцыя разам з моцна развітым пачуццём абавязку і годнасці,
дае таленты непаўторнага ўзроўню. Аднак і геніям і звычайным
людзям з-пад гэтага знаку ўласціва перавага інтуіцыі над інтэ-
лектам. Дададзім, што Рыбы рэалізуюць свае здольнасці пераваж-
на ў гуманітарных і прыродазнаўчых навуках, што абіраюць пра-
фесіі, звязаныя з вытворчасцю, прыгатаваннем харчу і напояў —
кулінараў, дэгустатараў; нярэдка звязваюць свой лёс з морам.

Сваё жыццёвае прызначэнне Рыбы зазвычай рэалізуюць
у два этапы: першы з іх замыкаецца
25-ым годам жыцця, другі акрэсліваецца
каля сарака, тады ўжо і адбываецца
стабілізацыя жыццёвай сітуацыі,
лёс робіць свой апошні вызначальны паварот.
Рыбы не належаць да заможных людзей.
Але іхнія гаспадарлівасць і ашчаднасць
заўсёды прадухіляюць нястачу.
Яны добра ведаюць вартасць грошай
і маёмасці, таму сярод іх цяжка напаткаць
марнатраўцаў. У азартных гульнях,
латарэях і спекуляцыі не маюць фарту,
таксама і багатая спадчына часцей
за ўсё мінае іх.

Энергія і здароўе Рыб не з лепшых.
Аднак яны дбаюць пра сваё здароўе,
чым амартызуюць прыродныя
недахопы. Вельмі
падатлівыя на знешнія
ўплывы і захворванне
шляхоў дыхання,
яны павінны
пазбягаць
нікатыну.

Часцей чым іншыя церпяць на хваробы лімфатычных вузлоў, на рэўматызм, лішнюю вагу, дыябет, экзэму, праказу.

Рыбы вызначаюцца разгалінаванай пачуццёвасцю, падатлівасцю на эмацыянальныя правакацыі. Кожнае здарэнне яны не адзін раз аднаўляюць ва ўяўленні, пракручваюць усе магчымыя варыянты, даводзяць да межаў немагчымага. Нептун выяўляе ў Рыбах схільнасць да платанічнага кахання і кахання без узаемнасці, без надзеі на шчасце. Яны свядома абіраюць аб'ект для кахання, якое не можа рэалізавацца з-за розніцы ва ўзросце, сацыяльным статусе, адлегласці і іншых перашкод. Іхнія пачуцці сілкуюцца не эратычнымі рэаліямі, а фантазіямі. Гэта пачынаецца звычайна з першага ж кахання ў маладосці, якое прыходзіць вельмі рана. Абсяг іхніх, узмоцненных уяўленнем, пачуццяў вельмі шырокі, ад афекту сентыментальнай адзіноты да непадробнай трагедыйнасці. Паміж гэтымі крайнімі выпадкамі яны знаходзяць месца на безліч пачуццяў-адценняў, такіх, як каханне-сяброўства, каханне са спачуваннем, каханне-апякунства з элементамі бацькоўства, каханне-авантура, донжуанства і гэтак далей да бясконцасці. Толькі зрэдку Рыбы кахаюць поўна, легальна, бо не любяць, каб іхнія пачуцці былі навідавоку, і аддаюць перавагу каханню патаемнаму. Калі сітуацыя з пачуццямі неакрэсленая і складаная, то для Рыб яе вырашае не свядомы выбар, а выпадковасць.

Рыбы звычайна рэалізуюць сябе ў сям'і, бо, ажаніўшыся, яны тым самым уздымаюць сваё патаемнае каханне-мару на недасягальны ўзровень і таму як ахвярапрынашэнне разглядаюць свой клопат пра блізкіх. У іхнім пачуццёвым жыцці заўсёды мусіць быць сталы элемент расчаравання, ніякая рэальнасць не можа быць на вышыні іхніх мараў. Бывае, што, нават сустрэўшы свой ідэал у жыцці, яны аддаюць перавагу расстанню і ўспамінам, а не рэальным адносінам з рэальнай асобай. Яны схільныя як у жыцці, так і ў каханні да альтруістычных роляў пакутнікаў, бо не маюць адвагі пайсці насуперак уласнаму эгаізму. Нягледзячы на свой пачуццёвы баласт, Рыбы з'яўляюцца ўзорнымі жонкамі і мужамі, а іх шалёныя раманы паступова губляюць свае трагедыйныя адценні і па адным вандруюць да шуфляды, і так поўнай сентыментальных рамантычных успамінаў, з якімі хораша заставацца сам-насам.

Планета Нептун яшчэ вельмі слаба даследаваная. Яе існаванне на падставе чыста матэматычных разлікаў было даведзена толькі ў дваццатых гадах XIX ст.,
а ў тэлескоп яе ўбачылі ўпершыню ў 1846 годзе.
Астралогія прыпісвае Нептуну
даволі змрочны і неспрыяльны ўплыў.
Нептун кіруе несвядомымі сіламі
чалавечай душы, інстынктамі,
цёмнымі праявамі жыцця, скіроўвае
чалавека да ўсяго, што прывабна прывіднае,
дзіўнае, не адпавядае стандартам,
схіляе да акультызму ў паводзінах,
прыносіць чалавеку пачуццё няўпэўненасці
ва ўласных сілах, нясмеласць і пасіўнасць.
Станоўчы ўплыў Нептуна
фармуе паглыбленае касмічнае
разуменне свету,
адорвае адмысловай інтуіцыяй.
Аднак дысанансны ўплыў
выяўляецца мацней.
Бо ён скіраваны на падсвядомасць,
вызваляе інстынкты, выклікае
самнамбулічнасць, любоў
да непрыстойных забаў,
схільнасць
да навязлівых
ідэй.

**ЗНАКАМІТЫЯ ЛЮДЗІ, НАРОДЖАНЫЯ ПАД ЗНАКАМ РЫБ:**
22.02.1810 — Фрыдарык Шапэн
25.02.1873 — Энрыка Каруза
26.02.1802 — Віктор Гюго
27.02.1932 — Элізабэт Тэйлар
1.03.1927 — Гары Белафантэ
6.03.1475 — Мікельанжэла Буанароці
14.03.1879 — Альбэрт Энштэйн



Малюнак Эрнста МАРЦІНЕС-САКАЛОЎСКАГА
Фота Яўгенія СКУРАТОВІЧА